23 ліпеня 2021 | № 28 (736)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Беларусь спартыўная

Стар. 7–18




Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# «Калі ідзеш праз пекла, нельга спыняцца»

Аксана КОЛБ

**Мужнасці, трываласці і нязломнасці гэтай жанчыны можна толькі пазайздросціць. За апошнія 8 месяцаў ёй столькі давялося перажыць, што хапіла б на некалькі жыццяў. Але яна праходзіць праз усе выпрабаванні лёсу — і застацца такой жывой і шчаслівай.**

### «Люда, дыхай!»

— Я шчаслівая, я сапраўды шчаслівая, — кажа Людміла. — У мяне цудоўныя сыны. Проста фантастычныя. Мне не трэба хаваць ад людзей вочы. Бо яны не зрабілі нічога дрэннага. Яны любяць сваю краіну і хочуць бачыць яе вольнай і незалежнай.

Людміла — маці двух палітзняволеных Кіма і Аляксея Самусенкаў. Малодшага, Кіма, падазраюць ва ўзломе камп'ютарнай сістэмы Мінгарвыканкама.

— Абодва мае сыны чаканыя і любімыя ад нараджэння. Я заўсёды хацела сыноў. Яны ў мяне найлепшыя. Хаця і вельмі розныя, — расказвае Людміла. — Лёха — асоба ад нараджэння, мне здаецца, ён адразу ведаў, што яму трэба і для чаго. Ён нешматслоўны, але вельмі глыбокі. Памятаю, было яму можа гады 3–4. Заглядваю да яго, а ён сядзіць такі задуменны. Пытаюся: Пра што думаеш? А ён: «Вясна хутка. Парсючка набываць трэба. Кабачком назавем».

А вось Кім — гэта пратэст ад першай хвіліны нараджэння. Яго паклалі на вагі: ён глядзеў мне ў вочы і гучна крычаў, як быццам не жадаў мірыцца са сваім становішчам. Ён да трох гадоў фактычна не размаўляў. Затое ў 3 гады адразу выдаў: «Ніколі сябраваць не буду». Вось такія ў мяне сыны — з аднаго цеста, але зусім розныя. Я іх вельмі люблю і паважаю. Мая роля была — заставаць побач і не замінаць. Даць магчымасць развівацца, спасцігаць свет.

Памятаю, як у вёсцы, дзе мы набылі старэнькі дамок, каб дзеці маглі гадавацца на чыстым паветры, быў такі выпадак. Пасля дажджу там паўсюль былі лужыны. А адна амаль ніколі не перасыхала. І там былі гусі. І вось мае хлопцы ў той лужыне, разам з гусямі так ужо вывазіліся. Усе мокрыя, брудныя ідуць. А суседка кажа: «Людка, а што ж ты з імі зараз рабіць будзеш?». Кажу: «Ваду з боцікаў вылью».

Быў яшчэ такі выпадак. Аднойчы ў двор зайшла карова і падышла да Кіма. Лёша, якому было чатыры гады, заўважыў гэта і ўстаў паміж каровай і братам. Было відаць, як яму страшна, але ён закрываў Кіма. Гэта такі стрыжань… пачуццё мужчыны, якое не выхаваеш, калі яго няма. Лёша — герой. Кім тым часам разглядаў карову, яму было цікава, зусім не баяўся. Мае дзеці такія розныя, але класныя. Вы не ўяўляеце, як мне пашанцавала з маёй сям'ёй.

Мы вучылі хлопцаў быць добрымі і справядлівымі, ніколі не хлусіць і змагацца за праўду. Яны такія і ёсць. І за гэта — цяпер за кратамі. За гэты час мне шмат пра што давялося падумаць. Дасюль не магу паверыць, што гэта мае сыны.

У нас з сынамі заўсёды была цесная сувязь. Яна не спынілася і цяпер. Я з імі размаўляю ў думках, спрачаюся, нашы стасункі не спыніліся. Я з імі жыву, а час ляціць імкліва. Мы абавязкова ўбачымся, калі гэта ўсё скончыцца. А яно абавязкова скончыцца. Я абдыму маіх хлопчыкаў. І, напэўна, тады я змагу нарэшце выдыхнуць.

А пакуль што кажу сабе: «Люда, дыхай і ідзі далей». Бо калі ідзеш праз пекла, нельга спыняцца. Толькі так можна з яго выйсці.

### Мужчына не можа быць абыякавым

Абодва сыны Людмілы адвучыліся ў беларускамоўнай гімназіі, а пасля атрымалі эканамічную адукацыю.

— Эканамічная адукацыя вучыць на ўсё глядзець праз прызму логікі. Гэта веды, якія дазваляюць бачыць тое, што навокал робіцца, як сістэму, — расказвае Людміла. — І адзін, і другі ўдзельнічалі ў эканамічнай алімпіядзе. Старэйшы два гады выйграваў рэспубліку, а малодшы, калі пачаў удзельнічаць, выйграў толькі першы тур — потым алімпіяду адмянілі.

Працяг на стар. 5 »

# Новыя атакі сілавікоў, вызваленні і перамовы ў ЗША

**Зачыстка грамадзянскай супольнасці і незалежных СМІ працягваецца. Да каго яшчэ прыйшлі на тыдні, каго адпусцілі і што адбываецца ў Беларусі, акрамяператрусаў, — у нашым дайджэсце.**

Адток валюты з дэпазітаў у банках у чэрвені стаў найбуйнейшым за 9 месяцаў — з верасня 2020 года. Асноўны ўклад у гэтае зніжэнне ўнеслі фізічныя асобы: яны забралі з банкаў 271 мільён долараў ЗША. Значэнне сумы валюты на дэпазітных рахунках на 1 ліпеня 2021-га — гэта лакальны мінімум за 79 месяцаў. На гэту дату фізічныя і юрыдычныя асобы трымалі ў банках 10,4 мільярды долараў у эквіваленце.

14 ліпеня Святлана Алексіевіч збіралася ляцець з Берліна ва Уроцлаў на імпрэзу з удзелам іншай нобелеўскай лаўрэаткі, польскай пісьменніцы Вольгі Такарчук, але не здолела. У аэрапорце яе затрымалі з-за таго, што пры ёй, маўляў, была бомба. Пісьменніцу адпусцілі, калі самалёт ужо адляцеў. Бомбу не знайшлі. Арганізатары ўроцлаўскай імпрэзы «Пратэст Алексіевіч і Такарчук» паслалі ноччу ў Берлін аўтамабіль, якім беларуская лаўрэатка Нобелеўскай прэміі даехала да Уроцлава.

На свабоду выйшаў палітвязень, які на фасадзе дома напісаў: «Но избавь нас от лукавого». 14 чэрвеня Андрэй Леванюк пачаў адбываць пакаранне ў брэсцкім СІЗА-7, а 14 ліпеня выйшаў на волю. Андрэя абвінавацілі ў тым, што ён «на фасадзе дома нанёс чырвонай фарбай з балончыка надпіс, чым нанёс шкоду ЖЭС-6 на суму 51 рубель 99 капеек». Паводле абвінавачвання, гэты надпіс пагоршыў «эстэтычнае ўспрыманне» будынка. 7 красавіка ў Маскоўскім судзе Брэста Андрэя Леванюка асудзілі да 1 месяца арышту па крымінальнай справе аб апаганьванні збудаванняў і псаванні маёмасці (артыкул 341 КК).

Міністэрства юстыцыі вынесла пісьмовае папярэджанне ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў». У папярэджанні гаворыцца, што БАЖ не прадаставіла ўсе запатрабаваныя раней дакументы, а таксама ў міністэрства ўзніклі пытанні да дамоваў для юрыдычных адрасоў некаторых філій арганізацыі. Мінюст загадвае прыняць меры па ліквідацыі парушэння, пра што праінфармаваць ведамства 16 ліпеня (ліст БАЖ атрымала 15-га). Офіс арганізацыі апячатаны. А 20 ліпеня стала вядома, што аперацыі па рахунку БАЖ замарожаныя.

Тэрміны самаізаляцыі для кантактаў з хворымі на каронавірус першага ўзроўню ў Беларусі скарацілі з 10 да 7 дзён.

Цягам тыдня ў шэрагу грамадскіх арганізацый, актывістаў і ў рэдакцыях СМІ прайшліператрусы. Сілавікі прыходзілі ў «Гавары праўду», да кіраўніцтва цэнтра «Грамадзянскі форум», дырэктаркі ГА «Экадом» Марыны Дубінай. 16 ліпеня атакавалі журналістаў «Белсата» і «Радыё Свабода». Сілавікі прыйшлі да журналістаў Глеба Лабадзенкі, Галіны Абакунчык. Журналіста «Белсата» Ігара Ільяша таксама затрымалі. Прыйшлі зператрусам да журналіста Яўгена Меркіса з Гомеля. У гродзенскіх журналістаў Аляксея Кайрыса, Хрысціны Чарняўскай, Паўла Мажэйкі таксама прайшліператрусы. У мінскім офісе «Радыё Свабода» выламалі дзверы. Затрымалі журналістаў «Свабоды», у якіх летась забралі акрэдытацыі, — Інэсу Студзінскую, Алеся Дашчынскага, Алега Груздзіловіча, адвакатаў да іх не пускаюць, у чым абвінавачваюць, не вядома. Затое стала вядома, што Студзінская абвясціла на Акрэсціна галадоўку. У кватэрах журналістаў прайшліператрусы. Прыйшлі зператрусам і ў кватэру журналіста «Радыё Свабода» Валянціна Жданко.

Ператрус адбыўся ў журналісткі Любові Лунёвай (цяпер яна на волі), а таксама — на сядзібе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і ў кватэры старшыні, Алены Анісім.

Ператрус прайшоў і ў гомельскай журналісткі Ларысы Шчыраковай. У офісе незалежнага прафсаюза РЭП на вуліцы Кульман адбыўся ператрус, сілавікі выламалі дзверы. Там жа знаходзіцца офіс сацыяльна-асветніцкай праваабарончай установы «ТаймАкт», у ім таксама адбыўся ператрус. Вобшукі і затрыманні зведалі яшчэ шэраг журналістаў і актывістаў у рэгіёнах. 19 ліпеня сілавікі прыйшлі ў рэдакцыю недзяржаўнай «Рэгіянальнай газеты» ў Маладзечне. Супрацоўнікаў дапыталі і вызвалілі пад падпіску.

Некаторых затрыманых пасля ператрусаў сталі выпускаць пад падпіску. Пасля сямі дзён у ІЧУ палітык і праваабаронца Васіль Палякоў выйшаў на свабоду. Яго затрымалі 8 ліпеня, падазравалі паводле часткі 2 артыкулу 289 Крымінальнага кодэкса на «саўдзельніка ў тэрарызме». Абвінавачванне яму не прад’явілі.

На волю выйшаў гомельскі валанцёр Ілля Міронаў. Праваабаронцу «Вясны» і журналіста Сяржука Сыса, затрыманага 14 ліпеня ў межах крымінальнай справы, 15 ліпеня вызвалілі пасля допыту пад падпіску аб нявыездзе. Гродзенскі праваабаронца Віктар Сазонаў выйшаў з ізалятара, у яго статус падазраванага. Віктара Сазонава затрымалі 14 ліпеня ў ліку іншага дзясятка праваабаронцаў па крымінальнай справе, дзе фігуруюць два артыкулы — 342 і 243. А 16 ліпеня на волю выйшлі бухгалтарка «Нашай Нівы» Вольга Раковіч і актывістка з Бараўлян Марыя Вайтовіч.

Кіраўнік свабоднага прафсаюза з Полацка Мікалай Шарах выйшаў на волю пасля 72 гадзін з моманту затрымання. Мікалай быў затрыманы 14 ліпеня. Дома ў актывіста правялі ператрус у межах крымінальнай справы па арт. 341 КК (апаганьванне збудаванняў і псаванне маёмасці). Праваабаронцы Андрэй Палуда і Алена Лапцёнак выйшлі на волю, яны былі затрыманыя ў межах крымінальнай справы 14 ліпеня. Таксама пад падпіску аб нявыездзе былі вызваленыя палітвязні Яўгенія Бабаева і Сяргей Мацкевіч.

Лукашэнка падпісаў закон «Аб змяненні законаў у пытаннях абароны суверэнітэту і канстытуцыйнага ладу». У адпаведнасці з дакументам, уносяцца папраўкі ў закон «Аб надзвычайным становішчы». Падставай для ўвядзення надзвычайнага становішча (акрамя стыхійных бедстваў і катастроф) з’яўляецца наяўнасць беспарадкаў, што суправаджаюцца гвалтам з боку групы асоб і арганізацый, у выніку якіх узнікае небяспека для жыцця і здароўя людзей, тэрытарыяльнай цэласнасці і існавання дзяржавы. У дакуменце канкрэтызуецца, што да беспарадкаў адносяцца спробы гвалтоўнай змены канстытуцыйнага ладу, захопу або прысваення ўлады, збройны мяцеж, масавыя беспарадкі, міжнацыянальныя і міжканфесійныя канфлікты. Новы закон прадугледжвае прыпыненне выпуску і распаўсюду прадукцыі СМІ (у тым ліку замежных), усталяванне асаблівага парадку акрэдытацыі журналістаў, абмежаванне доступу да інтэрнэт-рэсурсаў і сеткавых выданняў. Пашыраецца кола сілавых органаў, якія прыцягваюцца да забеспячэння рэжыму надзвычайнага становішча, за кошт уключэння ў іх лік ваенізаваных арганізацый. Гэта дазволіць на «поўных законных падставах» задзейнічаць сілы і сродкі МНС, СК, Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз, ДФР.

Раніцай 16 ліпеня ў судзе Савецкага раёна Мінска агучылі прысуды па «Справе студэнтаў». Суддзя прысудзіў такія ж тэрміны зняволення, якія і прасіў пракурор. 11 чалавек атрымалі па 2,5 гады калоніі агульнага рэжыму. Выключэннем стаў Глеб Фіцнер — адзіны, хто прызнаў віну. Яму прысудзілі два гады калоніі.

19 ліпеня ў Вашынгтоне адбыліся перамовы Ціханоўскай з дзяржсакратаром ЗША Энтані Блінкенам, яны працягваліся гадзіну. Ціханоўская заклікала ЗША прыняць пакет тэрміновай падтрымкі для медыя, грамадзянскай супольнасці, рэпрэсаванага бізнесу, студэнтаў і выкладчыкаў, палітвязняў і іх сем’яў. Таксама Ціханоўская заклікала Вашынгтон даць сігнал Расіі аб тым, што падпісаныя з існай беларускай уладай дамовы не будуць прызнанымі ў будучыні.

Раніцай 20 ліпеня пачаліся ператрусы ў мінскім шматкватэрным доме па адрасе праспект Дзяржынскага, 119. Сілавікі прыехалі на некалькіх бусах і наведвалі розныя пад’езды, грукалі ў дзверы «паводле спісу». Глядзелі сімволіку і тэлеграм. Пазней стала вядома, што прыходзілі да тых, каго з палітычных матываў затрымлівалі раней. Такія ж рэйды ўжо праводзіліся ва Уруччы.

Затрыманыя гісторык і навуковец Андрусь Мастыка і яго жонка Таццяна Мастыка, якая ў мінулым узначальвала грамадскае аб’яднанне «Гісторыка». Да іх з вобшукам прыходзілі супрацоўнікі КДБ. Што шукалі і па якой справе, невядома. Таццяну забралі ў цэнтральны апарат КДБ, месцазнаходжанне Андруся пакуль не вядомае.

Затрымалі ўдзельніка гуртоў «TonqiXod» і «Subtonans» Максіма Субача. У сакавіку Максім ехаў на машыне і на святлафоры ўбачыў, як з «характэрнага» буса нехта сфатаграфаваў яго налепку — «Пагоню». Бус з’ехаў, але гісторыя мела працяг. Не так даўно у Максіма скончыўся тэрмін дзеяння вадзіцельскіх правоў, і ён пайшоў іх мяняць у ДАІ. Там яго папрасілі наведаць участковага ў Кастрычніцкім РУУС. Максім адмовіўся, маўляў, выклікайце афіцыйна — прыйду. Але без наведвання ўчастковага правы музыку не аддавалі. І калі ў чарговы раз яму патэлефанавалі з прапановай прыйсці ў РУУС, ён пайшоў — і быў затрыманы да суда.

Вось такі выдаўся другі тыдзень запар. Хутчэй за ўсё, пакуль нумар выйдзе з друку, будуць вядомыя новыя факты пераследу грамадзянскай супольнасці.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Калі маўчанне — не золата

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Усё ж сумленнасць — гэта найлепшая палітыка. Напрыклад, калі доктар сумленна кажа пацыенту, што з ім адбываецца, тады пацыент не скардзіцца на лячэнне. А калі Міндароўя нароўні з Белстатам, напрыклад, хавае праўду па смяротнасці ад covid-19, потым гэтая праўда вылазіць вельмі непрыемна — скажам, на выбарах.**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Паводле дзяржаўных тэлеканалаў і згодна з дзяржаўнай статыстыкай — у нас пакуль усё добра. Аднак, калі раней Белстат закрыў статыстыку па смяротнасці (відавочна, каб не было магчымасці падлічыць рэальную смяротнасць ад covid-19), то цяпер закрытая і іншая статыстыка. Напрыклад, ужо не дазнаешся лічбаў па экспарту нафтапрадуктаў і калійных угнаенняў — таварных групаў, якія трапілі пад санкцыі ЗША і ЕС. Раней адпаведныя статыстычныя звесткі штомесяц публікаваліся на сайце Белстата ў раздзеле «Экспарт і імпарт тавараў».

У прэс-службе Белстата пацвердзілі, што публікацыя звестак аб экспарце нафтапрадуктаў і калійных угнаенняў спыненая. «Орган статыстыкі любой дзяржавы самастойна вызначае, якія даныя публікаваць, а якія — не. Гэта прадугледжана дзеючай палітыкай па распаўсюджванні афіцыйнай інфармацыі», — пракаментавалі змену парадку апублікавання статданых.

Далей — болей. Следам за звесткамі па знешнім гандлі ведамства закрыла статыстыку выпуску прадукцыі ў нафтаперапрацоўцы і хімічнай прамысловасці. Галоўныя прадпрыемствы ў гэтых галінах прамысловасці — «Нафтан», Мазырскі НПЗ, «Беларуськалій», «Гродна-Азот» і Гомельскі хімічны завод. Некаторыя з тых кампаній — таксама пад санкцыямі.

Прыхоўванне такой інфармацыі — не ёсць сумленная палітыка, канешне. Калі прызнаваць, што ёсць праблемы, напрыклад, на «Гродна-Азоце», то людзей можна папрасіць «зацягнуць паясы» альбо «паставіцца з разуменнем». А калі казаць у прагандысцкім стылі, што «ўсё добра», а потым раптам выкінуць працоўных на вуліцу ў мэтах «аптымізацыі вытворчасці» — зразумела, што людзі будуць раззлаваныя. А чаму? Таму што ім проста не казалі праўды.

Ці вось, напрыклад, той жа Белстат хваліцца, што ВУП Беларусі, насуперак усялякім санкцыям і ворагам, за паўгода вырас на 3,3% у параўнанні з мінулым годам. Аднак ніхто не тлумачыць, што гэты рост — наступства вясновага беларуска-расійскага нафтавага канфлікту ў 2020-м. Проста тады ВУП значна прасеў, і таму на яго фоне ў нас і ёсць «плюс». Але да чэрвеня мінулага года той канфлікт быў вычарпаны. І таму рост у 3,3% — гэта, насамрэч, запавольванне ВУП.

Такі «эфект нізкай базы» выдатна выглядае, калі глядзець на рост ВУП за другі квартал сёлета. У красавіку «рост» ВУП склаў прыкладна 7%. У траўні — ужо 5,4%. У чэрвені — плюс 3,8%.

І гэткая сітуацыя дазваляе экспертам Еўразійскага банку развіцця казаць не тое, што пра запаволенне тэмпаў росту ВУП Беларусі, а нават і ўвогуле «апусціць» Сінявокую. «Змена ВУП за месяц з ліквідацыяй сезонных ваганняў ацэньваецца ЕАБР каля 0% у траўні і чэрвені. Гэта можа сведчыць пра завяршэнне працэсу аднаўлення эканамічнай актыўнасці», — гаворыцца ў аглядзе ЕАБР. То-бок, эканоміка Беларусі відавочна ў стагнацыі. І далей будзе горш.

Пра тое, што «будзе горш», сведчыць прагноз гадавога выканання бюджэту, які штомесяц карэктуе Міністэрства фінансаў. Новая карэкціроўка прадугледжвае, што чаканы дэфіцыт па выніках года вырасце да 6 мільярдаў рублёў. Пры гэтым першапачаткова дэфіцыт бюджэту на гэты год быў запланаваны на ўзроўні 4 мільярдаў рублёў, пазней ён быў павялічаны да 5,6 мільярда, затым зноў пераглядаўся.

Раней чыноўнікі заяўлялі, што Беларусь спакойна пакрые дэфіцыт дзяржбюджэту за кошт рэшткаў сродкаў бюджэту мінулых, прафіцытных гадоў. Але раней нам казалі, што ў «прафіцытныя гады» мы назапасілі каля 4 мільярдаў рублёў (можа, крыху больш), і пры гэтым 1,9 мільярда змарнавалі на дэфіцыт мінулага года. Колькі ў нас засталося «ў кубышцы»?

Можа, каб нам пераможна не рапартавалі б пра нашы эканамічныя «поспехі», мы б не так ставіліся да рэаліяў паўсядзённага жыцця. Напрыклад, на тыдні было абвешчана, што ў сталічных крамах адкрыліся «школьныя кірмашы», на якіх можна набыць тавары да новага навучальнага года. Як паведамляе «Сталічны гандаль і паслугі», прыкладны кошт аптымальнай экіпіроўкі школьнікаў малодшых класаў складае ад 266 да 804 рублёў, а старшакласнікаў — ад 349 да 978 рублёў. У гэтую суму ўваходзяць вопратка, абутак, галантарэйныя тавары і школьныя прыналежнасці. У крамах прадстаўлена больш за 420 мадэляў адзення, больш за 70 мадэляў дзіцячага абутку і трыкатажных вырабаў беларускай вытворчасці.

Пры гэтым даныя па медыянным заробку (гэты паказчык больш адпавядае рэчаіснасці, чым сярэдні заробак) той жа Белстат апублікаваў толькі за травень. Дык вось, медыянны заробак па краіне ў траўні склаў 1018,4 рублі.

Да таго ж варта разумець, што «медыянны заробак за травень» вылічваўся нашым статыстычным ведамствам праз налічаную зарплату, то-бок да выплаты з яе падаткаў. Атрымліваецца, «чысты», на рукі, пасля выплаты падаткаў, медыянны заробак у Беларусі — каля 880 рублёў, або $345 у эквіваленце.

Такім чынам, максімальная «аптымальная экіпіроўка» аднаго школьніка роўная (калі гэта не старшакласнік) заробку аднаго з яго бацькоў. А калі дзяцей у сям'і двое, то… Круціся як хочаш.

І да таго ж, ці можам мы давяраць лічбам Белстату, калі ён закрывае ад нас пэўную статыстыку? Міжволі ўзнікае пытанне: а ці сапраўды ў нас такі медыянны заробак?

Наколькі ў нас усё кепска з фінансамі, сведчыць навіна з Мінскага гарсавету. Мінскія ўлады вырашылі, колькі будуць патрабаваць за «наўмыснае нанясенне шкоды» аб'ектам добраўпарадкавання або капітальным будынкам (напрыклад, тым жа трансфарматарным будкам). Згодна з новай нормай правілаў добраўпарадкавання і ўтрымання ў Мінску, памер шкоды будзе выстаўляцца ў 100-разовым памеры. Гэта значыць, што акрамя пакарання па адміністрацыйнай справе ў выглядзе штрафу альбо арышту ўлады будуць выстаўляць кампенсацыю за «шкоду» ў 100 разоў больш.

Відавочна, працей змагацца з графіці, чым наладзіць эканоміку.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Ягор Марціновіч



**Стала вядома, якое «злачынства» здзейснілі рэдактары «Нашай Нівы» і іншыя чальцы каманды.**

Нагадаем, што Ягор Марціновіч, Андрэй Дынько і Андрэй Скурко былі затрыманыя як падазраваныя па звыклым артыкуле 342, — арганізацыя дзеянняў, якія парушаюць грамадскі парадак. Аднак на працягу 10 дзён меру стрымання ім не абіралі, абвінавачанне не прад'яўлялі, але і не вызвалілі.

Затое ім высунулі новы артыкул — ч. 2 арт. 216 Крымінальнага кодэкса. Гэта «нанясенне маёмаснай шкоды без прыкмет раскрадання», караецца «хіміяй» ці калоніяй на тэрмін да 5 гадоў.

Паводле папярэдняй інфармацыі, справа тычыцца камунальных плацяжоў. Сэнс прэтэнзій у тым, што аплата за камунальныя паслугі памяшкання, дзе змяшчалася «Наша Ніва», адбывалася па тарыфах для фізічных асоб, а трэба было плаціць па тарыфах для юрыдычных асоб. Урон, нібыта, нанесены Мінэнерга, сума — 3,5 тысячы рублёў.

«Нашаніўцы» знаходзяцца ў ізалятары на Акрэсціна ў невыносных умовах: без перадач, якія супрацоўнікі не аддаюць, без матрацаў і элементарных сродкаў гігіены. Сукамернікі, якія выйшлі на свабоду, умовы ў камерах апісваюць як «стайня».

Ягор Марціновіч быў затрыманы 8 ліпеня, пры затрыманні збіты, у СК прыязджала хуткая дапамога, паколькі была траўма галавы. Разам з Ягорам былі затрыманыя галоўны рэдактар «Нашай гісторыі» Андрэй Дынько, кіраўнік аддзела рэкламы і маркетынгу Андрэй Скурко, галоўная бухгалтарка Вольга Раковіч (яе 16 ліпеня вызвалілі).

## Юрась Губарэвіч



**Міністэрства юстыцыі ініцыявала судовы працэс па прыпыненні дзейнасці праваабарончa-асветніцкай грамадскай арганізацыі Рух «За Свабоду». Суд павінен адбыцца 27 ліпеня.**

Як паведаміў Губарэвіч, у працэсе дасудовага разгляду высветлілася, што асновай для вынесенага Руху «За Свабоду» папярэджання ад 25.05.2021, якое Рух не атрымаў — і, адпаведна, не змог на яго своечасова адрэагаваць, — сталі нібыта існуючыя праблемы з юрыдычным адрасам і абраннем кіруючых органаў. «Рэч у тым, што ўсе неабходныя дакументы, каб закрыць гэтую справу, Мінюст мае, але не пагадзіўся зрабіць гэта ў дасудовым парадку, — напісаў Губарэвіч у Фэйсбуку. — Празмерная загрузка, выкліканая пазапланавай праверкай дзясяткаў НДА, не дае ім [Міністэрству юстыцыі] магчымасці прааналізаваць і прызнаць свае памылкі».

У міністэрстве лічаць, што тэрмін паўнамоцтваў выбарных органаў мінуў у 2020 годзе. Аднак пры гэтым Мінюст занёс у пасведчанне Губарэвіча як старшыні арганізацыі працяг яго паўнамоцтваў да 2022 года.

## Пётр Кузняцоў



**Гомельскі гарвыканкам даслаў пастанову аб ліквідацыі юрыдычнай асобы, установы «Цэнтр рэгіянальнага развіцця ГДФ», якой належаць інтэрнэт-праекты Кузняцова — выданне «Моцныя навіны» ў прыватнасці.**

Як адзначае Кузняцоў, арганізацыя дзейнічала з 2013 года, там было два дзясяткі толькі штатных працоўных месцаў, усе падаткі плаціліся спраўна (ні адна праверка да гэтага часу нічога не знайшла), уся дзейнасць была выключна статутнай. «Мабыць, таму ў пастанове выканкама канкрэтна не пазначана ніводнай падставы. Цяпер мы вымушаныя займацца адначасова і справамі па ліквідацыі, на якую адведзена вельмі мала часу, і пачынаць працэсы абскарджання — груба кажучы, хоць падставы прад'явіце», — адзначае ён.

Вельмі цікавыя рэчы адбываюцца адначасова з Кузняцовым як з рэзідэнтам-фізасобай: падатковая налічыла яму даплаціць 40 тысяч рублёў падаходнага падатку. Паводле версіі інспекцыі, Кузняцоў павінен заплаціць падаткі за тыя грошы, якімі сам жа папаўняў свае ж банкаўскія карткі.

Тым часам невядомыя ўзламалі сайт «Моцных навінаў», таму рэсурс дасяжны толькі ў сацыяльных сетках.

# З рагаткі па хмарачосе

## Ці знікне грамадзянская супольнасць пасля чарговай атакі

Сяргей ПУЛЬША

**Гэта трэба было даўмецца — правесці масавую аблаву на журналістаў і «трэці сектар» менавіта напярэдадні візіту Святланы Ціханоўскай у Вашынгтон. Асабліва — выламаць дзверы і наладзіцьператрус у мінскім офісе «Радыё Свабода». Такога падарунка Ціханоўская проста не чакала.**




Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

ЗША пазіцыянуюць сябе звышдзяржавай, што абараняе інтарэсы сваіх грамадзян у любой кропцы свету. Правы беларусаў для іх, пры ўсіх дэкларацыях і заявах, не асабліва хвалявітыя. А вось інтарэсы амерыканскіх грамадзян, амерыканскіх падаткаплацельшчыкаў, амерыканскай медыякарпарацыі — гэта ўжо іншая размова.

«Марскія коцікі», вядома, не прыедуць абараняць беларускі офіс «Свабоды». Але пасля зеяння беларускіх уладаў шанцы Ціханоўскай на сустрэчу з прэзідэнтам ЗША Джо Байдэнам сур'ёзна ўзраслі. А ўлічваючы нядаўнюю сустрэчу Байдэна і Пуціна, на якой Беларусь была акрэсленая адным з пытанняў, якія трэба вырашаць, — цалкам верагодная інтэнсіфікацыя працэсу гэтага вырашэння. Разгромам офіса «Свабоды» і затрыманнем яго супрацоўнікаў інтарэсы ЗША беларускія ўлады закранулі ўжо сур'ёзна.

### Вайна клонаў

Ёсць меркаванне, што ў беларускім апараце «ястрабы» працягваюць змагацца з «галубамі». «Голуб» Макей у нядаўнім інтэрв'ю Russia Tuday (тэлеканалу, арыентаванаму найперш на заходнюю аўдыторыю) выступіў з прапановай-просьбай пра дыялог — гэта была, магчыма, спроба адваяваць частку ўплыву ў «ястрабаў». Аднак тыя адказалі ў сваім агрэсіўным стылі — і цяпер, зразумела, шанцы на «дыялог», тым больш канструктыўны, істотна знізіліся (калі такія наогул былі).

Толькі за тыдзень было праведзена не менш за 40 ператрусаў. «Вясна», БХК, Lawtrend, Рух «За Свабоду», часопіс «Імёны», «Гендарныя перспектывы», БАЖ, Таварыства беларускай школы, цэнтр «Супольнасць», ТБМ, Партыя БНФ, Офіс еўрапейскай экспертызы і камунікацыі, аналітычны цэнтр BEROC, сацыялагічная лабараторыя «Новак», Аб'яднаная грамадзянская партыя, Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», Саюз пісьменнікаў — далёка не поўны спіс арганізацый, якія трапілі пад дэманстрацыйны разгром. Уражвае досыць шырокая раскідка — ад тых, хто займаўся пытаннямі хатняга гвалту і культурніцкімі праектамі, і да палітычных структур.

Паводле даных Беларускай асацыяцыі журналістаў, у Беларусі за апошнія 10 дзён толькі ў рэдакцыях і кватэрах журналістаў адбыліся 63 ператрусы.

Некаторыя кажуць, што гэта «наш адказ на санкцыі». Абяцаў жа той самы Макей, які цяпер «імкнецца да дыялогу», знішчэнне грамадзянскай супольнасці? Вось і пачалі «бамбіць Валожын». Іншыя кажуць, што гэта дэманстрацыйнае запалохванне той самай грамадзянскай супольнасці і такі сабе «прымус да эміграцыі». Сапраўды, пасля гэтага з'ехалі шэраг знакавых для дэмакратычнай Беларусі асобаў. Але наўрад ці — толькі гэта. Маштаб і разгалінаванасць рэпрэсій паказваюць на спланаваную акцыю, якія ўлада звычайна рабіла напачатку маштабных палітычных кампаній. І, вельмі верагодна, у бліжэйшыя дні такая будзе абвешчаная. Меркавана, хутка мы пачуем пра канстытуцыйны рэферэндум.

### Дзіўны дакумент

Канстытуцыйная камісія завяршыла разгляд прапаноў па змене Канстытуцыі, і ўжо на гэтым тыдні пройдзе яе заключнае пасяджэнне. Праект новай Канстытуцыі ад уладаў ужо зліліў сеціва. Дакумент атрымаўся вельмі дзіўны. Раней рознага кшталту аналітыкі і палітолагі казалі пра «расійскім жаданні» ў новай рэдакцыі беларускага Асноўнага закону — пашырыць паўнамоцтвы парламента, узмацніць у іх ролю палітычных партый і «партый уплыву». Але ў тым дакуменце, які трапіў у інтэрнэт нібыта з падачы структуры Юрыя Васкрасенскага, нічога падобнага няма. У ім «размазалі» прэзідэнцкія паўнамоцтвы, а Палата прадстаўнікоў ператварылася ў орган, які зусім не мае рэальнага ўплыву на сітуацыю ў краіне.

Ёсць супярэчлівыя пазіцыі. Напрыклад, прэзідэнт кроку не можа зрабіць без дазволу Савета Рэспублікі. Пры гэтым невядома, як абіраюцца чальцы таго самага Савету Рэспублікі. У прэзідэнта застаецца права штампаваць указы, законнасць якіх вызначае Канстытуцыйны суд, палову якога фарміруе сам прэзідэнт. Прэзідэнт мае права і распусціць Савет Рэспублікі, калі той будзе яму замінаць. А замінаць СР будзе, бо — чытайце вышэй — прэзідэнт кроку не можа зрабіць без дазволу СР.

Чальцы СР пры гэтым з'яўляюцца пастаяннымі членамі Усебеларускага народнага сходу. Гэты сход надзяляецца правам імпічменту прэзідэнту. Прэзідэнт са згоды СР прызначае прэм'ер-міністра, а прэм'ер, са згоды прэзідэнта — міністраў. У тым ліку, напэўна, і сілавікоў. Каму падпарадкоўваюцца сілавікі або той жа Савет Бяспекі — незразумела: з аднаго боку, прызначае іх прэм'ер, а з другога — са згоды прэзідэнта, які кроку не можа зрабіць без Савета Рэспублікі і УНС. Па факце атрымліваецца, што парламент у нас замяняецца УНС, у які наогул ніхто нікога не абірае — прапануецца, каб у яго ўвайшлі парламентары абедзвюх палат і «прадстаўнікі мясцовых органаў самакіравання» (чытай — вертыкаль).

Наўрад ці гэта спадабаецца дэпутатам ніжняй палаты парламента, якія маюць права заканадаўчай ініцыятывы (новага перапісвання Канстытуцыі). На гэта, напрыклад, звяртае ўвагу тэлеграм-канал «Рэфлексія і рэакцыя»: «Калі такая Канстытуцыя будзе прынятая, то пытанне канстытуцыйнага крызісу — гэта пытанне месяцаў. Занадта шмат цэнтраў сілы, занадта складаная сістэма, не вырашаная праблема грамадскай згоды, а значыць, будзе пяты цэнтр сілы — вуліца. І шосты — ніжняя палата, якая можа сама перапісваць Канстытуцыю».

Праўда, усе размовы пра новую Канстытуцыю носяць, хутчэй, абстрактны характар. Як справядліва адзначаюць у сацсетках, калі ўлады не выконвалі старую Канстытуцыю, дзе гарантыя, што яны будуць выконваць новую? Але пры тым, прыняцце Канстытуцыі — гэта чарговая палітычная кампанія, наяўнасць якой у сённяшніх варунках больш важная за яе вынік.

### Без права на перамогу

У новай Канстытуцыі, дарэчы, сказана, што Усебеларускі народны сход «у выпадку неабходнасці вырашае пытанне аб легітымнасці выбараў прэзідэнта». Так і хочацца запытаць: «Рабяты, вы сур'ёзна?» Па-першае, людзі, палову з якіх ніхто нікуды не абіраў, будуць вырашаць пытанне легітымнасці выбараў? А па-другое (да шкоды некаторых), «легітымнасць» так не працуе.

Легітымнасць — гэта не пытанне загаду, гэта пытанне даверу. Гэта калі вялікая частка грамадства давярае кіраванне дзяржавай абранай асобе і не аспрэчвае яе права на гэта. Крызіс унутранай легітымнасці ўлады, уласна, і паўстаў таму, што даверу да вынікаў выбараў 2020 года, і, адпаведна, да асобы, якая абвясціла сябе пераможцам выбараў, у грамадстве няма. І рашэнне УНС па пытанні «легітымнасці» на гэтую сітуацыю не ўплывае ад слова «ніяк».

Цяперашні палітычны крызіс у Беларусі і вызначаецца тым, што ўлада страціла ўнутраную легітымнасць у вачах большасці беларускага народа. Таму няма веры афіцыйна агучаным вынікам выбараў. Таму паўсталі маштабныя пратэсты, якія ўдалося загнаць углыб толькі беспрэцэдэнтнымі рэпрэсіямі. Таму ўлада не выйграе ніводнай электаральнай кампаніі. Напрыклад, кампаніі па прыняцці Канстытуцыі.

А выйграць вельмі хочацца. Хоць бы для таго, каб прадэманстраваць «заклятаму сябру» — Расіі, — «выкананне» абавязацельстваў па, нібыта, «урэгуляванні палітычнага крызісу ў Беларусі». Вось толькі палітычная кампанія па прыняцці новай Канстытуцыі зноў палітызуе і без таго напружанае беларускае грамадства, і якім будзе вынік гэтай палітызацыі, ніхто прадказаць не возьмецца.

### Сысці, каб застацца

Ёсць такі выраз, што «генералы пастаянна рыхтуюцца да мінулых войнаў». Тое ж самае можна сказаць і пра будучую палітычную кампанію: улада рыхтуецца да «мінулай вайны» — звыклым для сябе чынам «зачышчае» грамадска-інфармацыйную прастору. Але пры гэтым не заўважае, як змянілася тая прастора, і наколькі бескарысныя намаганні па яе зачыстцы.

Як адзначае той жа тэлеграм-канал «Рэфлексія і рэакцыя», калі мэтай новай хвалі ператрусаў было цалкам знішчыць/спыніць функцыянаванне арганізацый, то мэта гэтая не дасягнутая (і недасягальная). «Вернемся на папярэднія хвалі — усе “разгромленыя” СМІ ў цэлым перабудаваліся і працуюць як раней. Працуе TUT.BY, працуе “Еўрарадыё”, працуе “Наша Ніва”. Якасць кантэнту не змянілася ў цэлым, рэгулярнасць выхаду — таксама. “Разгромлены” Прэс-клуб праводзіць анлайн-канферэнцыю, дзе прадстаўнікі ўсіх вышэйпералічаных “разгромленых” медыя абмяркоўваюць тое, што адбываецца. “Разгромленая” “Вясна” працягвае апаратыўна інфармаваць і скрупулёзна весці летапіс таго, што адбываецца, сочаць за палітычнымі працэсамі», — адзначаюць у Тэлеграме.

Так, вядома, пад ціскам і пагрозамі распачацця крымінальных спраў шмат хто з'ехаў. Цалкам рэлакаваліся рэдакцыі 6tv.by і ex-press.by, з'ехалі лідары ЗБС «Бацькаўшчына» і кампаніі «Будзьма беларусамі», пакінулі краіну некаторыя журналісты «Радыё Свабода», уключаючы палітычнага аналітыка Валерыя Карбалевіча. Верагодна, на гэта таксама разлічвалі сілавікі, калі праводзілі маштабную акцыю застрашвання.

Але гэта зусім не азначае, што ўсе тыя, хто з'ехаў, спынілі сваю дзейнасць. Узяць тыя ж рэгіянальныя рэдакцыі: іх сайты працягваюць адкрывацца і напаўняцца новымі матэрыяламі. Частка каманды TUT.BY з-за мяжы стварыла рэсурс zerkalo.io — і цяпер яны пішуць пра сітуацыю ў Беларусі больш жорстка і бескампрамісна, не асабліва падпарадкоўваючыся «ўнутранаму цэнзару» і асцярогам камусьці нашкодзіць сваімі публікацыямі. Вось і Валер Карбалевіч лічыць, што на магчымым рэферэндуме прыхільнікам пратэсту трэба галасаваць за новую Канстытуцыю, паколькі яна, нібыта, аўтаматам запусціць новыя прэзідэнцкія выбары. Тэзіс досыць спрэчны, аднак важны не тэзіс, а тое, што мы ўсё роўна чытаем Карбалевіча, які з'ехаў.

На адрас беларускіх уладаў неаднаразова гучала папярэджанне: закрываючы легальныя каналы камунікацый, яны вымусяць людзей шукаць нелегальныя каналы — больш адкрытыя і радыкальныя. Выціскаючы з краіны СМІ і актывістаў, улады самі радыкалізуюць грамадскія настроі, і без таго пратэстныя.

Улада думае, што паказальнымі рэпрэсіямі яна «сцішыла» НДА і СМІ, абмежавала іх уплыў на грамадства. Але гэта такая ж ілюзія, як і меркаванне, што «пратэст садзьмуўся». Людзі, якія з'ехалі, працягваюць працаваць — проста ў новых формах і ў новых умовах.

А вось крушэнне ілюзій бяспекі і падпарадкаванасці будзе вельмі хваравітае для ўлады. І гэтае крушэнне можа адбыцца ў надыходзячую палітычную кампанію.







Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# «Калі ідзеш праз пекла, нельга спыняцца»

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 1

Аляксей працаваў у сетцы фірм, якая займаецца вырабамі з пластыку. Кім да нядаўняга часу ўзначальваў аддзел кіберспорту пры футбольным клубе. З праграмаваннем ён не звязаны — падумаў проста, што беларускі кіберспорт слаба прадстаўлены і варта яго развіваць. Але пазней праз каронавірус гэты кірунак закрылі, і Кім застаўся без працы.

Кім у верасні згуляў вяселле. У яго маленькая дачушка. Жонка Кіма Алеся — украінка. Яны пазнаёміліся ў Кіеве, калі хлопец вазіў туды сваіх спартоўцаў на спаборніцтвы. Яна была вымушана вярнуцца да бацькоў — у Беларусі яна адчувала сябе ў небяспецы. Дарэчы, Леся абараніла дысертацыю па рэпрэсіях 1920–1930-х гадоў ва Украіне. Так што добра ўсведамляла, што адбываецца і чым гэта можа скончыцца. Акрамя таго, яна не хацела, каб Кіма маглі шантажаваць жонкай і дачкой.

Хлопцы заўсёды цікавіліся тым, што адбываецца ў грамадстве. Мужчына не будзе мужчынам, калі ён застанецца да гэтага абыякавы. Да гэтага года старэйшы сын ніколі не ўдзельнічаў у палітычным жыцці. Мы з Кімам былі больш актыўныя.

## З дзяцінства цікавіліся гісторыяй

Вёска, у якой выхоўвалі дзяцей, знаходзіцца пад Мілавідамі. У 1863 годзе там праходзіла бітва, у якой удзельнічаў Кастусь Каліноўскі. Людміла кажа, што сярод мясцовых ёсць нашчадкі паўстанцаў.

Браты з дзяцінства цікавіліся беларускай гісторыяй. Бацькі ім у гэтым дапамагалі. А пра нешта расказвалі суседзі.

— Мы шмат вандравалі па Беларусі. У 2006 годзе заснавалі клуб гістарычнай рэканструкцыі. Кіму споўнілася тады 17 гадоў. Клуб называўся «Паўночны замак». Цяпер — Lignum vitae — «Дрэва жыцця». Старшым у клубе быў не тата, а Кім. Ролі размяркоўваліся. Гэта вучыла выбудоўваць адносіны. Мы маглі спрачацца да пасінення, адстойваючы свае пункты гледжання, але былі адно з адным. Самі шылі касцюмы, ездзілі па фестывалях, цікавіліся гісторыяй, культурай, побытам. Жылі вось у такой атмасферы.

Нас цікавіла, як жылі людзі ў горадзе ў Францыі XIV стагоддзя. На той момант, калі мы пачыналі займацца рэканструкцыяй, гэты час быў менш за ўсё вывучаны. Мы не ўдзельнічаем у бітвах, нас больш цікавіць побыт — вопратка, кулінарыя. Мы вывучаем дакументы, тэхналогію вырабу рэчаў, ездзім па фестывалях.

Дом пад Мілавідамі стаіць побач з лесам. Пайсці з сынамі ў лес, паглядзець, як жывуць звяры і птушкі, было ў сям'і адным з любімых заняткаў. На вакацыях хлопцы прападалі ў лесе цэлымі днямі.

## «Не ведаю, ці атрымаецца, але выходзіць правільна»

Людміла кажа, што ў сям'і заўсёды адзначалі Дзяды, збіраліся са сваякамі за сталом, успаміналі памерлых. Калі дзеці падраслі, хадзілі на Дні Волі. Лёша заўсёды адсочваў сітуацыю, але да выбараў нідзе не ўдзельнічаў, не бачыў у гэтым сэнсу. Кім лічыў: каб быў вынік, трэба хоць неяк паказваць сваю пазіцыю. Сама Людміла думае, што любыя змены павінны адбывацца ў працэсе эвалюцыі, таму ў сям'і шмат увагі надавалася адукацыі.

— Вясной мінулага года ўсё змянілася. Людзі выходзілі на афіцыйныя пікеты па зборы подпісаў, пратэсты. Мы таксама хадзілі, выкарыстоўваючы свае канстытуцыйнае права. Памятаю, неяк я спытала ў Лёшы: «Як думаеш, што-небудзь атрымаецца?» Ён адказаў: «Не ведаю, ці атрымаецца, але выходзіць правільна».

Цяжкімі днямі для мяне былі з 9 да 12 жніўня. Я сядзела дома з сабакам і з'язджала з глузду, калі не магла датэлефанавацца да сваіх мужчын. Адчувала жах, калі іх не было дома. З іншага боку, я баялася, што мае мужчыны будуць дома ўвесь час.

Ну і, канечне ж, было балюча, калі напачатку лістапада прыйшлі па маіх хлопцаў. Спачатку па Кіма... Следчы камітэт заявіў, што Кім нібыта датычны да ўзлому камп'ютарнай сістэмы Мінгарвыкама і актыўна ўдзельнічаў у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах. Яго затрымалі па ч. 2. арт. 349 Крымінальнага кодэкса (Несанкцыянаваны доступ да камп'ютарнай інфармацыі, учынены групай асоб па папярэдняй змове) і ч. 1 арт. 342 (Арганізацыя дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак). Па артыкуле 342 праходзіць і Аляксей, за ім прайшлі праз два дні.

Затрымалі таксама двух прыяцеляў Кіма са двара — Івана Андрушойця і Паўла Дразда.

## «Пасіянарны выбух, які зменіць усю Еўропу»

Нягледзячы на тое, што цяпер жыццё Людмілы — гэта бясконцыя зносіны з адвакатамі, перадачы, лісты, — яна ні пра што не шкадуе. І ўдзячная лёсу за ўсё. Асабліва за тых добрых людзей, якіх сустракае паўсюль.

— Людзі, у нас такія людзі цяпер! Глядзіш у вочы — і бачыш Чалавека! Я нават уявіць не магла, колькі беларусаў гатовыя прыйсці на дапамогу адзін аднаму. Мяне здзівіла, колькі людзей з майго мінулага адгукнуліся, каб падставіць плячо. Вы б ведалі, якія цудоўныя ў мяне суседзі. Проста незнаёмыя людзі, якія даведваюцца пра маіх сыноў, гатовыя дапамагчы, чым могуць. Гэта нерэальна! Мне, напэўна, жыцця не хопіць кожнаму сказаць «дзякуй». Я не веру — я ведаю, што ў нас усё будзе добра. Гэта падтрымка дае моц спакойна жыць, дапамагаць сваім дзецям і Беларусі. Мы ўжо перамаглі. Галоўнае — не даць перагарнуць старонку, бо кропку незвароту мы ўжо прайшлі. Упэўненая, што з Беларусі пачнецца пасіянарны выбух, які зменіць да лепшага ўсю Еўропу. А можа, і свет.

Беларусаў пастаянна грамілі, захоплівалі, але паглядзіце: наш ген незабівальны. Мы да такой ступені моцны народ, што мы незнішчальныя. Нават калі наша планета раптам абрынецца, мы будзем жыць дзесьці паблізу, там, дзе вельмі шмат вільгаці, як на балотах. Мы крутыя, мы проста касмічныя.

Усё, што я цяпер магу рабіць, гэта расказваць пра маіх сыноў. І пра ўсіх тых, хто хацеў лепшай долі для краіны, хацеў справядлівых выбараў, але цяпер — за кратамі. І я расказваю, дзе магу і каму магу. Часам здаецца, што не вытрымаю, але гэта толькі здаецца. Сусвет справядлівы, веру, што мяне чакае нешта добрае і светлае. А мае дзеці будуць дома — і ўсё наладзіцца. І тады яна нарэшце змагу выдыхнуць і пачуць сябе...

Адрас для лістоў братам Кіму і Аляксею Самусенкам: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

Калі вы хочаце падтрымаць Людмілу Самусенка, яе кантакт у рэдакцыі.







Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# Святлана Алексіевіч: Я б хацела жыць у такой краіне, якая ў жніўні выйшла на вуліцы

**Нобелеўская лаўрэатка па літаратуры Святлана Алексіевіч заявіла, што не вернецца ў Беларусь, пакуль там кіруе Аляксандр Лукашэнка. Пісьменніца дала вялікае інтэрв'ю польскай Gazecie Wyborczej. «Радыё Свабода» зрабіла яго пераклад на беларускую мову.**

***— З тых часоў, як мы размаўлялі ў 2017 годзе ў Кракаве, свет — блізкі і далёкі — моцна змяніўся. Вы мне тады казалі, што вас засмучае маўчанне беларускага народа. Здаецца, той Беларусі больш няма, леташняя рэвалюцыя ўсё змяніла.***

— Мяне часта пытаюцца: чаму народ спаў 26 гадоў, а сёння ўсё выглядае інакш? Думаю, гэтаму многае спрыяла. Яно назапашвалася ў нас, трэба было пасталець. Калі ў 2010 годзе былі пратэсты супраць Лукашэнкі, выйшлі пераважна маладыя людзі — іх хутка разагналі. Але па заканчэнні наступных 10 гадоў прыйшло новае пакаленне, якое ведае сучасны свет, падарожнічае і выкарыстоўвае сацыяльныя сеткі. Яны бачаць і ведаюць больш, чым мы. Гэтыя маладыя людзі сёння вельмі адукаваныя, яны маюць уяўленне пра тое, як жыць у краіне, якая не з'яўляецца аўтарытарнай.

Інстытуты грамадзянскай супольнасці, якія ўсё яшчэ дзейнічаюць у Беларусі, таксама адыгралі велізарную ролю ў працэсе зменаў. Я сама стварыла клуб «Запрашае Святлана Алексіевіч», падчас якога мы гаварылі не толькі пра палітыку, але і пра тое, што мы можам зрабіць адзін для аднаго. Падчас апошніх дэманстрацый людзі падыходзілі да мяне, віталіся і дзякавалі.

Праца на нізавым узроўні, усведамленне таго зла, з якім мы сутыкаемся кожны дзень, — перапоўніла чашу цярпення. Беларусы больш не ў стане вытрымліваць гэтую знявагу. Пераломным момантам, вядома ж, сталі прэзідэнцкія выбары, і тут цярпенне скончылася. Людзі зразумелі, што маўчаць ужо нельга. Як быццам яны раптам здабылі годнасць, яны супраціўляліся. На вуліцы выйшлі свядома, у іх была радасць і прыгажосць. Памятаю, тады я сказала свайму сябру: «Я б хацела жыць у такой краіне».

А потым услед рушыла рэакцыя ўраду, жорсткасць, якую цяжка нават апісаць. Я глядзела ў акно — і бачыла натоўпы і вайсковыя калоны перад імі. Мне сталі прыходзіць фотаздымкі тых, хто апынуўся ў шпіталях. Я была бяссільная супраць гэтага гвалту, таму што, хоць я ўсё жыццё мела справу з такімі гісторыямі, я не магла зразумець і прыняць, што гэта робяць мае суайчыннікі.

Спачатку, калі ўлады сталі так жорстка рэагаваць, я нават сказала ў інтэрв'ю, што не веру, што беларусы выступілі супраць беларусаў. Я думала, што гэта могуць быць людзі з Расіі ці Чачні, але памылялася. Я не магла знайсці сабе месца, таму што разумела: сталінская машына ўсё яшчэ працуе і мае поспех.

У вёсцы, у цэнтрах розных рэгіёнаў краіны працуюць прадстаўнікі КДБ, інфармаванне выдатнае, настаўнікі асуджаюць уласных вучняў! Ад сваякоў, якія жывуць у вёсцы, я пачула гісторыю маладога вайскоўца, якога на экзамене спыталі, ці пампэ ён за прэзідэнта Лукашэнку, калі ўзнікне такая неабходнасць. Ён адказаў «так» не вагаючыя. І што, калі трэба, прынясе ў ахвяру і сваіх найбліжэйшых сваякоў, таму што Радзіма — чытай рэжым — гэта самае галоўнае. Калі б нехта вагаўся і не даваў чаканага адказу, адразу ж станавіўся б падазраваным у спісе ворагаў сістэмы.

Нам стала ясна, што рэжым даўно працуе над тым, як падзяліць людзей, як падзяліць нас, як настроіць нас адзін супраць аднаго. З'явілася адчуванне, што людзі, дасланыя ўрадам, працуюць у непасрэднай блізкасці ад многіх з нас. Яны рыхтаваліся жорстка душыць спробы абаранiць дэмакратычныя каштоўнасці.

Я размаўляла з маладой дзяўчынай, якая некаторы час таму прымала ўдзел у дэманстрацыях. Яна стаяла перад супрацоўнікамі АМАПу, якія ўжо сыходзілі, шыхтаваліся. І раптам адзін з іх пагладзеў ёй — як яна ўспомніла — проста ў вочы і кінуў гранату. Яе павезлі на лячэнне ў Кіеў. Аднак у большасці выпадкаў людзі траплялі ў падкантрольныя ўраду лякарні, і іх сляды сціраліся там, бо ўлады хацелі, каб свет не ведаў, што робіць рэжым.

***— Рэвалюцыі патрэбен аўтарытэт. Калі беларусы выйшлі на вуліцы, калі ўспыхнуў гвалт, тады, каб забяспечыць мірную перадачу ўлады (як у гэта тады верылі), была створана Каардынацыйная рада. Вы сталі яе сябрам, хоць раней не былі так адкрыта ўцягнутыя ў палітычныя справы. Вы, вядома, крытыкавалі Лукашэнку, у вас была выразная пазіцыя, але гэты ваш жэст быў значны.***

— Я ўвайшла ў Каардынацыйную раду, бо баялася кровапраліцця. Памятаю, падчас адной з дэманстрацый Марыя Калеснікава заклікала людзей, якія ішлі да палацу Лукашэнкі, не кідаць камяні. Яна пыталася, крычала: «Не трэба. Не рабі гэтага!» І гэта спрацавала.

Вельмі паказальна, што рэвалюцыяй у Беларусі кіравалі жанчыны. Я думаю, што дзякуючы гэтаму ўдалося не давесці да яшчэ большай трагедыі. Калі б мужчыны замянілі жанчын, магчыма, яны б перамаглі, — але якім коштам? Мы тады думалі, што Лукашэнка нешта зразумее, што дыялог магчымы. На жаль, ён вырашыў не спыняцца ні перад чым і ўжыў самыя сучасныя тэхналогіі для падаўлення пратэстаў. Раптам мяне апанавала думка, што ў Мінску можна паўтарыць плошчу Цяньаньмэнь, што ён гатовы давіць гэтых маладых людзей, каб не аддаваць уладу.



Мы прынялі зусім іншы метад барацьбы — негвалтоўны супраціў. Беларускія жанчыны былі апранутыя ў белае і неслі кветкі. Пры ўсёй жніўеньскай трагедыі мінулага года гэта было сапраўды прыгожа.

Многія абвінавачваюць апанентаў у сілавым кароткім замыканні, у тым ліку мяне, у тым, што мы не хочам, каб пралілася кроў, таму што, магчыма, так Лукашэнка загіне назаўжды. Так, я не хачу, каб пралілася кроў, для мяне самае дарагое — чалавечае жыццё, жыццё кожнага. Таму мне здаецца, што мы павінны працаваць над новымі стратэгіямі супраціву, традыцыйныя не працуюць. З жахам чытаю ў інтэрнэце заклікі да ўзброенай барацьбе з рэжымам, некаторыя перакана968ныя, што крыві баяцца не варта. Баюся, што калі б цяпер была новая хваля пратэстаў, яна магла б скончыцца вялізнай трагедыяй.

Я не ведаю, калі мы выйграем. Якая генерацыя дасць нам свабоду? Але я ведаю, што людзі зноў знойдуць спосаб адрэагаваць. Але як моцна Лукашэнка прыніжаў усіх нас за апошнія месяцы! Як ён развязаў гэтую сталінскую машыну нянавісці, якую мы ведаем з мінулага! Мы будзем выздараўліваць ад гэтай траўмы доўга.

***— Вы калі-небудзь плакалі ад бяссілля падчас рэвалюцыі?***

— Так. Гэта і цяпер са мной здараецца. У Берліне я працую над кнігай пра беларускую рэвалюцыю, і, напэўна, ніводная папярэдняя не каштавала мне так дорага. Я не магу стрымаць слёзы, слухаючы выступленні маладых людзей, іх апошнія выступы на судовых працэсах, дзе іх абвінавачваюць у горшым. Яны такія маладыя і такія дзіўна адважныя. Хоць яны выдатна ведаюць, што будуць сядзець у турме па некалькі гадоў, яны ні ад чаго не адмаўляюцца, яны трымаюцца праўды і ўласных перакананняў.

А нядаўна я апісвала гісторыю дзвюх жанчын, старэйшых за мяне, якія тыдзень гулялі па лесе з гідам у бок Літвы. Ім давялося бегчы з Беларусі, таму што яны былі актывісткамі з невялікага мястэчка пад Мінскам і іх жыццё было ў небяспецы. Яны пераканалі мяне, што ні аб чым не шкадуюць, што яны прымаюць цану, якую павінны заплаціць за сваю дзейнасць.

Адзяўчына, маладая, адораная, якая напісала на асфальце слоган «Жыве Беларусь» і асуджаная за гэта да двух гадоў пазбаўлення волі, — як не плакаць з гэтай нагоды?

***— Калі вы ўступілі ў Каардынацыйны раду, вы разам з іншымі прадстаўнікамі апазіцыі напісалі ліст да Лукашэнкі. Уім вы папрасілі яго сысці. Неўзабаве пасля гэтага пачаліся рэйды, у вашы дзверы тэлефанавалі, спрабавалі запалохаць па тэлефоне. Нарэшце, калі вы напісалі ліст пра тое, што вы перажылі, людзі, у тым ліку журналісты, сталі збірацца перад вашым дома, і ў вашай кватэры з'явіліся паслы*** дэмакратычных краін і іх жонкі. Вы атрымалі позву на допыт. Вы спалохаліся?

— Я памятаю той дзень, калі аказалася, што я практычна адзіны пакінуты на волі сябар Каардынацыйнай рады. Я зразумела, што яны таксама прыйдуць па мяне. Няцяжка ўявіць, што значыць трапіць у лапы такога звера, які ломіць не толькі косткі, але і ўсё жывое.

Я патэлефанавала журналістам, расказала, што адбываецца, яны адразу ж з'явіліся ў мяне на кватэры. Неўзабаве пасля гэтага з'явіліся паслы, іх жонкі, пачалі прыглядаць за мной. Я ведаю, што знаходзіцца ў прывілеяваным становішчы, не ўсе маглі разлічваць на такую абарону.

Менавіта тады я зразумела, што калі я хачу напісаць кнігу пра беларускую рэвалюцыю, мне трэба з'ехаць. Таму што, калі хтосьці прыйдзе да мяне на сумоўе — яго арыштуюць, калі я пайду да яго — мяне пасадзяць.

Спачатку я баялася, што калі з'еду, у мяне скончацца людзі і галасы. Я памылялася, мне да гэтуль прыходзяць гісторыі з Беларусі, у мяне яшчэ ёсць новыя суразмоўцы для кнігі, я даведваюся больш гісторый, я плачу.

І калі вы пытаеце мяне пра страх, я не збіраюся хаваць, што я не супергерой. Я, вядома, баялася, і гэта было вельмі непрыемнае пачуццё.

***— У Беларусі засталося шмат людзей, якія адважна змагаліся з рэжымам Лукашэнкі ці апісвалі рэвалюцыю, напрыклад, мой калега-рэдактар Анджэй Пачобут, які сядзіць у турме і знаходзіцца ў вельмі дрэнным стане. Што можна зрабіць, акрамя заклікаў, каб вызваліць такіх, як ён?***

— Пасля таго, як улады ў Мінску захапілі ў паветранай прасторы Беларусі самалёт Ryanair, на борце якога знаходзіліся малады апазіцыянер Раман Пратасевіч і яго партнёрка, свет нарэшце стаў трохі больш рашучы. Ёсць санкцыі, якія могуць не прынесці неадкладнага выніку, але, безумоўна, акажуць уплыў на рэжым. Вядома, пацерпяць і звычайныя грамадзяне, што самае сумнае ва ўсёй гэтай сітуацыі.

***— Вы кажаце: свет мяняецца. Чатыры гады таму ў Кракаве, занепакоеныя зменамі ў Польшчы, вы спыталі мяне, як, на мой погляд, усё гэта адбываецца. Мы ўжо ведаем сёння. Вы таксама асцерагаліся, што Польшча пачне разгортвацца ў бок аўтарытарызму.***

— Мы мелі рацыю, і ўсё гэта дадаткова ўскладніла пандэмія. Церпіць дэмакратыя ў нашых краінах — я гэта выразна зразумела пасля пераезду ў Германію. Я сустрэлася з Ангелай Меркель, яе дарадцамі — і ўбачыла, наколькі сур'ёзна яны падыходзяць да пагроз сучаснага свету, як умела яны чытаюць тое, што будзе. Такога мыслення няма ў Беларусі і Польшчы.

Незадоўга да прыезду ў Польшчу я глядзела па расійскім тэлебачанні матэрыял, у якім хвалілі новую падводную лодку. У мяне стварылася ўражанне, што я гляджу малюнкі са свету, які больш не існуе. Адзін мікроб перавярнуў наша паўсядзённае жыццё. Ні падводная лодка, ні бомба больш не ўратуюць свет. Старая мадэль стварэння палітыкі хутка перастане працаваць.

***— Вы вернецеся на радзіму ці вырашылі жыць эмігранткай?***

— Калі я вярнуся, мяне чакае лёс Аляксея Навальнага. Я не магу вярнуцца на радзіму цяпер, калі кіруюць Лукашэнка і яго людзі. Так што я патрачу час на чаканне наступнай сустрэчы з Мінскам, каб напісаць кнігу пра тое, як здарылася, што людзі сказалі дастаткова, і што сусед баяўся суседа. Пра тое, што ў нашых турмах сёння мучаць людзей, як у працоўных лагерах.

***— Вы ж павінны былі напісаць кнігу пра каханне.***

— Я хацела напісаць пра каханне і старасць. Што ж, будзем чакаць, цяпер самае галоўнае, каб наша рэвалюцыя скончылася перамогай як мага хутчэй.

**Друкуецца ў скароце**

Беларусь Спартыўная

СПЕЦЫЯЛЬНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by




Фота Reuters

# Алімпіяда без парада

Сяргей КАЙКО

**Расійскі пісьменнік і публіцыст Віктар Шандаровіч аднойчы прызнаўся: «Па тэлевізары я гляджу толькі тое, што рухаецца, — пра жывёл і спорт». Пра спорт — гэта безліч тэлеканалаў па ўсім свеце, у якіх лёгка заблытацца і якія ў бліжэйшыя тыдні абавязкова ўздымуць свае рэйтынгі.**

Моду дыктуе нагода: у сталіцы Японіі пройдуць 32-я Алімпійскія гульні. Пачатак — ужо сёння, апошні акорд — 8 жніўня. Кажуць, беларусы сваё тэлебачанне глядзяць мала і яшчэ меней яму давяраюць, але спартыўныя трансляцыі тут выключэнне з правіл — бо заўсёды жывы эфір і аніякіх маніпуляцый. Перамагае мацнейшы, хутчэйшы, спрытнейшы — за што спорт і любяць паўсюль, дзе можна ўключыць тэлепрыёмнік і ўтарашчыць позірк у блакітны экран.

Але што заўзятары — тут, так бы мовіць, налівай ды пі. Глядзі на тых, хто рухаецца, перажывай, спачувай і радуйся. Сапраўды сакральны сэнс Гульні маюць найперш для саміх спартсменаў. Бо гэта галоўны старт чатырохгоддзя — а ў нашым выпадку нават пяцігодкі, таму што сёлетняя Алімпіяда праз кавід адбудзецца са спазненнем на дванаццаць месяцаў. Бо гэта тое, дзеля чаго дзеці ідуць займацца спортам, марачы аднойчы выступіць пад шатамі пяці кольцаў. Бо гэта — як «Оскар» для кінаакцёраў, а былых алімпійскіх чэмпіёнаў, вядома, не бывае.

Менавіта з гэтай прычыны калі ў Беларусі год таму ўсчыніліся пратэсты, то спартсмены хаця і далучыліся да іх, але пра байкатаванне Гульняў гаворкі не было. Бо нават самы прынцыповы прыхільнік перамен не кіне камень у атлета, які чатыры гады рыхтаваўся, каб у адзін цудоўны дзень паказаць свету ўсё, на што здатны. У антычныя часы Алімпіяды прыпынялі войны — зараз яны таксама служаць светлым ідэалам, хай сабе без двайных стандартаў часам не абыходзіцца.

Зрэшты, самы час тут прыглушыць ноткі патэтыкі, паколькі ў надта ж неардынарных абставінах даводзіцца МАК і японскаму ўраду праводзіць Гульні. Каронавірус, можа, і капітулюе перад сусветнай цывілізацыяй, аднак адступае неахвотна, кароткімі перабежкамі ды яшчэ і адстрэльваецца. То тут, то там уздымаецца чарговая хваля захворванняў, то тут, то там фіксуецца новы штам, які абавязкова больш небяспечны за папярэдні. Трэба сцерагчыся, і ў Токіа на прафілактыку кавіда завостраны амаль усе службы эпідэміялогіі і бяспекі. Фактычна ў японскай сталіцы будзе ўведзены рэжым надзвычайнага становішча.

Дастаткова сказаць, што арганізатары пайшлі на беспрэцэдэнтныя меры ізаляцыі падчас сённяшняй цырымоніі адкрыцця. Яшчэ за тыдзень да пачатку Гульняў медыя распавялі, што МАК вырашыў адмовіцца ад галоўнай эстэтычнай фішкі ў першы алімпійскі дзень. А менавіта — ад традыцыйнага параду каманд. Ну, вы зразумелі — гэта ўрачысты выхад зборных пад сафіты ў поўным складзе і круг гонару па стадыёне пад авацыі перапоўненых трыбун. То цяпер, як падаецца, паўнавартаснага параднага шэсця не будзе — і ўсё дзеля пазбаўлення залішняй рызыкі распаўсюду інфекцыі.

Істотна абмяжуюць і прысутнасць гледачоў на трыбунах. Спачатку журналісты засмуцілі іншаземных заўзятараў: маўляў, няма чаго ім ехаць у Токіа, бо замежнікаў на арэны і стадыёны не пусцяць. А потым дзявятым валам пайшла інфармацыя, што прысутнасць і мясцовых аматараў спорту на спаборніцтвах вырашылі рашуча дазаваць.

Зразумела, што такія дэзынфекцыйныя захады не дадалі імпэту не толькі заўзятарам, але і спартсменам. Так, Гульні — гэта галоўны старт чатырохгоддзя, аднак праз усе гэтыя выключныя акалічнасці ад удзелу раптам пачалі адмаўляцца асобныя спартыўныя зоркі. Асабліва — у вялікім тэнісе, дзе спіс «адмоўнікаў» рос як на дражджах. Серэна Уільямс і Сафія Кенін, Рафаэль Надаль і Роджэр Федэрэр, Б'янка Андрээску і Анжаліка Кербер…

Закранула гэтая хваля і беларускую зборную: напрыканцы мінулага тыдня «самаліквідавалася» з алімпійскага ростару і славутая наша суайчынніца, экс-першая ракетка свету Вікторыя Азаранка. Яна патлумачыла свой учынак цьмяна: «…у мяне шмат цудоўных успамінаў, калі я выйгравала алімпійскі турнір у Лондане», маўляў, «з нецярпеннем буду чакаць Гульні-2024 у Парыжы», але ў Токіа «ўдзельнічаць не буду» і гэта «вельмі цяжкае рашэнне».

Сёй-той адразу пачаў шукаць сярод матываў алімпійскай чэмпіёнкі палітыку, але гэта наўрад ці. Хаця сваім дэмаршам Вікторыя, канешне, не ўзрадавала беларускіх спартыўных чыноўнікаў. Тыя традыцыйна праводзілі спартсменаў у Японію пафаснай рыторыкай, нібыта атлеты выправіліся ледзьве не на вайну, а тут такі легкадумны самаадвод. Тым больш і шанцы на медаль у пары з Арынай Сабаленка ў Азаранка былі рэальныя — і што ты цяпер зробіш… І з гэтымі страчанымі шанцамі, і ўвогуле са скептычнымі прагнозамі наконт выступлення беларусаў на Гульнях.

Дастаткова сказаць, што ў алімпійскім Токіа Беларусь будзе прадстаўлена найменшай колькасцю ўдзельнікаў за ўсю гісторыю. Адпаведна, і чаканні ад каманды зараз даволі песімістычныя.

Аднак нездарма кажуць: у Алімпіядзе галоўнае не перамога, а ўдзел. І тут самы час адзначыць, што сярод той сотні беларускіх спартсменаў, якія ўжо прыбылі на востраў Хонсю, ёсць і свабодныя атлеты — тыя, хто летась выступіў супраць гвалту і за новыя выбары. Гэта лёгкаатлеткі Вольга Мазуронак, Эльвіра Герман, Дар'я Барысевіч і Марыя Жодзік, плывец Яўген Цуркін, баксёр Дзмітрый Асанаў і лучніца Карына Казлоўская.

Будзем памятаць пра гэта, пакуль гарыць алімпійскі агонь. І зычыць удачы, і глядзець тэлевізар, і верыць у лепшае.

Працяг тэмы на стар. 8–9 »

# Алімпіяда

Георгій ЗАГОНСКІ

**І ўсё-ткі яна адбудзецца! Нягледзечы на тое, што больш за шэсцьдзясят працэнтаў жыхароў Токіа выступалі за адмену Алімпіяды ў іх горадзе. Гульні будуць — і пачнуцца ўжо сёння. Пры адсутнасці любых фан-зон. З забаронай свабоднага перасоўвання атлетаў па-за межамі алімпійскай вёскі. У абставінах, калі дагэтуль існуе варагоднасць, пры якой толькі чвэрць спаборніцтваў пройдуць з гледачамі на трыбунах...**

Але нішто не перашкодзіць Японіі правесці Алімпіяду. Улады горада (і не толькі яны), напэўна, ужо не раз пашкадавалі, што зарабілі правы на гэтыя Гульні. Між тым, абавязацельства ёсць, а з каронавірусам свет сяк-так навучыўся змагацца.

### Добра, што не Мадрыд

Міжнародны алімпійскі камітэт (МАК), які, безумоўна, зацікаўлены, каб галоўны форум чатырохгоддзя ў любым выпадку адбыўся, відавочна, лішні раз падзякаваў тым дэлегатам, якія абралі менавіта Токіа ў якасці сталіцы XXXII летніх АГ. Бо ў свой час канкурэнтам Японіі быў Мадрыд. Дамогся б ён перамогі — хто ведае, ці вялі б мы зараз адваротны адлік. Цяперашняя рэчаіснасць зрабіла маштабныя спартыўныя падзеі кшталту Алімпіяд не надта прывабнымі з камерцыйнага і маркетынгавага пункту гледжання. А ў Еўропе неяк прызвычаіліся лічыць грошы дбайней, чым дзе-небудзь. Да таго ж, сярод дзяржаў нашага кантынента больш за Іспанію, улічваючы статыстыку захварэлых, ад кавіда пацярпелі толькі Францыя і Італія.

Як бы там ні было, а Алімпіяда, хай і ў найноўшыя тэрміны, адбудзецца. Калі вы яшчэ не знайшлі час абвесці чырвоным колерам у календары гэтую дату, то зрабіць гэта яшчэ не позна. З 23 ліпеня па 8 жніўня не злачынна будзе пасядзець па восем-дзевяць гадзін у Інтэрнэце і перад тэлевізарам — нікому, не толькі дзеючым спартсменам кшталту Кацярыны Снытынай. І калі ў вас яшчэ ёсць шанец сысці ў адпачынак, таксама абавязкова ім скарыстайцеся. Таму што падзей нас чакае шмат. Нават у мінулыя разы мала хто паспяваў пасачыць за пераважнай большасцю спаборніцтваў, а зараз — і пагатоў. Справа ў тым, што ў розыгрышы знаходзяцца 339 камплектаў узнагарод — то-бок абсалютны максімум.

Чаму? У параўнанні з Рыа-2016, у алімпійскай сям'і з'явіліся дысцыпліны-дэбютанты. Апроч шэрагу добра знаёмых заўзятарам, за кошт якіх пашырана праграма (напрыклад, мікст у трыятлоне, дзюдо, стральбе з лука), ёсць і зусім экзатычныя. Прынамсі, знойдуць уладальнікаў прызы ў каратэ, сёрфінгу, скалалазанні і скейтбордынгу. Яны ў распарадку Гульняў не назаўсёды. У адпаведнасці з апошнімі прадпісаннямі МАК, краіна-гаспадыня на ўласны погляд уключае некалькі відаў. Аналагічнае права, такім чынам, маюць і арганізатары Парыжа-2024.

### Тэсты і ліцэнзіі

Падкрэслім: цяжкасцей з тым, каб здзейсніць усё згодна з перайначаным планам, было нямала. Варыянт адмены АГ разглядаўся ўсур'ёз. Не ў апошнюю чаргу таму, што каронавірусная пандэмія цалкам парушыла каляндар усіх ліцэнзійных турніраў.

У мностве відаў кваліфікацыя была запланаваная на май-чэрвень 2020-га, калі кавід у свеце бушаваў. Яго першая хваля больш-менш сышла да другой паловы мінулага лета, але ніякай магчымасці правесці Гульні ў першапачатковыя тэрміны ўжо не засталося — бо ліцэнзіі не набылі сваіх уладальнікаў.



Фота Getty Images



Фота ttsport.ru

**Уладзімір Самсонаў: сваёй чарговай Алімпіяды ветэран не дачакаўся**

Добры прыклад — бокс. Летась у сакавіку ў Лондане пачаўся чэмпіянат Еўропы. Калі большасць міжнародных федэрацый націснулі на кнопку «паўза», МАК да апошняга яшчэ разлічваў на гэты баксёрскі форум. Па зразумелых прычынах: ва ўмовах канфлікту з АІБА ён узяў працэс кваліфікацыі ў Токіа-2020 пад уласны кантроль, і тое першынства было толькі першым (!) ліцэнзійным стартам. Давесці яго да фіналу ўсё роўна не ўдалося: першы выпадак станоўчага тэсту сярод удзельнікаў пазбавіў арганізатараў ЧЕ выбару.

І амаль што адразу, не прайшло і тыдня, МАК афіцыйна паведаміў: Гульні перанесены на наступны год. Усе, хто зарабіў ліцэнзіі (а на той момант размеркаваныя былі толькі каля 70 працэнтаў), могуць быць спакойныя за ўдзел у Алімпіядзе. Астатнія — чакайце паляпшэння эпідэміялагічнай абстаноўкі.

### Год у мінус

Гэты год чакання па-рознаму паўплываў на спартсменаў — і калі пераходзіць да беларускіх атлетаў, то ў часткі іх шанцы на добрыя вынікі зусім не падвысіліся. А некаторым наогул давялося адмовіцца ад паездкі ў Токіа.

У гэтым шэрагу найперш варта ўзгадаць ветэрана настольнага тэнісу Уладзіміра Самсонава. З усёй зборнай па пінг-понгу толькі ён здолеў здабыць права выступу на Алімпіядзе. Наіўна меркаваць, што ў жніўні 2020-га, калі яму было яшчэ не 45 гадоў, а 44, Самсонаў насамрэч пазмагаўся б за ўзнагароды. Але яго чацвёртае месца і вельмі яскравыя матчы ў Рыа заслугоўвалі не меншай павагі, чым нечыя ўзыходы на п'едэстал.

Кепска адбіўся лішні сезон і на перспектывах вядомага штангіста Андрэя Арамнава. У верасні 2019-га ён стаў срэбраным прызёрам чэмпіянату свету, дзякуючы чаму з'явіўся адным з асноўных кандыдатаў на ўдзел у Алімпіядзе. (Нагадаем, што Міжнародная федэрацыя праз шматлікія допінгавыя грахі абмежавала для беларускіх цяжкаатлетаў колькасць ліцэнзій усяго да дзвюх — для аднаго мужчыны і адной жанчыны.) Дык вось, прайшоў час — і ў лепшым становішчы аказаліся партнёры-супернікі Арамнава: Яўген Ціханцоў, Пётр Асаёнак, Эдуард Зязюлін. Канчатковы выбар зрабілі на карысць першага. А чэмпіён Пекіна-2008 і адзін з самых эпатажных атлетаў Беларусі Арамнаў застаўся па-за бортам.

Нарэшце, прыгадаем і малатабойца Івана Ціхана. Назаўтра пасля адкрыцця Гульняў у яго будзе юбілей — 45 гадоў. З вялізнай цяжкасцю алімпійскі нарматыў ён выканаў і білет на Гульні атрымаў. Аднак час працуе супраць дзеючага старшыні Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі. На гэтай пасадзе, калі хто запамятаваў, Ціхан мінулай восенню змяніў Вадзіма Дзевятоўскага — той напісаў у сацсетках «Лукашэнка не мой прэзідэнт» і праз нейкі час пазбавіўся кіруючай пасады.

### Тры срэбра і тры бронзы

Наогул, скептычнага стаўлення да перспектыў беларускай каманды ў Токіа хапае. З якога боку ні паглядзі — убачыш прыкметы таго, што сёлетняя Алімпіяда можа стаць антырэкорднай для Беларусі. У многіх адносінах.

Дастаткова сказаць, што 23 чэрвеня пасяджэнне выканкама НАК зацвердзіла склад алімпійскай дэлегацыі. І што б вы думалі: колькасны склад яе найменшы за ўсю суверэнную гісторыю. Дакладна — 109 атлетаў. Папярэднім «дасягненнем» быў паказчык Рыа-2016, куды зляталі 123 чалавекі. Красамоўная тэндэнцыя ў наяўнасці.

Тут бы, здаецца, турбавацца, на заключныя кваліфікацыйныя старты матываваць нейкім чынам патэнцыйных удзельнікаў — час павялічыць колькасць удзельнікаў яшчэ быў, але... НАК у асобе віцэ-прэзідэнта Дзмітрыя Даўгалёнкі, які адначасова будзе выступаць у якасці шэфа айчыннай місіі на Гульнях, адзначыў, што нават да зароблены ліцэнзій кіраўніцтва галіны падыдзе ўзважаным чынам. Маўляў, не кожнаму, хто сваёй карпатлівай працай забяспечыў сабе пуцёўку, знойдзецца месца на борце самалёта. Чаму так, невядома, але атрымліваецца, што гэты «ўзважаны» падыход чыноўнікаў супярэчыць алімпійскаму прынцыпу «галоўнае — не перамога, а ўдзел».

Зрэшты, ёсць падазрэнне, што хтосьці з заўзятараў і рады адсутнасці «турыстаў» у канчатковай заяўцы, аднак неяк дзікавата, калі НАК зусім не пакідае асобным выхаванцам алімпійскіх шанцаў і паводле ўласнага бачання вырашае, каму бессэнсоўна збірацца ў Японію.

Канешне, на такі выпадак у спартыўных функцыянераў заўсёды маецца зручны прыклад Сочы-2014. Туды, на зімовыя Гульні, наша краіна накіравала таксама самы малалікі склад — 27 атлетаў. І гэтага хапіла, каб вярнуцца адтуль дадому з пяццю залатымі ўзнагародамі і адной бронзавай. Успамінаць приемна. Тым не менш, гэта выпадак выключны. І куды больш верагодна, што колькасць (а з ёй і якасць) медалёў у Токіа-2020 скароціцца прама прапарцыйна шыраце нашага выязнога ліста.

Да такой высновы прыйшлі, напрыклад, спецыялісты з аўтарытэтнага агенцтва «Gracenote». Вядомае яно тым, што напярэдадні кожных Гульняў ажыццяўляе маштабны аналіз здольнасцей усіх спартсменаў. Прыцягвае вялізны аб'ём даных, на падставе якіх дае заключэнне, чаго сумарна чакаць той ці іншай дзяржаве на Алімпіядзе. Безумоўна, разлічваць на ідэальную дакладнасць тут нельга — нават калі з апрацоўкай лічбаў і фактаў парадак, заўсёды застаецца фактар выпадку, сенсацыі. Але ж і зусім ігнараваць падобныя расклады не трэба: хібнасць, калі зірнуць у нядаўнюю гісторыю, невялікая. Напрыклад, у зімовым Пхенчане-2018 «Gracenote» прадбачыла для беларусаў два медалі, срэбраны і бронзавы, — атрымалася тры: два залатыя і адзін срэбраны.

У красавіку (больш свежая рэдакцыя даследавання павінна выйсці напярэдадні АГ) згаданае агенцтва агучыла чарговы прагноз адносна табліцы ўзнагарод Токіа. Беларусі аналітыкі даюць шэсць узнагарод — тры

# Антырэкорд беларусаў па колькасці і горшыя чаканні

срэбра і тры бронзы. Калі ўсё здарыцца менавіта так, найгоршыя Гульні за перыяд незалежнасці немінучыя. Наколькі рэальная пагроза? Паспрабуем адказаць на пытанне, зыходзячы з вынікаў бягучага сезона ў выкананні айчынных прадстаўнікоў.

### Хто на што варты

Найпершая ўвага — лёгкай атлетыцы, дзе за Беларусь выступяць 36 спартсменаў. Але ці будуць медалі? Здаецца, паручыцца не можам ні за каго, але разлічваць на адну ўзнагароду усё-ткі варта.

Несумненна, гаворым пра подыум — маем на ўвазе прозвішча Максіма Недасекава. Днямі ён усталяваў гістарычнае для краіны дасягненне ў скачках у вышыню. На міжнародным турніры ў венгерскім Секешфехервары Недасекаў прадэманстраваў вынік 2,37. Гэта не толькі яго найлепшы паказчык, але і рэкорд Беларусі. Ну, і ў канчатковым выніку — паўтарэнне мацнейшай планкі ў свеце ў 2021-м. Відавочна, месца па-за межамі п'едэстала ў выпадку Недасекава будзе сенсацыяй.

Хто яшчэ? Складана вылучыць каго-небудзь, здольнага на нечаканасць. Але імёны пералічым. Не ўсіх, а менавіта тых, чый выступ у гэтым сезоне пакідае шанцы на сюрпрыз.

У першую чаргу, гэта Алёна Дубіцкая. У чэрвені яна штурхнула ядро на 19,65 — асабісты рэкорд і пяты метраж у свеце. Восьмы вынік мае скакуха з шастом Ірына Жук, дзявяты і дзясяты — кідальнікі кап'я Аляксей Каткавец і Павел Мелешка, таксама дзясяты — у іх калегі Тацццяны Халадовіч. Астатнія ад сусветнай тройкі значна далей.





Фота blrswimming.by

Ілля Шымановіч: галоўная надзея ў плаванні

Даволі лёгка супаставіць магчымасці беларусаў з планетарнай элітай у плаванні. Беларуская заяўка ўключае дзевяць фігур. Яўген Цуркін, Мікіта Цмыг і Віктар Стаселовіч у лепшым выпадку могуць разлічваць на паўфінал ва ўлюбёных дысцыплінах. Тут жа ўзгадаем Аліну Змушко і Анастасію Шкурдай. Першая на стометроўцы брасам мае дзявяты вынік у сезоне — пасля ўсталявання рэкорду краіны на красавіцкім чэмпіянаце Беларусі ў Брэсце. Другая, калі супадуць зоркі, таксама трымае мэту прабіцца ў галоўны фінал на дыстанцыі сто метраў, але на спіне. Дванаццаты паказчык у свеце, калі ўлічваць штомесячны прагрэс Насты, пакідае неблагія шанцы.

Асноўныя ж надзеі ў плаванні звязаныя с Іллёй Шымановічам. Найбольш значныя яго поспехі адносяцца да так званага кароткага, 25-метровага, басейна, але і ў звычайным яго секунды абнадзейваюць. Другі вынік у свеце на стометроўцы брасам — падстава, каб бачыць у асобе Шымановіча будучага ўладальніка медаля — аднаго на ўсю каманду.

Рухаемся далей — да веславання на байдарках і каноэ. Як кажуць, хочаш рассмяшыць Бога — раскажы яму пра свае планы. Таму цвёрда ўпэўненым нельга быць ні ў чым. Але, нават перастрахоўваючыся, падаецца неверагодным сцэнар, калі ўпершыню за перыяд працы са зборнай Уладзіміра Шантаровіча яна абыдзецца без узнагарод на галоўным старце чатырохгоддзя. Адна — як мінімум.

Самыя відавочныя кандыдаты на тое, каб папоўніць

**На нашую думку, на Алімпіядзе ў Токіа беларусам «свеціць» восем узнагарод. Мы спрачаемся с даследаваннем «Gracenote», якое прагназуе беларусам шэсць медалёў. Але ж абодва прагнозы аб'ядноўвае адно: трэба рыхтавацца да антырэкорду**

скарбонку, — жанчыны-байдарачніцы. Канкрэтна: Вольга Худзенка ў адзіночцы, яна ж разам з Марынай Літвінчук — у двойцы, і іх жа чацвёрка, склад якой дапоўняць Надзея Папок і Маргарыта Махнева. Першынства свету ў 2021-м не было, а на кубкавых этапах гэтыя экіпажы былі і ў прызах, і побач з імі.

Сучаснае пяцібор'е — від, дзе на працягу колішняга цыклу Беларусь набыла дамінуючыя пазіцыі. Як вам наступны факт: упершыню ў гісторыі «пентатлону» тры чэмпіянаты свету запар у жаночых індывідуальных спаборніцтвах поспех святкуюць дзяўчыны з адной краіны. Так, з Беларусі. У 2018-м золата адышло да Анастасіі Пракапенка, праз год — да Вольгі Сілкінай. І вось меней за месяц таму Пракапенка вярнула сабе званне наймацнейшай. А калі ўспомніць, што на этапах Кубка свету-2021 тройчы трапляў на подыум Ілля Палазкоў, то просіцца высновa: адзін медаль — рэальная мэта і, адначасова, не мяжа мар.

Цяжкая атлетыка — галіна, дзе пакуль сказаць нешта канкрэтнае, прабачце за таўталогію, цяжка. Па прычынах, адзначаных крыху вышэй. Справа ў тым, што Ціханцоў, які, на думку трэнераў, найбольш заслужыў адзіную мужчынскую ліцэнзію і, адпаведна, выступіць у Токіа-2021, са студзеня па ліпень не з'яўляўся на стартах пад эгідай IWF наогул. Замінала траўма. Між тым, гэтая акалічнасць не зашкодзіла трэнеру Валянціну Кароткіну прыпыніць выбар менавіта на Ціханцове. Выбар, які ёсць вялікай адказнасцю. Застаецца здагадвацца, якія кілаграмы на трэніроўках ускідваў над галавой малады 22-летні штангіст, па мінулым годзе — прыблізна трэці ў вагавой катэгорыі да 96 кг.

А вось у жанчын унутраную канкурэнцыю Дар'і Навумавай ніхто не складаў, што характарызуе каманду не з лепшага боку. Бо ў самой срэбранай медалісткі Рыа-2016 толькі восьмы паказчык у свеце. Агульная выснова: медаль можа быць.

У скачках на батуце, вядома, было заваявана адзінае беларускае золата у Рыа-2016. Яго тады начапіў на шыю Уладзіслаў Ганчароў. Цікава, што зараз ён з вялікай цяжкасцю прайшоў нацыянальны адбор. Батутыстаў сусветнага ўзроўню ў зборнай увогуле дастаткова. Апроч Ганчарова, гэта Іван Літвіновіч і Алег Рабцаў. Апошні застаўся трэцім лішнім.

Што тычыцца Ганчарова і Літвіновіча, то на медалі будуць прэтэндаваць абодва. Канешне, у першую чаргу, больш тытулаваны з тандэма. Таму беземдалле палічыцца грандыёзнай няўдачай. Хутчэй за ўсё, яе хлопцы пазбягуць. Медаль павінен быць, іншае пытанне — якой каштоўнасці.

Барацьба пяць гадоў таму прынесла трэцюю частку ўсіх узнагарод дэлегацыі — тры медалі. Бачыцца фантастычным сюжэт, пры якім удасца ўтрымаць гэтыя пазіцыі. Чэмпіянату свету ў 2021-м не было, каб рэпрэзентатыўна ацаніць шанцы на медалі айчынных спартсменаў. З Еўропы тры месяцы таму дзяўчыны і хлопцы сумарна прывезлі сем адзінак каштоўнага металу. Сярод іх і адна чэмпіёнка — Ірына Курачкіна. Раней яна ж была ў прызах на сусветным форуме-2019. Вось





Фота WTA

Вікторыя Азаранка: гэтым разам без мяне

і галоўны кандыдат на тройку. Але моцных канкурэнтак вялізная колькасць. То-бок 50 на 50, ці будзе хоць адзін медаль.

У мастацкай гімнастыцы чэмпіянат свету запланаваны на кастрычнік, але вынікаў кантынентальнага першынства дастаткова для разумення перадстартавых раскладаў. Бо мацнейшыя зборныя — менавіта ў Еўропе. Першая з іх — расійская, якой, здаецца, нішто не перашкодзіць заваяваць золата ў групавых практыкаваннях. А вось на астатнія прызавыя месцы будуць прэтэндаваць каля чатырох-пяці калектываў. У 2019-м беларускі былі срэбранымі прызёрамі, на пачатку гэтага чэрвеня — чацвёртымі. Тая ж гісторыя — калі медаль можа быць, а можа — не. У адрозненне ад індывідуальных спаборніцтваў, дзе цяперашнія нашы дзяўчыны саступаюць эліце.

Падобнае рэзюмэ дарэчнае і для кулявой стральбы. Глядзіце самі: аднойчы на этапах Кубка свету-2021 у алімпійскіх дысцыплінах былі ў прызах Марыя Мартынава і Юры Шчэрбацэвіч. Першая, да таго ж, — срэбраны прызёр чэмпіянату Еўропы-2019. Кампанію іх дапоўніць Вікторыя Чайка, якая ў свае 40 гадоў раз-пораз у васьмёрцы апынаецца. Агулам — ёсць спадзеў на адзін медаль.

Нешта дакладнае адзначыць цяжка, калі гаворым пра тэніс. Што ўзяць за асноўны арыенцір? Месца ў сусветным табелі? Дык, маючы там першы нумар, за апошнія пяць гадоў толькі Сімона Халеп аднойчы святкавала поспех на турнірах «Вялікага шлему». А звычайнасцю, з адваротнага боку, з'яўляюцца выпадкі, калі ў фінале гуляюць тэнісісткі з трэцяга дзясятка рэйтынга. Але ж наяўнасць Арыны Сабаленка — гэта прычына, каб медаль не стаў сенсацыяй. Была б яшчэ Вікторыя Азаранка, варта было б спадзявацца і на поспех у парным разрадзе.

У боксе беларусы не фігуравалі ў прызах з Афін-2004. Ці ёсць падстава разлічваць на перапыненне няўдалай серыі? Падаецца, не. На працягу бягучага цыкла безальтэрнатыўным лідарам зборнай быў Дзмітрый Асанаў (дарэчы, адзіны з падпісантаў ліста супраць гвалту). Ён перамог на Еўрапейскіх гульнях-2019 у Мінску, але ў яго вагавой катэгорыі канкурэнтаў нашмат больш, чым на кантыненце. З 2015-га Дзмітрый на сусветным п'едэстале не быў. Здаецца, спыніцца недзе водаль і зараз. Як вынік — трэба рыхтавацца да безмедалля.

Падобная сітуацыя ў веласпорце. У тым сэнсе, што адзінае прызавое дасягненне суверэнітэту — бронза Наталлі Цылінскай у Афінах-2004. У працяг некалькі цыклаў пазней мы разлічвалі то на яе, то на Васіля Кірыенку (гаворку тут вядзем і пра шашыйнікаў, і пра трэкавікоў). Зараз — малюсенькая надзея на Яўгена Каралька, двухразовага чэмпіёна свету ў скрэтчы, неалімпійскай дысцыпліне. На такійскім авале ён будзе змагацца ў омніўме. Шчыра кажучы, траплянне ў васьмёрку — сённяшні ўзровень Яўгена, не больш. Таму без паветраных замкаў: нуль узнагарод.

Яшчэ шэрагу відаў прысвецім адзін абзац. Бо там не тое што шанцы малыя — яны наўпрост адсутнічаюць. Верагодна, у ніжэйпрыгаданых спаборніцтвах беларусы будуць вельмі далёка ад вышынь, дзе пойдзе спрэчка за ўзнагароды. Гэта дзюдо, стральба з лука, веславанне акадэмічнае, спартыўная гімнастыка, парусны спорт, конны спорт, сінхроннае плаванне.

### Ісціна пасярэдзіне

Просты падлік сказанага прыводзіць да наступнай высновы. На Алімпіядзе ў Токіа беларусам «свеціць» ад пяці да адзінаццаці ўзнагарод. Ісціна, як заўсёды, недзе пасярэдзіне — восем. І тут мы крыху спрачаемся с даследаваннем «Gracenote», якое прагназуе беларусам толькі шэсць медалёў. Цікава, хто будзе мець рацыю. Але ж абодва прагнозы аб'ядноўвае адно: так ці інакш, трэба рыхтавацца да антырэкорду.

# Італія — і ўсе-ўсе-ўсе

Антон МАКАЎЧУК

**Футбольны чэмпіянат Еўропы цэлы месяц адцягваў нашу ўвагу ад змрочнага наваколля. У яго атрымалася: EURO віраваў эмоцыямі, фантанаваў жарсцямі, быў шчодры на яскравыя гульні і песціў сенсацыямі. Час праляцеў непрыкметна, і вось ужо каторы тыдзень старасвецкая футбольная супольнасць з асалодай робіць высновы. Зробім іх і мы, каб прыпыніць імгненне і зафіксаваць галоўнае.**



Фота AP

Зборная Італіі: мацнейшыя ў Еўропе!

**Галоўнае ж у футболе — гэта каманды. У нашым выпадку — нацыянальныя зборныя, якія «зрабілі» нам гэты ЧЕ.**

## Каманда-крэмень

**Зборную Італіі** перад стартам лічылі фаварытам хіба што па інэрцыі. Ну, «Скуадра Адзурра» — маштаб і веліч, нельга абмінуць увагай. Аднак па гамбургскім рахунку, употай альбо адкрыта,назіральнікі-аналітыкі ды каціроўшчыкі букмекерскіх ліній ледзьве не аднагалосна ядналіся ў думцы: «макароннікі», можа, і крутыя хлопцы, але куды ім да тых жа французаў ці бельгійцаў... Няма, маўляў, у іх касмічных зорак кшталту Мбапе, Лукаку, Кантэ і Дэ Бройнэ. Няма нават велічынь, якія здабывалі славу італьянскага футбола раней — такіх, як Тоці, Пірла, Канавара, Буфон.

Ну і што? — нібыта адказалі свету апенінскія гульцы. Футбол — справа калектыўная, а вялікія перамогі здабываюцца гуртам. Тым і ўзялі тытул, паказаўшы сябе менавіта гэтым — адзіным цэлым, камандай-крэменем, калектывам аднадумцаў.

Шлях італьянцаў да золата быў вытканы прыгожымі выцінанкамі. Тры перамогі на групавым этапе: над туркамі, валійцамі і швейцарцамі. І затым плей-оф праз галовы аўстрыйцаў, бельгійцаў, іспанцаў і — у фінале — англічан. У рэшце рэшт знайшоўся ў камандзе і сапраўдны лідар — 22-гадовы брамнік Джанлуіджы Донарума. Ён пацягнуў два пенальці ў пасляматчавай серыі ў фінале і літаральна ўцягнуў Італію на верхнюю прыступку п'едэстала. За што быў справядліва прызнаны найлепшым футбалістам чэмпіянату.

## Каманда-праклён

Гледзячы на выступы **зборнай Англіі** на топ-турнірах, часам так і хочацца сказаць не зусім паліткарэктнае: не тую краіну назвалі Гандурасам. Ну, насамрэч: родапачынальнікі футбола, самы моцны і прэстыжны нацыянальны чэмпіянат, гульцоў экстра-класа можна саліць у балёнах як агуркі — так іх шмат на брытанскіх выспах. А шчасця ўсё няма і няма.

Гэтым разам яно было вельмі блізка, і англійскія фанаты ўжо летуценна сціскалі кулакі — ну, вось жа вяршыня, застаўся апошні крок. Але не: дбайна адпрацаваўшы ў групавым раўндзе, справіўшыся ў гульні на вылет з украінцамі, немцамі і датчанамі, фінал Англія прайграла. І дзе — на родным лонданскім «Уэмблі», які так прагнуў доўгачаканага трафея... Не — зноў не. Зноў давядзецца пачакаць.

Чакаюць брытанцы ўжо 55 гадоў — з 1966-га, калі першы і апошні раз уздымалі кубак, перамогшы на чэмпіянаце свету. Потым — як адрэзала. Нібыта нейкі праклён стрыножыў каманду, у якой для поспеху ёсць усё. І усялякі раз ёй чагосьці не хапае.

## Каманда-сенсацыя

Паўфінал, у якім зборная Даніі сустракалася з англічанамі, журналісты назвалі «Андэрсен супраць Шэкспіра». Казкі не атрымалася: жорсткі Атэла хай і з пенальці-скандалам, але прыдушыў Дэздэмону-Русалачку. Зрэшты, гэта аніяк не паўплывала на галоўнае ўражанне ад гульні датчан: яны расквецілі EURO свежымі фарбамі і сталі галоўнай сенсацыяй турніра.

А іх жа хавалі ўжо ад самага пачатку — пасля неспадзяванай паразы ад дэбютантаў-фінаў, якая азмрочылася яшчэ і стратай праз сардэчныя праблемы лідара Крысціяна Эрыксена. Здавалася, усё, гамон, няма чаго лавіць на ЧЕ гэтым абяскроўленым паўночнікам.

Толькі справа ў тым, што не адзіным Эрыксанам сёння мае моц дацкая каманда. Там вырасла цэлая генерацыя гульцоў хай-класа — яны практыкуюць у топавых клубах: у «Барселоне», «Чэлсі», «Інтары», «Мілане»... Сабраўшыся разам на EURO яны стрэлілі магутным кумулятыўным эфектам. З прыгодамі выкараскаліся з групы, а потым на поўнай пары ўляцелі ў чацвёрку лепшых зборных Старога Свету. Пра гэта камандзе з маленькай 6-мільённай краіны можна было толькі марыць.

## Каманда-крышталь

Перад пачаткам ЧЕ зборная Францыі зіхацела і асляпляла, як латарынгскі крышталь. Што ты: дзеючы чэмпіён свету, у складзе скрозь «топавы топ» — адна толькі атакуючая тройка Мбапе, Грызман, Бензема чаго вартая. На чале — вопытны трэнер Дзідзье Дэшам, які трымае ўсё гэтае сузор'е ў тонусе і пад кантролем.

Французаў называлі галоўнымі фаварытамі чэмпіянату і цалкам мелі на тое рацыю. Але, як часта бывае, прадказанні паляцелі ў сметніцу. Ад «трохкаляровых», згодна з класікай, кровапраліцця чакалі, а яны з'елі чыжыка. Іх столлю на еўрапейскім першынстве стала першая ж фаза плей-оф. У 1/8 фінала зорная, наўкол тытулаваная французская каманда капітулявала перад простымі хлопцамі са Швейцарыі.

Так, здарылася драма: гульня дакацілася да серыі пенальці, дзе схібіў самы дарагі футбаліст свету (160 мільёнаў еўра) Кіліян Мбапе. Але ж ці варта было даводзіць справу да пасляматчавай «латарэі» і тым больш даваць суперніку адыграцца з ліку 3:1? Вядома, не. Бо ёсць у крышталя адна ўласцівасць: бліскучы ён прыгожа, аднак і б'ецца лёгка.

## Каманда-калос

Зборная Бельгіі — яшчэ адзін удзельнік EURO, у якога слабыя месцы перад стартам шукалі з ліхтарамі і не знаходзілі. Калі французы ўступалі ў барацьбу дзеючымі чэмпіёнамі свету, то бельгійцы распачыналі турнір у рангзе лідара сусветнага рэйтынгу. Не дапамагло: генерацыя «залатых хлопчыкаў» зноў засталася ні з чым.

Яны прайшлі крыху далей, чым «трохкаляровыя», — да чвэрцьфінала, дзе саступілі будучым чэмпіёнам італьянцам. І гэтая параза прынесла ім не проста расчараванне, а і панурую лебядзіную песню. Бо ўзроставых гульцоў у бельгійскім складзе была цэлая прорва: 11 чалавек перасягнулі мяжу ў 30 гадоў. Гэта значыць, што саспела змена пакаленняў — працэс балючы і праблемны.

Вось так яно бывае: ёсць у цябе каманда-калос, а ногі ў яе ад разу ў раз аказваюцца глінянымі. Шмат апошніх гадоў Бельгія справядліва ўспрымалася на ўзроўні лепшых зборных свету, а ў выніку так і не выйграла аніводнага трафея.

## Каманда-пчала

На ЧЕ хапала зборных так званай «сярэдняй рукі», гледзячы на якіх, заўзятары атрымлівалі асалоду. Годна трымалася Чэхія, месцамі феерылі швейцарцы, прыстойна паказалі сябе аўстрыйцы, і нават дэбютанты фіны з македонцамі дзе-нідзе выклікалі сімпатыі і павагу. Аднак з гэтага шэрагу працавітых, старанных, як пчаліны рой, каманд мы ўсё ж вылучым іншую — зборную Венгрыі.

Так, яна нават не выйшла з групы, але што там была за група! З такой і не выходзяць — у такой можна толькі прыгожа «загінуць». У венграў гэта атрымалася выдатна, і яны нават да апошняга прэтэндавалі на плей-оф. Напачатку толькі пакорліва саступілі ўладальнікам еўрапейскага тытула партугальцам — 0:3. Але потым пайшлі ва-банк і папілі шмат крыві іншым грандам-фаварытам. У выніку — дзве пачэсныя нічыі. З французамі — 1:1 і з немцамі — 2:2. Прычым у абодвух выпадках мадзьяры вялі ў ліку, а немцам дазволілі адыграцца толькі на 84-й хвіліне. За тое венгерскіх гульцоў ухваляем мы — і не толькі мы. Добрых слоў на іх адрас наляцела адусюль.

## Каманда-вязуха

А вось зборная Украіны пакінула пасля сябе надта супярэчлівы ўспамін. З аднаго боку, гарныя хлопцы паказалі станоўчы вынік. Чвэрцьфінал — гэта васьмёрка мацнейшых каманд у Еўропе. З іншага — якасць гульні «жоўта-блакітных» выклікала шмат пытанняў.

У плей-оф украінцы патрапілі як «ліміт» — з трэцяга месца ў групе, за кошт найлепшых паказчыкаў у завочным спаборніцтве. Увогуле, на першым этапе паўднёвыя нашы суседзі змаглі адолець толькі неафітаў-македонцаў — Нідэрландам жа і Аўстрыі саступілі цалкам заканамерна. Потым, канешне, быў файны эпас у 1/8 фінала са шведамі, аднак і там па выніках 90 хвілін адбылася нічыя — з «вар'яцкім» голам Доўбіка напрыканцы авертайма. Ну а ў чвэрцьфінале каманда, за якую ў сацсетках гучна «тапіў» прэзідэнт Уладзімір Зяленскі, фактычна без барацьбы, 0:4, спасавала перад англічанамі.

На выхадзе — усяго адна чыстая вікторыя, дзякуючы якой украінцы і сягнулі так далёка. У наступны раз можа пашанцаваць значна меней.

## Каманда-цень

Сказалі пра адных суседзяў, то трэба і пра другіх. Калі на хатнім для сябе чэмпіянаце свету-2018 зборная Расіі нечакана дайшла ажно да чвэрцьфінала, гэта займела два наступствы — імгненнае і адкладзенае. Імгненна радавалася ўся агромністая краіна, ад Калінінграда да Хабараўска, і яе лёгка зразумець. Адкладзена — с цягам часу у гульцоў, і асабліва галоўнага трэнера Станіслава Чарчэсава, непамерна вырасла самаацэнка...

Гэты EURO вярнуў расіян з нябёс на зямлю. Нагадаў, што як былі яны даволі пасрэднай камандай, так і засталіся. Усё, што здолела зрабіць гэтая каманда на ЧЕ, — гэта перамога над фінамі з мінімальным лікам 1:0. На бельгійцаў (0:3) і датчан (1:4) пораху ў рускіх футбалістаў ужо не засталося.

Дзівосным шлейфам пасля няўдалага выступу за зборнай Расіі пацягнулася эпапея з адстаўкай трэнера. Чарчэсаў сыходзіць не хацеў — ківаў на дзеючы кантракт і гаварыў, што яго каманда на чэмпіянаце Еўропы паказала добрую гульню. Журналісты і заўзятары хапаліся за галовы, а працадаўца — Расійскі футбольны саюз — не ведаў, што рабіць, і толькі красамоўна пазіраў у бок Крамля. Нарэшце адтуль прыляцелі словы Уладзіміра Пуціна: маўляў, «кадравы складнік» было б добра памяняць.

Пасля гэтага — вось супадзенне — жаданне заставацца на чале зборнай у Чарчэсава адразу знікла.

# EURO сваімі вачыма:

## спякотны Будапешт, вольны Амстэрдам, танны Бухарэст

Ілля КУНІЦКІ
спецыяльна для «Новага часу»

**Борт амерыканскай кампаніі «Юнайтэд» мякка кранууся ўзлётна-пасадачнай паласы і неўзабаве запаволіўся. За шклом прамільгнулі сілуэты іншых самалётаў, а потым раптоўна ўзнік каляровы надпіс на незразумелай мове: «Isten hozott Magyarországon!»**



Украінскія заўзятары на вуліцах Рыма

Фота AP

Пасажыры не затрымаліся на борце і хутка ўжо праходзілі пашпартны кантроль. «Пакажыце адмоўны тэст на кавід», — афіцэр у белай кашулі звяртаецца па-англійску. Дастаю паперу. «З якой мэтай прыехалі? EURO-2020? Пакажыце квіток на гульню». Адкрываю прыкладанне на тэлефоне і працягваю памежніку. «Ого, Францыя — Партугалія», — падымае вялікі палец угару, вяртае тэлефон, а потым паўтарае тую самую фразу, што бачная з акна самалёта: «Сардэчна запрашаем у Венгрыю!»

Наша вандроўка на чэмпіянат Еўропы пачынаецца з Будапешта.

### Латарэя

Дакладней, усё стартавала яшчэ ў 2019 годзе. Менавіта тады распачаўся продаж квіткоў на турнір. Працэс для нейтральных заўзятараў фактычна ўяўляе з сябе латарэю. На адмысловым сайце УЕФА ты робіш заяўку на гульні, якія хацеў бы наведаць. Калі заяўка «згуляе», то можна выкупіць квіткі. Зразумела, што павялічыць шанцы можна, зрабіўшы запыт як мага раней пасля афіцыйнага пачатку продажу і выбраўшы як мага болей гульняў. Тым больш, лішнія квіткі заўсёды можна здаць назад. Менавіта так рабілі мы з братам — і ў выніку атрымалася пяць матчаў.

Цяжкасць менавіта ў тым, каб выйграць гэтую латарэю, бо цэны на квіткі самі па сабе не надта высокія. Яны залежаць ад стадыі турніру, цэнавой катэгорыі і, адмыслова на гэтым ЧЕ, ад горада правядзення. Напрыклад, квіткі другой катэгорыі на групавы этап у Будапешце каштавалі 75 еўра кожны, а у Амстэрдаме — ужо 125. Чвэрцьфінал у Рыме той жа катэгорыі — 145 еўра.

### «Карона»

Два гады таму правядзенне чэмпіянату ў розных краінах Еўропы выглядала добрай ідэяй. Здавалася, можна вольна паездзіць па кантыненце, паглядзець розныя гарады і адчуць разнастайнасць культур. Але у 2021-м усё аказалася нашмат складаней. Сітуацыя змянілася, вядома, з-за пандэміі каронавіруса.

Да апошняга было не зразумела, ці пройдзе турнір з гледачамі ўвогуле. У выніку вырашылі, што заўзятараў дапусцяць — на гэтым настойваў УЕФА. Пытанне засталося ў тым, на колькі адсоткаў запоўняць стадыёны. Гэта вырашалі ўжо самі краіны-гаспадыні — у залежнасці ад эпідэміялагічнай абстаноўкі ў кожнай. У выніку 100 працэнтаў наведвальнікаў дазволілі толькі на арэне «Ферэнц Пушкаш» у Венгрыі.

Акрамя таго, краіны-гаспадыні ўстанавілі розныя правілы на ўезд праз свае межы, а таксама на праход на стадыён. Усё гэта стварала дадатковыя цяжкасці і выдаткі. Давялося пабачыць не столькі разнастайнасць культур, колькі рознае стаўленне да каронавіруса.

### Дунай

Будапешт сустрэў 35-градуснай спёкай і архітэктурнымі кантрастамі. Па дарозе з аэрапорта можна было падумаць, што едзеш недзе па мінскіх спальных раёнах: па-за дрэвамі ўзвышаліся тыповыя панэльныя дамы ў «найлепшых» традыцыях савецкай архітэктурнай школы.

А вось гістарычны цэнтр горада ўразіў ужо размахам сярэднявечных будынкаў. Шырокі Дунай раздзяляе горад на дзве часткі — Буду і Пешт, — якія звязваюць некалькі мастоў. Абодва бакі ракі забудаваныя старажытнымі цэрквамі, замкамі і адміністрацыйнымі будынкамі, найпрыгажэйшы з якіх — венгерскі парламент.

Нават фан-зона ў Будапешце — са старажытным каларытам. Яна размясцілася наўпрост каля прыгожага замка, пабудаванага ў 19-м стагоддзі. Тут давялося пабачыць некалькі сустрэч чэмпіянату. Прапаноўвалі ежу, піва і паказвалі футбол на чатырох вялізных экранах.

### Тэст

Але галоўнай падзеяй, дзеля якой мы наведалі Будапешт, была ўсё-ткі гульня «Францыя — Партугалія» на арэне «Ферэнц Пушкаш». Каб патрапіць на стадыён, патрэбны быў не толькі квіток, але і спецыяльны бранзалет, які паказвае адсутнасць каронавіруса. Венгры маглі атрымаць яго, прадэманстраваўшы свае карткі вакцынацыі.

Краіна правяла даволі паспяховую кампанію: больш за 50 адсоткаў насельніцтва было вакцынавана на момант пачатку EURO. Менавіта таму ўлады дазволілі поўную наведвальнасць на галоўным стадыёне краіны.

Замежнікам, у сваю чаргу, трэба было прадэманстраваць адмоўны ПЦР-тэст на кавід. Яшчэ ў аэрапорце мы пацікавіліся, дзе яго можна зрабіць. Ветлівыя валанцёры падказалі: проста каля стадыёна ёсць тэст-цэнтр, які адмыслова ўсталявалі для футбольных заўзятараў.

За дзень да гульні накіраваліся туды. Толькі выйшлі з метро, як пабачылі вялізную чаргу з французаў і партугальцаў — чалавек 50. Падумалася, што час яшчэ ёсць: было недзе дзве гадзіны, а медпункт працаваў да пяці. Але праз дзесяць хвілін да супрацоўнікаў выйшаў з непрыемнымі навінамі: праца спыняецца, узялі ўжо зашмат проб на сёння і больш людзей не прымуць. Як быць тым, каму тэст усё яшчэ патрэбны, каб патрапіць на гульню? Гэта вашы праблемы.

У выніку давялося знайсці лабараторыю самім ды заплаціць па 55 еўра. Паспелі здаць пробу ў апошні момант: ПЦР робіцца прыкладна суткі. Столькі ж заставалася да гульні.

### Аншлаг

Гэта было дзіўнае пачуццё — ісці ў шматтысячным натоўпе на масавую падзею пасля таго, як насельніцтва большасці краін свету больш за год знаходзілася на розных узроўнях каранціну ды ізаляцыі. Супакойвала думка, што ўсе навокал маюць ці адмоўны тэст, ці вакцыну. У выніку гульню наведалі амаль 55 тысяч гледачоў.

Пры такім вялізным натоўпе каманды правялі добрую па якасці сустрэчу, але напрыканцы відавочна не рызыкавалі і проста перакочвалі мяч — лік 2:2 выводзіў у плэй-оф і Францыю, і Партугалію. Дарэчы, большасць гледачоў былі мясцовымі, і найбольшыя авацыі на стадыёне выклікалі не галы Раналду ці Бензема, а поспехі сваёй зборнай ў паралельнай гульні з Германіяй. Некаторыя заўзятары наўпрост сачылі за падзеямі ў Мюнхене і глядзелі ў экраны сваіх тэлефонаў, а не на поле «Ферэнц Пушкаш».

Пасля фінальнага свістку ў горадзе было ціха, заўзятары моўчкі ішлі па дамах. Гарэзная зборная Венгрыі, якая згуляла ў нічыю з немцамі, пакідала ЧЕ.

### Прастытуцыя

Далей па плане была гульня 1/8 фінала ў Амстэрдаме, куды мы накіраваліся на наступны дзень. Першае, што кідаецца ў вочы па прылёце, — розніца ў надвор'і. У сталіцы Нідэрландаў было ўсяго +17, што пасля венгерскай спёкі адчувалася літаральна як глыток свежага паветра.

Амстэрдам — унікальны горад. Ён адначасова сучасны і сярэднявечны. Большасць насельніцтва перасоўваецца на роварах, а на шырокіх каналах людзі жывуць наўпрост у лодках-кватэрах. Там, як вядома, легалізаваныя лёгкія наркотыкі ды дазволеная прастытуцыя ў знакамітым квартале чырвоных ліхтароў. Амстэрдамская свабода кожны год прываблівае мільёны турыстаў.

На футбол таксама дапускалі па іншай сістэме. Тут можна было зрабіць хуткасны тэст на кавід проста каля «Ёхан Круіф Арэны» ў дзень гульні, прычым задарма. За дзве гадзіны да пачатку сустрэчы там сабралося шмат людзей, але чарга рухалася даволі хутка. Можа, нават занадта хутка. Падалося, што тэст рабілі проста для праформы: людзі праходзілі праз белыя наметы з медперсаналам за лічаныя хвіліны. Вынікаў тэсту ніхто не абвяшчаў.

У той дзень на полі сустракаліся Данія і Уэльс. У паўночнікаў не ўзнікла праблем, і яны ўпэўнена перамаглі. Як бы цынічна гэта ні гучала, але здарэнне з Крысціянам Эрыксанам, здаецца, станоўча адбілася на выступленні датчан на EURO. Так, спачатку футбалісты былі ў шоку і прайгралі дзве сустрэчы, але потым з'ядналіся разам з усёй нацыяй і ўпэўнена дайшлі да паўфінала.

Гульня ў Амстэрдаме была для Даніі як хатняя: тысячы іх фанатаў прыехалі ў Нідэрланды падтрымаць каманду. Пасля перамогі над Уэльсам футбалісты доўга не сыходзілі з поля. Яны спявалі, фатаграфаваліся і дэманстравалі поўную еднасць з заўзятарамі.

### Квэст

Наступная частка падарожжа была даволі цяжкай у плане лагістыкі: дзве гульні запар у двух розных гарадах. Спачатку быў той жа Будапешт, дзе Чэхія сенсацыйна перамагла Нідэрланды. Гэтая гульня скончылася позна ўвечары, а ўжо раніцай нас чакаў цэлы квэст.

Спачатку паспець на цягнік да Вены, потым з вакзала сталіцы Аўстрыі імчацца ў аэрапорт, дзе чакаў самалёт да Бухарэста. Мэта апраўдвала сродкі і высілкі: у той жа дзень на «Нацыянальным стадыёне» сустракаліся Францыя і Швейцарыя.

Галоўнае ўражанне ад сталіцы Румыніі пасля некалькіх дзён у Амстэрдаме — камфортныя цэны. Гатэль, ежа і асабліва транспарт каштавалі нашмат меней. На «уберы» за 10 еўра можна было дабрацца ад аэрапорта да цэнтра, а за 2-3 еўра — пакатацца па горадзе. Прычым Бухарэст даволі вялікі, і адлегласці там адчувальныя.

Але асноўныя эмоцыі выклікаў усё ж сам футбол. Гэта была адна з найлепшых сустрэч чэмпіянату: напачатку 1:0 на карысць Швейцарыі, потым узяты Л'ёрысам пенальці, перахоп ініцыятывы французамі — і паступова 3:1 на іх карысць. Канец? Не для швейцарцаў: два галы ў апошнія 10 хвілін асноўнага часу, а потым перамога па пенальці! Гэта было крута.

### Фантаны

У цэнтры Рыма было на дзіва ціха. Англія толькі што перамагла Украіну ў чвэрцьфінале, і брытанскія заўзятары засталіся святкаваць у ваколіцах «Стадыё Алімпіка». Італьянская паліцыя ачапіла галоўныя гістарычныя помнікі вечнага горада, а таксама агарадзіла фантаны, каб у іх не было спакусы выкупацца выпіўшым англічанам. Невялікія маўклівыя групы братоўукраінцаў шукалі адчыненыя рэстаранчыкі, каб перакусіць.

Іх, як і наш, EURO на гэтым скончыўся.

# Дзяўчына, якая ідзе.

Уладзімір МАКАРАЎ

**Мінск пазбавіўся яшчэ аднаго буйнога міжнароднага турніру — каманднага чэмпіянату свету па спартыўнай хадзе–2022, і гэта, здаецца, не выклікала здзіўлення ўжо ні ў кага. Пракаментаваць гэтае рашэнне Міжнароднай асацыяцыі лёгкаатлетычных федэрацый мы папрасілі двухразовую ўдзельніцу алімпіяд Анастасію Яцэвіч — падпісантку ліста за сумленныя выбары. І, само сабою, не ўтрымаліся ад спакусы падрабязней даведацца пра нюансы віду спорту, які, пры ўсёй сваёй непатрабавальнай назве, нельга назваць лёгкім. Асабліва калі хадзіць на адлегласці 50 кіламетраў пры 38 градусах спякоты.**

***— Як цяпер жыць без каманднага чэмпіянату свету? Суцяшацца, што і іншых міжнародных турніраў Беларусь не пабачыць?***

— Вы маеце рацыю, за гэты час нашу краіну пазбавілі такой колькасці спаборніцтваў, што і наш камандны чэмпіянат таксама не павінен быў стаць выключэннем. І не стаў.

Ну як можна праводзіць такі форум у краіне, дзе цяпер, мякка кажучы, не ўсё нармальна? Так што рашэнне абсалютна лагічнае. Не ведаю толькі, што зараз будуць гаварыць нашы галоўныя трэнеры, якія ставілі гэты турнір галоўным арыенцірам і заклікалі спартсменаў — і вопытных, і зусім маладых, — не адцягваць увагу на тое, што адбываецца ў краіне.

Зразумела, мне б таксама хацелася выступіць на хатнім чэмпіянаце свету — думаю, пра гэта марыць любы спартсмен. Дарэчнай будзе нават паралель з Алімпійскімі гульнямі. І ўпотай я спадзявалася, што ўсё гэта скончыцца гэтым летам, тады б яго ў нас ніхто б не забраў. Але, на жаль...

***— На Алімпіяду ў Токіа вы не едзеце?***

— На жаль, у мінулым годзе атрымала траўму, потым гаіла яе, і таму часу на якасную падрыхтоўку было мала.

Хоць, вядома, слова «алімпіяда» — гэта неверагодны стымул, і я вельмі хацела туды патрапіць. Але трэба ўлічваць і псіхалагічны фон, які, проста скажам, здароўя не дадаваў. Адчувала, што не выцягваю на першы нумар. А калі я не першы, то навошта мяне везці?

***— Аднак варта адзначыць, што ў складзе зборнай краіны вы выйгралі бронзу на камандным Кубку Еўропы ў маі.***

— Да гэтага часу мы не атрымалі ні аднаго рубля прэміі. Нават віншаванняў не пачулі — ні з боку федэрацыі, ні ад Міністэрства. Можа, яшчэ нейкія грошы прыйдуць на картку, але галоўным піярам гэтага поспеху былі нашы ўласныя фота ў Instagram. Такое пачуццё, што гэтага ніхто і не заўважыў. Хоць упэўненая, што чыноўнікі «галачку» сабе паставілі. У іх на гэты конт ўлік строгі.

Абяцалі вярнуць зарплату члена нацыянальнай зборнай, якую забралі ў мінулым годзе, але я ў гэта не вельмі веру. Пакуль мой подпіс стаіць у лісце супраць гвалту, мяне наўрад ці бачаць у нацыянальнай камандзе.

***— Вялікая была стыпендыя?***

— 1300 рублёў.

***— На што ж вы жылі?***

— На тыя грошы, якія былі. Плюс мне рабілі зборы і плацілі невялікую зарплату ад Брэсцкага аблспарткамітэта, адкуль я родам. 380 рублёў. Яшчэ былі выезды на камандны чэмпіянат Еўропы — тут нельга скардзіцца.

Мне пастаянна гаварылі пра тое, што, маўляў, Насця, ты ж разумееш, гэта не мы, гэта Міністэрства спорту. Але тут усё было зразумела: я была патрэбная для таго, каб зрабіць вынік. Ён быў зроблены, ну а цяпер... (Усміхаецца.) Але я той чалавек, які не будзе хвалявацца. Трэба вызначаць сабе новыя мэты і ісці наперад.

***— Успомнім пра вашы мінулыя Алімпіяды.***

— У Рыа–2016 на «дваццатцы» я была сямнаццатай, зараз, пасля чарады дыскваліфікацый суперніц, напэўна, ужо чатырнаццатая. Ну а ў Лондане-2012 фінішавала сорак сёмай. Але тады я была маладая і дурная, адразу рынулася наперад з усіх сіл. Вельмі хацелася прывезці дадому медаль. А хада такога не даруе.

З часам стала сыходзіць хуткасць, і я перакваліфікавалася на дыстанцыю 50 кіламетраў. Вынікі не прымусілі сябе чакаць: на камандным чэмпіянаце свету ў Кітаі ў 2018-м была восьмай, на Чэмпіянаце Еўропы–2019 у Літве — пятай, на Чэмпіянаце свету ў Катары–2019 — дванаццатай. Калі б на Алімпіядзе ў Токіа была «пяцідзясятка», то шанцы мае, вядома, былі б вышэй.

Але вы ж ведаеце, як ставяцца да новаўвядзенняў. І хаця марафон для жанчын-хадакоў набірае папулярнасць, для таго, каб яго ўключыць у алімпійскую праграму, трэба нешта адтуль выключыць. Зрэшты, спадзяюся, што ў Парыжы–2024 «палціннік» зможа дэбютаваць. Ва ўсякім выпадку, мне б вельмі гэтага хацелася.

Няхай хаця б 35 кіламетраў, якія мы хадзілі на Кубку Еўропы. Зрэшты, я зараз знаходжуся ў такой форме, што для мяне чым больш дыстанцыя, тым лепш.

***— Раскажыце, якія траўмы бываюць у спартыўнай хадзе — на прыкладзе хаця б сваёй апошняй.***

— У 2008 годзе ў мяне быў разрыў пярэдніх крыжападобных звязак. А потым там жа зламаўся адзін храсток і раздрабніў пры гэтым іншы. Яго чысцілі і аднаўлялі. Даволі складаная аперацыя, пасля якой мне сказалі ў Інстытуце траўматалогіі і артапедыі, што ніякага спорту ў маім жыцці быць ужо не павінна.

Шэсць тыдняў на мыліцах і паўгода аднаўлення для таго, каб нарасціўся новы храсток. Яго штучна раздрабнілі, каб ён пусціў новыя атожылкі і аднавіўся.

Гэта быў ліпень, і да снежня я аднаўлялася. І толькі пад Новы год пачала трэніравацца. Вось чаму мне і не хапіла тэрміну для напрацоўкі аб'ёмаў і хуткасці. Ну і, зноў жа, сэнс змагацца, калі ў цябе няма падтрымкі?

***— Калі размова ідзе пра дыстанцыі 50 кіламетраў, здаецца, што мы гаворым пра нейкія межы чалавечых магчымасцей — бо вы ідзяце іх з хуткасцю, якую не кожны бягун можа развіць. Сусветны рэкорд у жанчын — менш за чатыры гадзіны...***

— Ну, калі мужчыны ходзяць 50 кіламетраў, то чаму жанчыны не могуць гэтага рабіць? Ды і марафон яны даўно ўжо бегаюць, так што я прадказваю далейшы прагрэс у нашых рэкордах.

Іншая справа, што ў такіх стаерскіх дысцыплінах тон задаюць ужо вопытныя спартсменкі — як правіла, тыя, каму ўжо за трыццаць. Юным дзяўчатам 19-20 гадоў там рабіць абсалютна няма чаго, калі, вядома, яны не з Расіі, дзе барацьба за месца ў зборнай пачынаецца ледзь не з дзіцячага ўзросту.

Але, зноў жа, гэта не ёсць добра, таму што для пераадолення такіх аб'ёмаў арганізм павінен сфармавацца і загартавацца многімі гадамі трэніровак. Мінімум 25–26 гадоў. Хуткасць і гнуткасць развіць лёгка, а вось цягавітасць — гэта справа іншая.

***— Раблю выснову, што ў свае «трыццаць плюс» вы знаходзіцеся на піку фізічных магчымасцей.***

— У кожнага свой пік, і, напэўна, ён быў у мяне годы ў 32–33. Арганізм усё-ткі зношваецца, і часам яму трэба даць перапынак — скажам, нарадзіць дзіця, а потым вярнуцца з новымі сіламі. Але, зноў жа, я ведаю людзей, якія паказваюць свае лепшыя вынікі і ў 36, і ў 40 гадоў. «Цярпёжка» напрацоўваецца гадамі. Спытайце пра гэта хаця б у нашай найлепшай марафонкі Олі Мазуронак.

Але наогул у кожным відзе спорту самае галоўнае — гэта галава. Усё прыходзіць з вопытам. Тыповы стан нашага спартсмена — спешка. Даеш! Усё трэба зрабіць менавіта зараз і сёння. Таму што неабходна трапіць у каманду, паехаць на спаборніцтвы. І ты не слухаеш свой арганізм. Гвалтуеш яго звыш меры, і адтуль атрымліваюцца траўмы.

Далёка хадзіць не будзем: мне сказалі, што трэба ўзяць паўзу для лячэння ў паўгода, але не, я ўжо праз чатыры месяцы выйшла на беговую дарожку. Мне няма калі, мне ўжо трэба паспець на Алімпіяду! (Усміхаецца)

***— Самы драматычны ўспамін для кожнага стаера высокага класа — гэта чэмпіянат свету 2019 года ў сталіцы Катара Досе. Эксперымент з правядзеннем турніру ў разгар неверагоднай спякоты прайшоў адносна паспяхова для тых, хто спаборнічаў у нетрах стадыёна. Там на ўсю моц працавалі кандыцыянеры. Але вуліцы імі не абсталюеш, таму марафонцы і хадакі тады літаральна страчвалі прытомнасць на дыстанцыі, хоць іх старты прызначылі ў начны час.***

— Дастаткова сказаць, што потым, калі я пасля трэніроўкі заходзіла ў саўну, то ў мяне перад вачыма паўставала Доха. І тут жа ўключаўся інстынкт самазахавання. Мне хацелася пакінуць гэтае месца.

Я ўспамінала які-небудзь 45-ы або 47-ы кіламетр дыстанцыі — і мне, натуральна, станавілася


Фота SportTime



Фота SportTime

# Паміж небам і зямлёй

дрэнна. І як бы я ні любіла раней лазню і саўну, для мяне яны на даволі працяглы час сталі месцам пакуты. Пакуль арганізм не аднавіўся і гэтыя асацыяцыі не сышлі ў нябыт.

***— Гэта значыць, на 45-м кіламетры вы ўжо знаходзіліся ў стане…***

— Паміж зямлёй і небам — так дакладней за ўсё сказаць. Я ішла па зямлі, але мне здавалася, што душа мая ўжо аддзяляецца ад цела і неўзабаве пырхне на нябёсы. Ты ўжо не пацееш, ты не церпіш. Ты ўжо проста гароднiна.

Табе не горача, а наадварот холадна. Калі фінішавала, я проста ўпала пад палатку, людзі раз'язджаліся, а я не магла ўстаць. У мяне пачаўся ванітавы рэфлекс, то-бок арганізм быў на поўным нулі.

Калі даехала да гатэля, то легла пад кучу коўдраў, але мяне ўсё роўна трэсла і біла. Арганізм адрынаў любую ежу.

***— Заход быў ноччу — колькі градусаў тэрмометр паказваў?***

— 38. Пра вільготнасць дакладныя лічбы не скажу, але гэта была натуральная саўна. А як толькі выходзіш з-пад кандзішана ў аўтобусе ці на стадыёне, то імгненна становішся мокрым.

Як змагацца з гэтым — абсалютна незразумела. Праўда, былі спартсмены, якія падышлі да пытання радыкальна: яны яшчэ на старце прымалі ванны з лёду. Людзі не разміналіся. Яны проста бухаліся ў іх і ляжалі, як у халадзільніку, астуджаючы арганізм да той мяжы, якую маглі вытрымаць.

Мне потым сказаў адзін з замежных трэнераў, што такім чынам спартсмены стваралі сабе запас у дзясятак-паўтара кіламетраў перад сваімі супернікамі.

Яны выходзілі на старт літаральна трасучыся ад холаду, і пакуль арганізм награваўся, то праходзіла ўжо амаль траціна дыстанцыі. І толькі потым пачынаўся зваротны рэфлекс — з'яўляўся пот і іншыя звыклыя прыкметы працы на дыстанцыі.

Вельмі добрая методыка, як я цяпер разумею. Тым больш, што і вынікі на фінішы ў гэтых спартсменаў былі даволі нядрэннымі. Па крайняй меры, яны не падалі і не ляжалі ля трасы, як іншыя.

Заўсёды думала, што спякота — гэта маё надвор'е, і я яе пераношу даволі нармальна. Але, мабыць, я проста яшчэ не сустракалася з сапраўднай спякотай. Спякота — гэта калі на выжыванні і твой арганізм вырашае толькі адну задачу: не памерці. Ужо не думаеш пра секунды, вынік і месцы, на тваім баку толькі генетыка. Ну і, напэўна, сіла волі, таму хтосьці даходзіць, а хтосьці не.

Ідзеш і бачыш, як ляжаць суперніцы, якія былі фаварыткамі — партугалка, іспанка… Яны рэальна былі вельмі моцныя, тытулаваныя і збіраліся ў чарговы раз змагацца за медалі. А цяпер у іх нячулы выгляд і вакол мітусяцца лекары. І думаеш: «Насця, такія людзі ўжо ўсё. А ты яшчэ жывая?» І дзіўным чынам мяне гэта падбадзёрвала. «Вось яны не змаглі, а я дайду!»

Яны хутка пачалі, і іх хутка склала. Нашы дзяўчаты-марафонкі беглі напярэдадні і ўсё гэтае пекла ўжо прайшлі. І калі я сустрэла Олю Мазуронак і Свету Кудзеліч, то яны ў адзін голас сказалі мне: «Насця, ні ў якім разе не пачынай хутка!»

У іх наогул «падзёж» быў унікальны і да гэтага выпадку нідзе не зафіксаваны: прыкладна палова не змаглі фінішаваць. Лепшых марафонак свету! У гэта цяжка паверыць, але я вельмі нават веру. Таму што я там была. Прычым марафонкі гаварылі, што ў нас умовы былі лягчэй — і вільготнасць, і тэмпература былі менш. Але я так не думаю.

Прызнаюся, я тады паслухалася дзяўчат і таму, напэўна, змагла фінішаваць і паказаць даволі прыстойны вынік. Хоць з гэтым было цяжка змірыцца,


Фота SportTime



Фота zviazda.by

таму што я да гэтага так напахалася ў гарах, што прыйшла ў сваю самую лепшую форму і магла ісці практычна на любой хуткасці, і проста рвалася ў бой.

Ведаеце, спартсмены часта перабольшваюць свае здольнасці. Здаецца, што менавіта ў цябе ўсё будзе не так, як у іншых. І будзь я больш маладой і гарачай, то, напэўна, не ўтрымалася б ад спакусы стартаваць так, як планавала яшчэ на горнай падрыхтоўцы — ад усёй душы. Але я ўжо дарослая і вопытная і вельмі люблю слухаць парады бывалых людзей…

«Насця, ідзі сабе пешшу. Ні ў якім разе не паскарайся, як бы табе гэтага ні хацелася. І ты будзеш бачыць, як адна за адной будуць сыходзіць твае суперніцы. Доха — гэта не пра чэмпіянат свету, гэта пра нешта іншае». Так і зрабіла. Была адзін раз спакуса паскорыцца, але паглядзела на пульс — 160 — і супакоілася. Самае цікавае, што потым і пульс не павышаецца, калі арганізм адчувае небяспеку і пачынае змагацца, каб чалавек не страціў прытомнасць.

***— Маркую, што арганізму вы актыўна дапамагалі.***

— Не лічыла колькі, але на кожным з пяцідзесяці кругоў я піла — думаю, за гэтыя гадзіны выпіла двухдзённую норму вады. Пасля фінішу піла практычна ўвесь час — і больш, чым падчас заходу. І ўсё, што піла, тут жа выходзіла праз пот. Але гэта было адзінае выратаванне для арганізма.

Я ніколі не чакала з такім нецярпеннем пунктаў харчавання, як у Досе. Ідзеш, лічыш спачатку кіламетры, а потым сотні метраў да яго. І думаеш: вось, ён хутка будзе, табе дадуць лёд і яго можна будзе пакласці пад кепку і пад ручнік на шыю.

І вось тады ты больш-менш прыходзіш у прытомнасць і дзесяці яшчэ кіламетр адчуваеш сябе чалавекам. Удых-выдых — і пайшла далей…

***— Чалавек, якія прачытае пра вашы пакуты, дакладна падумае: «Ніколі не аддам сваіх дзяцей у спартыўную хаду».***

— Ды я і сама не ведаю, як я туды трапіла і што я там раблю. (Смяецца.) Гэта ўсё мой тата. Ён трэнер і аддаў мяне і ў лёгкую атлетыку, і ў лыжы — каб умацаваць здароўе і заадно паглядзець, дзе я праяўлю больш здольнасцей.

У спартыўную ж хаду народ не асабліва ламіўся, і я неяк адразу пачала перамагаць ледзь не на ўсіх спаборніцтвах запар. А што дзіцяці трэба? Медаль з дыпломам — і яно абсалютна шчаслівае.

***— Дзіця вырасла і працягвае хадзіць. Доўга яшчэ?***

— Калі шчыра, у думках у мяне Парыж–2024 яшчэ ёсць. Але як усё складзецца, не ведаю. Ды і хто ведае, што будзе ў нашай краіне заўтра? А мае рашэнні шмат у чым залежаць менавіта ад гэтага. Таму што спорт, пры ўсёй да яго павазе, далёка не самае галоўнае ў жыцці.

# З Леўчанка і Сныцінай былі б медалі

Сяргей КАЙКО

**Актыўная падтрымка дыяспары з БЧБ-сцягамі. Сенсацыя на старце і добры імпэт пасля. «Верым, можам, пераможам!» ад аднаго з лідараў на прэс-канферэнцыі. Стома напрыканцы і выніковае безмедалле. Беларускія баскетбалісткі скончылі ўдзел у чэмпіянаце Еўропы, заняўшы пачэснае чацвёртае месца.**

**Як гэта было і чаму так завяршылася — у расповедзе «НЧ».**

### Свае сярод чужых

Адразу адзначым, што ў чэрвеньскім спартыўным жыцці бабулі Еўропы жаночы Еўрабаскет топавай падзеяй не стаў. Бо занадта шмат наклалася абставін, якія адцягнулі ўвагу да іншага. Тут і пандэмія каронавіруса, праз што ў Валенсію і Страсбург замежныя заўзятары амаль не прыехалі і гледачоў на трыбуны запускалі ў абмежаванай колькасці. Тут і летняя гарачыня, якая пацягнула тамтэйшы люд далей ад асфальта і бліжэй да вады. Тут — і гэта галоўнае — доўгачаканы футбольны EURO, які накрыў густым ценем любы іншы спорт на кантыненце.

Але ўвесь гэты фон выдатна спрацаваў на падтрымку зборнай Беларусі. Бо такія ўжо цяпер у нас часы: дыяспары гуртуюцца, множаць салідарнасць і генеруюць сапраўдны патрыятызм.

Так і сталася, што дзясятак валенсійскіх беларусаў аказаўся ці не ў цэнтры ўвагі падчас матчаў суайчынніц. Бел-чырвона-белыя сцягі і іншая «несанкцыянаваная» сімволіка, воклічы з трыбун, якія на радзіме лічацца ледзь не экстрэмісцкімі, усялякія іншыя актыўнасці — хто-хто, а наша зборная на ЧЕ без прыкметнай падтрымкі не засталася.

Вядома, кіраўніцтву беларускай дэлегацыі БЧБ-афарбоўка фанацкага згуртавання паўстала папярок горла. Генсек федэрацыі баскетбола Настасся Марыніна разам з супрацоўнікамі амбасады, якія рэгулярна наведвалі гульні, неяк спрабавалі «зачысціць» прастору ад «дэструктыўных» колераў. Тэлевізійшчыкі на БТ імкнуліся маніпуляваць карцінкай, каб сцягі і іншая «Пагоня» не трапілі ў кадр жывых трансляцый. Старшыня БФБ (і па сумяшчальніцтве буйны дзяржаўны чыноўнік) Максім Рыжанкоў даваў агню з Мінска, называючы заўзятараў ледзьве не ворагамі айчыннага спорту, якія зычаць сваім баскет-балісткам няўдач. Аднак усе гэтыя высілкі аказаліся марнымі.

Канчаткова ясна гэта стала пасля паўфінальнага матча з француженкамі, калі баскетбалістка Тацццяна Ліхтаровіч на прэс-канферэнцыі выказала шчыры рэспект заўзятарам. Прычым яна не толькі падзякавала БЧБ-гледачам, але і заклікала падтрымліваць каманду надалей, і скончыла свой кароткі выступ ёмістым слоганам «Верым, можам, пераможам!».

Зрэшты, агульнае стаўленне да зборнай падчас чэмпіянату было даволі стракатым, не наўсцяж адназначным. Бо гэта з аднаго боку аранжавым мячом грукалі аб паркет Тацццяна Ліхтаровіч, Аляксандра Тарасава і Ганна Брыч — дзяўчаты, якія ў жніўні падпісаліся пад адкрытым лістом за сумленныя выбары і супраць гвалту. З боку другога гуляла Юлія Рыцькава — падпісантка за Аляксандра Лукашэнку і жонка міліцыянта, які ўдзельнічаў у падаўленні пратэстаў. А паабапал — баскетбалісткі-маўчунні, якія наконт сітуацыі ў краіне ўвогуле аніяк не выказаліся.

Таму скажам па праўдзе: хапала і тых, хто ў такім кагнітыўным дысанансе вырашыў наогул абстрагавацца ад Еўрабаскета, каб не рваць душу. Зразумець не цяжка: маральныя камертоны ў сучаснай Беларусі зараз настроены так, што найперш узрушаюць рэпрэсіі, палітвязні, дзівосныя суды і паранармальныя выракі, і толькі потым — усё астатняе: ад спартыўных вынікаў да навінак літаратуры і намінантаў на «Оскар».

### Каля п'едэстала

Месца, якое занялі беларускі на ЧЕ, лічыцца ў спорце самым крыўдным. Чацвёртае, каля самай прызавой тройкі, — як кажуць, «драўляны медаль». Аднак не ў становішчы сённяшняй зборнай скардзіцца на лёс. Таму што перад пачаткам турніру чаканні былі нашмат больш песімістычнымі. У гульні каманды хапала хібаў, вынікі кантрольных спарынгаў былі адмоўныя, дый задачу кіраўніцтва ставіла больш сціплую — выйсці хаця б у чвэрцьфінал.

Але ўжо ад самага старту беларускі газанулі так, што густы выхлап ахінуў не каго-небудзь, а дзеючых чэмпіёнак Еўропы іспанак. Беларускі перамаглі адных з галоўных фаварытак — і гэта сталася сапраўдным цудам, які дагэтуль складана асэнсаваць.

Па гамбургскім рахунку, тая вікторыя і адчыніла беларускай зборнай дзверы наверх, бо далей гулялі ўжо ў сваю сілу. Саступілі славачкам — прыкра, але па справе. Потым перамаглі Швецыю — упэўнена і з буйным лікам. Па выніках групавога раўнду гэтыя поспехі дазволілі заняць першае месца ў адборачным квартэце і напрамкі выйсці ў чвэрцьфінал.

Там на шляху патрапіліся старыя знаёмыя — тыя ж шведкі, якія аказаліся ў топ-8, перамогшы на адмысловай дадатковай стадыі 1/8 фінала. Другі раз у тую ж раку беларускі зайшлі цвёрдым крокам і зноў патапілі скандынавак.


Зборная Беларусі: лебядзіная песня?
Фота fiba.basket

Так, на гэтым радасці скончыліся — у паўфінале зборная капітулявала перад магутнай камандай Францыі, а потым не дала рады і бельгійкам у гульні за трэцяе месца. Такі фініш падпсаваў баскетбалісткам настрой, але як па цвярозым розуме, то агулам адысея на Еўрабаскет атрымалася для каманды паспяховай. І па вышэй згаданых прычынах, і яшчэ таму, што на такую вышыню беларускі жаночы баскетбол узняўся ўсяго чацвёрты раз у гісторыі. Дагэтуль былі бронза-2007 і такое ж чацвёртае месца ў 2009-м і 2015-м.

Ну, і яшчэ на адзін бонус нельга забыцца: патрапленне ў чацвёрку мацнейшых у Еўропе аўтаматычна дазволіла каманде кваліфікавацца ў адборачны турнір на чэмпіянат свету-2022.

**МАТЧЫ ЗБОРНАЙ БЕЛАРУСІ**

***Групавы раўнд***
*17.06. **Беларусь** — Іспанія — 53:51.*
*18.06. Беларусь — **Славакія** — 54:58.*
*20.06. **Беларусь** — Швецыя — 78:54.*

***Чвэрцьфінал***
*23.06. **Беларусь** — Швецыя — 58:46.*

***Паўфінал***
*26.06. Беларусь — **Францыя** — 61:73.*

***Матч за трэцяе месца***
*27.06. Беларусь — **Бельгія** — 69:77.*

***ФІНАЛ***
*27.06. Францыя — **Сербія** — 54:63.*

### Абмежаваны кантынгент

Падпісантак ліста супраць гвалту ў складзе зборнай на чэмпіянаце Еўропы магло быць болей — калі б з кантэксту не выпалі Алена Леўчанка і Кацярына Сныціна. Гэтая гісторыя занадта вядомая, каб цытаваць старажытныя папірусы.

Леўчанка яшчэ да выбараў у каманду запрашаць перасталі — праз розныя прычыны, уключаючы прынцыповасць характару адной з лепшых цэнтравых сусветнага жаночага баскету. Сныціна ж сышла нядаўна — у сакавіку, — перад гэтым зрабіўшы важкі ўнёсак у выхад зборнай на ЧЕ падчас кваліфікацыі. Аргументацыя рознабаковая: ад рашучага адмаўлення падпісваць дадатак да кантракту (там прадугледжвалася ўзгадненне з кіраўніцтвам любых кантактаў з прэсай) да агульнага эмацыйнага стану («Не хачу прадстаўляць Беларусь на міжнароднай арэне ў той час, калі мой народ пакутуе ад катаванняў і рэпрэсій».)

Усё гэта зразумела, як зразумела і іншае: Алены і Кацярыны беларускам на Еўрабаскеце ой як не хапіла. Можна сцвярджаць з упэўненасцю: з дапамогай гэтага тандэму вопытных майстроў зборная пэўна б заскочыла на п'едэстал.

Бо ў Валенсіі мы ўбачылі ўсё тую ж старую праблему, пазбыцца якой наш жаночы баскетбол не можа доўгія гады. Абмежаваны кантынгент кваліфікаваных гульцоў, крытычна кароткая лава запасных — ад гэтага бедаваў яшчэ легендарны трэнер Анатоль Буяльскі, чыімі шчыраваннямі наша зборная і выбілася ў сусветныя «топы».

На ЧЕ кадравы дэфіцыт кідаўся ў вочы настолькі яўна, што нават каментатары «Беларусь 5» адзначалі: каманду цягнуць наперад усяго тры баскетбалісткі — Настасся Верамеенка, Марыя Папова і натуралізаваная амерыканка Алекс Бэнтлі.

Сцвярджэнне, канешне, спрэчнае, бо стараліся паддаваць пары і Тацццяна Ліхтаровіч, і Аляксандра Тарасава, і Вікторыя Гаспер... Але ж, па сутнасці, вялікая праўда ў тым ёсць — і яна, як той казаў, у вочы коле.

Мы ўжо згадвалі ў ранейшых артыкулах гэты фактар — поруч з відавочнымі высновамі.

З падрыхтоўкай рэзерву ў жаночым баскетболе такая ж бяда, як і ў многіх іншых відах спорту. А рэзервы — гэта ці не галоўны паказчык дабрабыту і развіцця. Моладзь падштурхвае, стварае канкурэнцыю, забяспечвае новай энергетыкай і новымі ідэямі. Моладзь — гэта будучыня, а цяперашняя сітуацыя хутчэй намякае, што файнай будучыні ў беларускай зборнай няма.

Дый сучаснасць ужо задае непрыемныя пытанні. Дзяўчаты, вядома, малайцы, але ці можна было зачапіцца за медалі, калі з матча ў матч на пляцоўку выходзілі толькі сем-восем баскетбалістак? Еўрабаскет — турнір хуткацечны і са шчыльным графікам, ён патрабуе гарманічнага размеркавання сіл.

А тут жа яшчэ і ўзрост. Ці варта патрабаваць подзвігаў ад каманды, чые гульцы масава перасягнулі знакавы ўзрост у 30 гадоў? Канешне, зазіраць жанчынам у пашпарт — не самая прагрэсіўная ідэя, аднак з песні слоў не выкінеш. Вользе Зюзьковай 38, Юліі Рыцькавай — 34, Настассі Верамеенка, Тацццяне Ліхтаровіч і Вікторыі Гаспер па 33, Аляксандры Тарасавай — 32, Алекс Бэнтлі — 30... Можаце праверыць, але рызыка памылкі мізэрная: зборная Беларусі на чэмпіянаце Еўропы была самай узроставай камандай.

Добра, што гэтая каманда выдала на ЧЕ гучны пераможны спеў. Але ці не было гэта лебядзінай песняй?..

Сяргей КАЙКО

# «Шахцёр» у Лізе чэмпіёнаў: дзве паразы, ні аднаго гола і вылет на самым старце

**Не такога ўдзелу ў найпрэстыжным клубным турніры Еўропы чакалі ў Салігорску. Не такога хуткацечнага — «Шахцёр» вылецеў адразу, у першым кваліфікацыйным раундзе. Не такога бездапаможнага — беларускі чэмпіён не змог анічога супрацьпаставіць балгарскаму «Лудагорцу». Не такога панылага — у дадатак да адмоўнага выніку салігорцы паказалі настолькі кволую гульню, што галоўная выснова сама просіцца ў радок.**



Фота прэс-службы ФК «Шахцёр»

Не таго палёту птушка сённяшні беларускі «Шахцёр», каб рабіць хоць якое надвор'е ў Лізе чэмпіёнаў. Вылецеў — то гэта цалкам па справе, бо кваліфікацыя на тое і існуе, каб вылузваць лепшае і адсейваць лішняе.

Балазе яшчэ, што рэгламент еўракубкаў прадугледжвае для лігачэмпіёнскіх лузераў спецыяльны «парашут». На ім, трымаючыся за стропы, салігорцы спусцяцца ў суцяшальны турнір — Лігу канферэнцый. Аднак гэта зусім іншая гісторыя, яе мы падсвецім напрыканцы свайго расповеду.

## «Лудагорац» падкраўся непрыкметна

Канешне, «Шахцёр» не быў фаварытам у сваім змаганні з «Лудагорцам». Наадварот: букмекеры ледзьве не ў адзін голас агалошвалі, што найбольш шанцаў прайсці далей мае якраз балгарскі клуб.

За хлопцаў з Разграда гаварыла шмат што. Па-першае, багаты вопыт, па-другое, тлусты бюджэт, па-трэцяе — індывідуальная якасць гульцоў.

Вопыт сапраўды ў «Лудагорца» зайдросны. Безагаворачны флагман балгарскага футбола, цягам апошняга дзесяцігоддзя ён рэгулярна ўздымае розгалас у еўракубках. Гуляе яскравыя нічыі ў матчах з касмічнымі французскім «ПСЖ» і англійскім «Ліверпулем», перамагае італьянскі «Лацыа», нямецкі «Хафенхайм» і харвацкае «Дынама» з Заграба, а восенню 2019-га ў групавым раундзе Лігі Еўропы наогул разнёс з лікам 5:1 маскоўскі ЦСКА Віктара Ганчарэнкі. Беларускі трэнер назваў тую паразу халодным душам.

Бюджэт «Лудагорца» — яшчэ адзін чыннік, гледзячы на які, беларуская футбольная супольнасць можна толькі непрыхавана ўздыхаць. Недзе калі 30 мільёнаў долараў у год — гэта тое, што добра калі маюць на круг сумарна самыя заможныя беларускія клубы: «Шахцёр», барысаўскі БАТЭ, мінскае «Дынама» ды брэсцкі «Рух». Пры гэтым «Лудагорац» не смокча сродкі з дзяржаўнага бюджэту і не жыруе за кошт падаткаў простых балгар. Яго дабрабыт — вынік шчодрасці клубнага гаспадара, якім з'яўляецца буйны бізнесмен Кірыл Дамусчыеў.

Мільярдэр і адданы футбольны заўзятар, ён падхапіў каманду, калі тая боўталася ў ніжэйшых балгарскіх лігах і яе ведалі хіба толькі мясцовыя жыхары. Разград — гэта сціплы гарадок прыкладна на 40 тысяч насельнікаў, параўнальны з беларускімі Ваўкавыскам альбо Калінкавічамі. Яшчэ якіх пятнаццаць гадоў таму футбол там ледзьве ліпеў, а зараз ён там квітнее і пахне, як чабор.

Як вынік: сённяшні «Лудагорац» — гэта дзесяціразовы чэмпіён Балгарыі, які нікому не аддае тытул з 2012 года. Гэта каманда, якая гуляе на цудоўным, мадэрнізаваным стадыёне ў родным горадзе. Гэта галоўны сучасны футбольны брэнд Балгарыі, які развіваецца, падвышае папулярнасць і капіталізацыю.

Ну, і гульцы, зразумела, цалкам адпавядаюць вышыні і статусу. Згодна з сённяшнімі трэндамі, як і ўсялякі амбітны праект, «Лудагорац» — гэта сапраўдны вавілон. Вывучаючы яго ростар, можна вывучаць і сусветную геаграфію. Мяркуйце самі. У складзе каманды ёсць легіянеры з Еўропы: Нідэрланды, Іспанія, Партугалія, Украіна, Румынія, Харватыя, Кіпр... Ёсць з Паўднёвай Амерыкі: Бразілія, Сурынам... Ёсць з Афрыкі: Конга, Гана, Сенегал, Бенін, Мадагаскар...

Зразумела, што імпартаваць хоць колькі можа і клуб на падножным кармленні — на любую цану знойдзецца тавар. Аднак у «Лудагорца» тавар гарантавана высокага гатунку — амаль скрозь гульцы сваіх нацыянальных зборных (у выпадку з еўрапейцамі — маладзёжных), што загадзя дае ім добрую рэкамендацыю.

## Дзе ўзяць 30 мільёнаў?

Карацей, прайграць такому масцітаму суперніку не ганебна, але толькі не падумайце: усе панегірыкі, што напісаны вышэй на адрас чэмпіёна Балгарыі, укручаныя ў тэкст зусім не ў якасці індульгенцыі для «Шахцёра». Яны хутчэй дзеля іншага — для разумення таго, што і пасярод такой параўнальна сціплай эканомікі, як балгарская, можна пабудаваць унушальны футбольны аазіс.

Аазіс быў і ў Беларусі — БАТЭ ў пару росквіта. Бадай, барысаўчанам удалося патрэсці Еўропу нават мацней. У гісторыі беларускага футбола назаўсёды застануцца перамогі над нямецкай «Баварыяй», італьянскай «Ромай» ці лонданскім «Арсеналам». Аднак самы малады са спартыўных журналістаў і самы легкадумны з заўзятараў даўно ведаюць: БАТЭ ўзрос на родных нівах абсалютна не «дзякуючы», а «насуперак». Бо ніколі не меў за плячыма магутнага спонсара-мецэната, а дасягаў свайго дабрабыту выключна за кошт удалых выступленняў — і адпаведных прызавых бонусаў ад УЕФА. А канкурэнцыя ў еўракубках міжволі расла, поспехі даваліся ўсё цяжэй — і аднойчы надышоў той момант, калі БАТЭ банальна надарваўся. Некалькі прыкрых няўдач — і клубны гаманец прыкметна схуднеў, а напоўніць яго нанова не было адкуль. Так барысаўчане спачатку збіліся з пераможнай хады на міжнароднай арэне, а потым развіталіся і з рэнамэ нязменнага чэмпіёна краіны.

У «Шахцёра» фінансавы «таўкач» ёсць — магутны «Беларуськалій», — але і гэта мала набліжае яго да стандартаў, паводле якіх існуе «Лудагорац». Бо, з аднаго боку, калійны камбінат не ў стане адшпіліць падведамаснаму клубу 30 мільёнаў долараў (кажуць, дае прыблізна ўтрая меней). А з другога — у пытання ёсць маральная цана: напэўна, гэта не зусім справядліва, калі дзяржаўнае прадпрыемства сілкуе футбалістаў у дзясятак разоў шчадрэй, чым сваіх жа работнікаў-шахцёраў. Так ці інакш, але на бюджэт як у нядаўняга суперніка салігорцы разлічваць ніколі не маглі, не могуць зараз і наўрад ці змогуць у будучыні.

Аднак жа — вяртаемся да пасылу пра індульгенцыю — гэта аніяк не апраўдвае «Шахцёр» за дзве няўцямныя паразы ў першым кваліфікацыйным раўндзе ЛЧ. Як не апраўдвае і тое, што хатні матч па вядомых прычынах прыйшлося праводзіць у Белградзе пры пустых трыбунах. Чаму? Усё проста. Бо футбол нездарма лічыцца самай непрадказальнай гульнёй, поспех у якой — гэта не толькі грошы і падбор футбалістаў, а і іншыя фактары. Тактычная кемлівасць, фізічная падрыхтоўка, самааддансаць і рашучасць... Карацей, усё тое, што дапамагала «Лудагорцу» натаўкчы ў карак «Лацыа», БАТЭ — адолець «Баварыю», а зборнай Даніі — заляцець у паўфінал нядаўняга EURO.

І вось справа ў тым, што анічога геройчнага ці проста выбітнага салігорцы ў сёлетняй Лізе чэмпіёнаў не паказалі. У еўракубкавых дэкарацыях мы зноў, як шматкроць раней, убачылі ў форме «Шахцёра» нейкіх ментальна спужаных гульцоў з хранічнай прафесійнай недастаткавасцю. Вядома, з «Лудагорцам» выйшаў не таго маштабу канфуз, як год таму — калі гарнякі зганьбіліся ў Лізе Еўропы ў двубоі з клубам «Сфынтул Георге» з малдаўскай вёскі Суручэны. Але што ў тым выпадку, што ў гэтым — слаба, балюча і сорамна.

## Цяпер гуляць з Люксембургам

І гэта пры тым, што да Лігі чэмпіёнаў у Салігорску старанна рыхтаваліся. Настройваліся, разгружалі каляндар чэмпіянату Беларусі, куплялі новых гульцоў. Знешне ростар «Шахцёра» таксама выклікае павагу. Акрамя дасведчаных беларусаў тут ёсць хлопцы з Сербіі, Славакіі, Македоніі, Босніі, Гамбіі, Украіны, Нігерыі...

І гэта ўсё пры тым, што «Шахцёр» — гэта аб'ектыўна лепшае, што мае і можа прад'явіць сёння Еўропе беларускі футбол. Грошы? Хапае. Інфраструктура? Шчыра запрашаем: ёсць два стадыёны ў родным горадзе (адзін з натуральным полем, другі — са штучным), ёсць цудоўная трэніровачная база з усім неабходным у маляўнічым бары. Ёсць і ўсё астатняе — ад міжсезонных збораў у цёплых краінах да якаснай фармакалогіі і іншай медыцыны. Ёсць і першае з адрывам месца ў турнірнай табліцы нацыянальнага першынства — і не за гарамі ўжо чарговае чэмпіёнства.

І пры ўсім пры гэтым далейшы шлях беларускага чэмпіёна — усяго толькі ў Лізе канферэнцый — новым клубным турніры, які ва УЕФА заснавалі якраз для суцяшэння тых, хто на вялікае не здатны. Вялікіх фінансавых бонусаў тут не заробіш, вялікай славы не здабудзеш, доўгай памяці пра сябе не пакінеш.

Але ж гуляць трэба — і «Шахцёр» гуляе. Пакуль — супраць люксембургскай каманды «Фола», якая таксама без бою не здасца, а наперадзе яшчэ некалькі бар'ераў кваліфікацыі — і кожны наступны ўсё вышэй.

Можа, і ўсцешацца яшчэ на гэтым вакольным шляху салігорскія футбалісты. Але ўсведамленне, што галоўныя матчы ў сёлетніх еўракубках ужо прайграныя, застанецца з імі да канца.

### ЛІГА ЧЭМПІЁНАЎ
### ПЕРШЫ КВАЛІФІКАЦЫЙНЫ РАЎНД

*7.07. «Лудагорац» (Балгарыя) — «Шахцёр» (Беларусь) — 1:0 (Каўлі Соўза, 92+).*
*13. 07. «Шахцёр» — «Лудагорац» — 0:1 (Дзеспадаў, 71).*

# Байкот, на які ніхто не вырашыцца

## Пекін-2022 як дэманстрацыя кітайскай усемагутнасці

Іван КАРПЕНКА

**Да старту зімовых Алімпійскіх гульняў больш ці крыху менш за 200 дзён — у залежнасці ад таго, калі вы адкрылі газету, — а іх лёс да гэтага часу як у тумане. Адбудуцца ці не? Будзе байкот ці не? Калі будзе, то хто канкрэтна байкатуе? Да якіх наступстваў гэта прывядзе?..**

Усё праз тое, што прымае гульні-2022 Пекін, а да Кітая ў сусветнай супольнасці назапасілася занадта шмат пытанняў. Першае — уйгуры, другое — Тыбет, трэцяе — Тайвань, чацвёртае — Ганконг, пятае... Тут хоць бы па першым пункце за доўгія гады зрушыцца з мёртвай кропкі, каб пералічваць далей.

Але Кітай традыцыйна не прыслухоўваецца да галасоў звонку, таму ўсё гучней гучаць заклікі хоць бы не заахвочваць рэжым, давяраючы краіне такія буйныя спаборніцтвы, як Алімпіяда. «Давяраеце — значыць, не супраць прыгнёту уйгураў у Сіньцзяне», — таўруюць Міжнародны алімпійскі камітэт праваабаронцы. «Спорт па-за палітыкай», — паўтарае як мантру кіраўнік МАК Томас Бах і чакае, чым абернецца справа.

Падобна да таго, што далей за непрыемныя размовы справа ўсё-ткі не зойдзе. Паказальна прыструнціць Кітай, адабраўшы Алімпіяду, — складанае рашэнне, багатае на сур'ёзныя наступствы. Гэта не Беларусь пазбавіць чэмпіянату свету па хакеі, пасля чаго — аніякіх непрыемнасцей, толькі пашана і павага за бескампраміснасць і прыхільнасць высокім ідэалам. У Сі Цзіньпіна ж заўсёды напагатове сіметрычны адказ Захаду: хочаце праявіць прынцыповасць — калі ласка, але гэта будзе каштаваць вам пэўную цану. І пакуль з усіх уцягнутых бакоў мала хто выказаў гатоўнасць яе заплаціць...

### Арганізацыі па абароне правоў чалавека

Праваабаронцы — самыя гучныя і актыўныя праціўнікі пекінскіх Гульняў. У іх няма агульных інтарэсаў з Кітаем і няма неабходнасці выбудоўваць адносіны ў найбліжэйшай будучыні, таму яны абыходзяцца без эўфемізмаў, выказваючыся гранічна канкрэтна: пазбавіць, асудзіць, не мець спраў, пакуль не пакаюцца.

У лютым больш за 180 арганізацый па абароне правоў чалавека заклікалі байкатаваць Алімпіяду ў Пекіне. Адкрыты ліст пачынаўся так: «МАК не стаў нас слухаць у 2008-м, апраўдваючы сваё рашэнне [правесці летнія гульні ў Кітаі] тым, што гэта можа каталізаваць у краіне працэсы па паляпшэнні сітуацыі з правамі чалавека. Але, як эксперты і прадказвалі, ідэя з трэскам правалілася. Сітуацыя за гэтыя гады не проста не палепшылася, а пагоршылася. МАК, аказаўшыся цяпер у тым жа становішчы, адмаўляецца дзейнічаць, нягледзячы на відавочныя доказы генацыду».

Пад «пагаршэннем», падобна, у першую чаргу мелі на ўвазе ўціск уйгураў ў Сіньцзяне. Гэта не новая гісторыя, Сіньцзян быў далучаны да Кітая ў 1949 годзе, і з тых часоў карэннаму насельніцтву даводзілася нясоладка. Аднак у апошнія некалькі гадоў падрабязнасці ўсплылі і шакавалі многіх.

Сіньцзян — рэгіён таямнічы. Кітайскія ўлады імкнуцца не дапусціць адтуль уцечак інфармацыі, а многае з таго, што прасочваецца, — блакуюць. Таму нараджаецца шмат неправераных чутак, і не заўсёды зразумела, дзе праўда, а дзе выдумкі. Але пра сёе-тое можна гаварыць цалкам канкрэтна, і гэтага дастаткова, каб скласці ўяўленне аб праблеме.

Па-першае, за уйгурамі ў рэгіёне ўсталяванае татальнае сачэнне. Дапамагаюць у гэтым сучасныя сістэмы відэаназірання і, галоўнае, спецыяльнае мабільнае прыкладанне, якое перадае ў паліцыю даныя пра ўладальніка тэлефона і адсочвае інфармацыю, якая паступае на прыладу. Напісаў / адкрыў нешта з антыдзяржаўным кантэнтам — па цябе прыйдуць.

Па-другое, уйгуры пазбаўленыя свабоды перамяшчэння. Прычым праблемы ўзнікаюць нават з перамяшчэннем па тэрыторыі Кітая. Каб выехаць за межы рэгіёна, кожнаму патрэбны спецыяльны дазвол. Пра тое, што ўсе перамяшчэнні адсочваюцца, не варта і нагадваць.

Па-трэцяе, уйгураў масава зняшчаюць у «выхаваўчыя лагеры». Чым менавіта там займаюцца, пакрыта таямніцай, і гэтая атмасфера таямнічасці служыць падставай для спекуляцый. Праваабаронцы сцвярджаюць, што лагеры служаць для «прамывання мазгоў», кітайскія ўлады гавораць пра дапамогу карэннаму насельніцтву інтэгравацца ў грамадства. Маўляў, там вучаць мове, пісьменнасці, знаёмяць з культурай... У прынцыпе Кітай і не хавае, што канчатковая мэта — асіміляваць уйгураў. Аднак ужываныя метады прымушаюць уздрыгваць у магіле нават старога Оруэла.



Фота reuters

Праваабарончыя арганізацыі настойваюць: у краіне, дзе практыкуюць падобнае, праводзіць Алімпіяду непрымальна. Тым не менш, іх сумарнай вагі недастаткова, каб істотна паўплываць на дыспазіцыю. Яны могуць заклікаць да байкоту, пісаць адкрытыя лісты, звяртацца да ўдзельнікаў, падымаць шум — і толькі. Тыя ж, у чыіх руках маюцца рэальныя рычагі, настроены значна больш умерана.

### МАК

Міжнародны алімпійскі камітэт імкнецца наогул не ўвязвацца ў каляспартыўныя дыскусіі. Пазіцыя Баха і кампаніі простая, як апельсін: даваць ацэнкі складаным працэсам унутры Кітая — доля палітыкаў, а Алімпіяда — гэта пра спорт, яднанне, вялікае свята. Таму МАК аддае перавагу прыемным рэляцыям. Пекін бліскуча гатовы да Гульняў... На некаторых трасах у лютым чакаецца занадта цёплае надвор'е, але ўсё ў парадку: арганізатары гатовыя вырабіць штучнага снегу з лішкам... Лыжныя кластары ў Яньцыне і Чжанцзякоў далекаватыя ад Пекіна, але мясцовыя ўлады ўжо пра ўсё паклапаціліся, запусціўшы высакахуткасную чыгунку паміж пунктамі...

На пытанні пра парушэнні правоў чалавека ў Кітаі МАК адказвае з неахвотай, і яго лёгка зразумець. Алімпіяда — найважнейшая крыніца даходу арганізацыі. Бах вельмі зацікаўлены, каб усё прайшло на вышэйшым узроўні. Арэны і трасы павінны быць у выдатным стане, лагістыка — прадуманая, ТБ-карцінка — арганізаваная па апошнім слове тэхнікі.

Калі не задумвацца аб уйгурах або ганконгцах, Пекін — гэта гарантыя размаху і якасці арганізацыі спаборніцтваў. У Баха яшчэ перад вачыма фенаменальны поспех 2008-га, калі Кітай бліскуча правёў летнія Гульні на фоне міжнароднага прэсінгу з-за прыгнёту тыбетцаў. Тады праваабаронцы таксама заклікалі да байкоту, а многія краіны асуджалі кітайскую палітыку ў дачыненні да Тыбета, тым не менш Алімпіяда адбылася згодна з раскладам — і з помпай. Адзін феерверк на цырымоніі адкрыцця, захлёбваючыся, абмяркоўвалі тыдзень...

А што гатовая прапанаваць МАК сусветная супольнасць, якая заклікае пракінуць Пекін? Чаргі з жадаючых правесці Гульні сёння не назіраецца. Барацьбу за Алімпіяду-2022 Кітай да апошняга вёў з Казахстанам — таксама далёка не ўзорам для пераймання. Дзе была прагрэсіўная Еўропа? Швейцарыя, Польшча і Германія зняліся з прабегу на ранняй стадыі праз тое, што ідэю не падтрымала насельніцтва. У першых дзвюх краінах нават праводзілі рэферэндум. Швецыя спачатку ўпісалася ў гонку, а затым вырашыла, што Алімпіяда — гэта занадта дорага. Па тых жа прычынах знялася Нарвегія.

На Захадзе вар'яцкія марнаванні грошай без адчувальнай аддачы ўжо даўно не ў трэндзе, таму буйныя сусветныя форумы становяцца магчымасцю аўтарытарных дзяржаў прадэманстраваць сваю моц. Няма нічога дзіўнага ў тым, што Пекін стаў першым горадам, які прыме і летнія, і зімовыя Алімпійскія гульні (прычым на адрэзку ўсяго ў 14 гадоў!). Наадварот, да гэтага ўсё ішло. А МАК, напэўна, яшчэ і ўдзячны: выручылі. Дык з чаго б Баху станавіцца на бок праваабаронцаў?

І яшчэ рэмарка: калі забыць на хвіліну пра этычныя пытанні, менавіта аўтарытарныя рэжымы часцяком давалі новы штуршок Гульням. Сапраўды сусветнай падзеяй Алімпіяда стала з 1936-га, калі яе з размахам правяла гітлераўская Германія. Краіна ўклалася ў тыя Гульні, прыўнесла шмат навінак, якія вызначылі сучасны фармат Алімпіяды. Скажам, дакументальны фільм «Алімпія» Рыфеншталь стаў на той момант прарывам і вызначыў кірунак спартыўнага рэпартажу на шмат гадоў наперад. Ці яшчэ: менавіта Гітлер упершыню ў сучасным свеце правёў эстафету алімпійскага агню...




Фота AP

## ГІСТОРЫЯ АЛІМПІЙСКІХ БАЙКОТАЎ

**Мельбурн — 1956.** Выступіўшы супраць уводу савецкіх войск у Венгрыю, Нідэрланды, Іспанія і Швейцарыя абвясцілі, што не выступяць на мельбурнскіх Гульнях разам з СССР. Таксама зняўся Егіпет, пакрыўджаны на нападкі Вялікабрытаніі, Францыі і Ізраіля, разам з Іракам, Ліванам і Камбоджай, якія падтрымалі яго. А літаральна за два тыдні да цырымоніі адкрыцця абвясціў пра байкот Кітай, якому не спадабалася, што арганізатары запрасілі да ўдзелу Тайвань.

**Манрэаль — 1976.** Гульні праігнаравалі 26 афрыканскіх краін, уключаючы Егіпет, Марока, Алжыр, Туніс, Кенію, Эфіопію. Такім чынам яны выступілі супраць рэгбійнага матча Новай Зеландыі і Паўднёвай Афрыкі. На той момант ПАР знаходзілася ў міжнародным ігноры праз палітыку апартэіду, а МАК апраўдваўся перад краінамі, якія выказалі пратэст, тым, што рэгбі — від не алімпійскі. Прагучала неперакана ўча. Таксама прапусцілі Алімпіяду Тайвань, якому не дазволілі называцца зборнай Кітая, і Кітай, які абурыўся тым, што Тайвань наогул разглядалі як удзельніка Гульняў.

**Масква — 1980.** У пік халоднай вайны ЗША вырашылі байкатаваць маскоўскую Алімпіяду праз увод савецкіх войск у Афганістан. Да іх далучыліся яшчэ 28 краін, уключаючы ФРГ, Аргенціну, Канаду, Кітай, Егіпет, Японію, Турцыю. Для іх амерыканцы зладзілі ўласныя спаборніцтвы ў Філадэльфіі — «Liberty Bell Classic». З іншага боку, у алімпійскую сям'ю вярнуліся афрыканскія краіны, якія прапускалі Манрэаль-1976, так што колькасна маскоўскія Гульні пацярпелі не так, як маглі б.

**Лос-Анджэлес — 1984.** Усяго праз чатыры гады СССР знайшоў сіметрычны адказ ЗША. Разам з Савецкім Саюзам гульні праігнараваў амаль увесь сацыялістычны лагер: Балгарыя, ГДР, Чэхаславакія, Венгрыя, Польшча, В'етнам, Паўночная Карэя, Куба… Для іх на тэрыторыі дзевяці сацкраін быў арганізаваны альтэрнатыўны турнір «Дружба-84». А на іншы кантынент паляцелі толькі Румынія, Югаславія і Кітай. Што цікава, па ўласных палітычных меркаваннях у Лос-Анджэлес не адправіліся яшчэ тры зборныя — Албаніі, Ірана і Лівіі.

**Сеул — 1988.** Паўночная Карэя праігнаравала Алімпіяду ў Паўднёвай. Прычым абедзве краіны маглі падзяліць гульні, калі б паўднёвакарэйцы падтрымалі прапанову Кім Ір Сэна перанесці частку спаборніцтваў у КНДР. Але Сеул адмовіўся, Кім Ір Сэн пакрыўдзіўся і самаўхіліўся. Яго парыў падтрымалі Албанія, Куба, Нікарагуа і Эфіопія.

**Сіднэй — 2000.** Афганістан не тое каб байкатаваў Алімпіяду — яго ўдзел аказаўся проста немагчымым, пры ўсім жаданні. Талібан забараніў у краіне спорт, расфармаваў НАК і праігнараваў запрашэнне МАК.

### Кітай

Афіцыйны Пекін, зразумела, адхрышчваецца ад усіх абвінавачанняў. Уйгураў ніхто не ўціскае — наадварот, дзяржава забяспечвае ім квіток у новае жыццё. Навучае, дае магчымасць знайсці працу, прышчапляе мясцовыя культурныя каштоўнасці. А што да татальнай сістэмы кантролю, не забывайце: уйгуры — мусульмане, і частка іх падзяляе погляды на жыццё «Ісламскай дзяржавы». Уласна, кітайскія ўлады і актывізаваліся, калі уйгуры пачалі далучацца да тэрарыстычнай арганізацыі, а жорсткую сістэму кантролю паднеслі як неабходную прафілактыку экстрэмізму. Прычым шараговыя кітайцы ў цэлым з разуменнем ставяцца да такой палітыкі і падтрымліваюць яе.

У Кітаі цудоўна ўсведамляюць, што іслам, мова, традыцыі — передумовы для сепаратысцкіх настрояў у самым буйным і самым аддаленым ад Пекіна рэгіёне. Мяккія прэвентыўныя меры былі прынятыя ўжо даўно: Сіньцзян паволі насычалі карэннымі кітайцамі, і сёння іх там пражывае нават больш, чым уйгураў. Але калі уйгуры праявілі сябе ў некалькіх тэрарыстычных акцыях, улады Кітая перайшлі ў наступ. На іх погляд, яны дзейнічаюць разумна і апраўдана, змагаючыся за тэрытарыяльную цэласнасць і спакой ўнутры краіны. Магчыма, нават шчыра не разумеюць, чаму да іх усе так прычапіліся.

«Некаторыя бакі паступаюць вельмі безадказна, спрабуючы сарваць, умяшацца і сабатаваць правядзенне Гульняў у Пекіне, прасоўваючы ўласныя палітычныя інтарэсы. Такія дзеянні ніколі не ўвянчаюцца поспехам і не будуць падтрыманы міжнароднай супольнасцю», —нядаўна адказаў на пытанне пра байкот прэс-сакратар кітайскага МЗС Ван Вэнбін. З аднаго боку, звычайная адгаворка — што яму яшчэ было сказаць? З іншага — вельмі падобна, у Пекіне сапраўды лічаць, што ўся завараха — выключна з-за перацягвання палітычных канатаў. Ім цяжка ўявіць, што кагосьці хвалюе лёс уйгураў саміх па сабе.

Для Кітая Алімпіяда — не проста свята для балельшчыкаў. Гэта яшчэ і магчымасць прадэманстраваць уласную сілу. Глядзіце, мы арганізуем Гульні так, як не зможа ніхто з тых, хто крытыкуе Пекін! І гэта пры тым, што Кітай ні разу не спецыяліст у зімовых відах і дакладна не здзейсніць медальны фурор, як было ў 2008-м. У кітайцаў і першае золата на зімовых Алімпіядах здарылася толькі ў гэтым стагоддзі — у 2002 годзе ў канькабежным спорце. Аднак ужо зараз зразумела, што, з пункту гледжання арганізацыі, да Пекіна не ўзнікне ні аднаго пытання. Так не справіліся б ні Стакгольм, ні Осла. А можа, і Мюнхен не справіўся б.

У плане падрыхтоўкі спартсменаў Кітай таксама імкнецца адпавядаць высокім стандартам. Для працы са зборнай па біятлоне, дзе краіне-гаспадыні нічога не «свеціць», былі запрошаныя нарвежскія спецыялісты на чале з Оле-Эйнарам Б'ёрндаленам. З жаночай камандай, дарэчы, працуе беларуска Дар'я Домрачава. Да медалёў кітайцам, вядома, далёка, затое ўжо на мінулым Кубку свету гэтае супрацоўніцтва дало эфект: кітайцы выдалі свой найлепшы сезон у гісторыі. Хоць ёсць меркаванне, што зоркі былі запрошаныя ў Пекін не падцягнуць вынікі мясцовых спартсменаў, а падняць імідж краіны.

«Б'ёрндалену варта разумець, што яго стануць выкарыстоўваць для прыкрыцця таго факта, што Кітай направа і налева парушае правы чалавека. Калі прымаеш актыўны ўдзел у адмыванні праз спорт рэпутацыі таталітарнай дзяржавы, трэба ўсведамляць, які выбар робіш. Вы становіцеся часткай палітычнага праекта, накіраванага прадставіць кітайскія ўлады ў пазітыўным святле», — рэзка раскрытыкаваў гэтае супрацоўніцтва праваабаронца Ён Педэр Эгенес.

Б'ёрндален асабліва ўражаны не быў і дагэтуль працуе з кітайскай зборнай.

### Захад

Урады развітых краін крытыкуюць кітайскі рэжым безумоўна і сістэмна. Вялікабрытанія заклікала да байкоту Гульняў, Канада і Аўстралія падтрымалі, Нарвегія не супраць, ЗША… Адміністрацыя Трампа спачатку была за поўны байкот, потым — толькі за дыпламатычны. Цяпер да ўлады прыйшоў Байдэн, і пазіцыя ЗША стала яшчэ менш выразнай.

Афіцыйна ад удзелу ў Алімпіядзе на дадзены момант не адмовілася ні адна краіна.

І, падобна, наўрад ці хтосьці рызыкне адмовіцца: занадта страшныя наступствы дрэнных адносін з Кітаем. Тая ж Аўстралія сёлета ўжо спазнала, што бывае, калі афіцыйны Пекін табой незадаволены. Хлоп — і ў момант перакрыты імпарт аўстралійскага вугалю ў Кітай. Кітайскі бок нешта прамармытаў пра цяжкі год і спад вытворчасці. Усе астатнія палічылі гэта навучаннем за тое, што Канбера рэгулярна падыгрывае ЗША ў «гандлёвай вайне». Што ні кажы, экспарцёр аказаўся ў нязручным становішчы і з вялізнымі стратамі.

Гэта самы яскравы прыклад таго, як краіна з другой эканомікай свету разбіраецца з любымі знешнепалітычнымі праблемамі. Сусветныя брэнды накшталт «Nike» або «H&M» асудзілі палітыку Кітая ў дачыненні да уйгураў — кітайцы пачалі байкатаваць тавары гэтых марак. Захад пагражае байкотам — Пекін палохае эканамічнымі санкцыямі. І ўсім зразумела, што на самой справе страшней.

Прычым Кітай не бляфуе, а адразу прадпрымае крокі. Свежы, але ўжо класічны прыклад са спорту: пагроза разрыву паўтарамільярднай ТБ-здзелкі з НБА праз аднаго-адзінага твіта генменеджара «Х'юстана» Дэрыла Моры ў падтрымку пратэстоўцаў у Ганконгу. Неяк замялі, але! Ад «Х'юстана» адмовіліся ўсе кітайскія спонсары (ад Шанхайскага банка «SPDB» да вытворцы спартыўнай экіпіроўкі «Li-Ning»). Выставачныя матчы клуба на тэрыторыі Кітая былі адменены. І клуб, і Ліга папрасілі прабачэння перад Кітаем, а Моры, які заварыў кашу, атрымаў штраф, а пазней нават пакінуў пасаду (праўда, неадкладна быў запрошаны ў «Бостан» і цяпер працягвае працаваць у Лізе). Пасля такога кітайскага папярэджання наўрад ці нехта, хто мае дачыненне да НБА, захоча ў бліжэйшыя гады заікнуцца пра Ганконг, уйгураў або Тыбет.

У адказ на прэтэнзіі Пекін не шалее, не істэрыць — проста наглядна дэманструе, чым гэта аукнецца. Крытыкуеце? Тады будзьце гатовыя пазбавіцца здзелкі на паўтара мільярда, а таксама свайго самага буйнога знешняга рынку. Байкатуеце? Добра, але мы закрыем парты для вашага вугалю. Такія нітачкі ў Кітая прызапашаныя амаль для кожнага крытыка. Таму зараз і ідуць размовы максімум пра дыпламатычны байкот. Але наўрад ці кітайцы моцна засмуцяцца, калі на Алімпіяду не даедуць некалькі дзясяткаў афіцыйных асоб. Гэткі кампраміс: Захад зробіць выгляд, што паставіў Пекін на месца, Пекін гэтага нават не заўважыць.

### Спартсмены

Яшчэ адзін бок усёй гэтай гісторыі — непасрэдна ўдзельнікі Гульняў. Яны мала думаюць пра уйгураў і тыбетцаў, затое выразна ўсведамляюць іншае: усё іх жыццё завостранае на тое, каб раз на чатыры гады кінуць далей і скокнуць вышэй. Прапусціць адну Алімпіяду — гэта восем гадоў без галоўнага турніру ў кар'еры. У некаторых — у фігурыстак, напрыклад, — кар'ера значна карацей, можна страціць момант і наогул ні разу не пабачыць Гульні. У 2018-м 15-гадовая расіянка Загітава была алімпійскай чэмпіёнкай і галоўнай зоркай сусветнага фігурнага катання, а сёння вядзе лядовыя шоу, не вытрымаўшы канкурэнцыі з больш маладымі.

Ёсць і больш прыземленыя моманты: рэкламныя кантракты, прызавыя, стыпендыі. Калі прапусціць Гульні, усяго гэтага можна пазбавіцца. Таму ва ўсіх краінах абсалютная большасць спартсменаў хоча выступіць на Алімпіядзе. Нават у ЗША, здавалася б, сатканых з дэмакратычных каштоўнасцей.

На мэтанакіраваную крытыку кітайскага рэжыму вырашаюцца не многія. Адным з тых, хто найбольш выразна сфармуляваў думку, стаў шведскі біятланіст Себасцьян Самуэльсан: «Хацеў бы паехаць у іншае месца. Не думаю, што чэмпіянаты свету і Алімпійскія гульні варта праводзіць у такіх краінах. Я стараюся паўплываць на сітуацыю, як магу, але часам адчуваю, што гэта ўсяго толькі маленькі я супраць астатняга свету. Адзінае, што магу, — гаварыць тое, што думаю, і спадзявацца, што нешта зменіцца. Мы бачым ва ўсіх відах спорту, што такія спаборніцтвы выкарыстоўваюцца ў мэтах прапаганды. Хацелася б ад гэтага сысці».

У падобным ключы выказаліся знакамітыя нарвежцы Ёханэс Бо і Ёханэс Клебо. Але нават у іх не гучыць выразнага намеру байкатаваць Алімпіяду. «Не хацеў бы…», «Не думаю…», «Стараюся, як магу…». Ніхто не хоча выступіць з неабдуманай заявай, пасля якой потым давядзецца прасіць прабачэння перад Кітаем. Тым больш ніхто не хоча ваявацъ у адзіночку, а калектыўнае меркаванне ўсюды, паводле ўсіх прыкмет, аднолькавае: трэба ехаць.

# Юзаф Клюкоўскі як першы ўраджэнец Беларусі, які перамог на Гульнях

Аляксей АСАНОВІЧ

**Беларусь пачала здабываць алімпійскае золата з 1960 года, калі грабцы-канаісты Сяргей Макаранка і Леанід Гейштар і фехтавальшчыца Таццяна Самусенка перамаглі ў Рыме. Незалежнай краіны на той момант не было, але перамогі прадстаўнікоў БССР у савецкай камандзе лічацца першымі ў айчыннай спартыўнай гістарыяграфіі. Аднак адкрыў лік Юзаф Клюкоўскі з-пад Гродна. Лёс яго склаўся куды трагічней, чым у праслаўленых пасляваенных алімпіёнікаў. І нават спартсменам ён не быў.**

## Імперыя і Рэч Паспалітая

Юзаф нарадзіўся ў шалёны для Еўропы час, калі пражыць усё жыццё на адным месцы было складана. Тым больш, калі месца гэтае было на ссечанай розгамі шматлікіх войн Гродзеншчыне. У метрыцы яго месцам нараджэння значыцца вёска Рапелка каля Гродна, днём нараджэння — 2 студзеня 1894-га.

У тым жа годзе на расійскі трон узышоў Мікалай II, Расія і Францыя ратыфікавалі ваенную канвенцыю аб заключэнні франка-прускага міру, а з кайзераўскай Германіяй было падпісана гандлёвые пагадненне, якое дазваляла расійскаму збожжу выйсці на нямецкі рынак. Здаецца, пасля грандыёзнага шухеру папярэдніх войн Еўропа нарэшце пачала абрастаць тлусцікам спакою. Дарэчы, менавіта ў 1894-м на кангрэсе ў Парыжы барон Пьер дэ Кубертэн абвясціў аб стварэнні Міжнароднага алімпійскага камітэта і правядзенні раз на чатыры гады Алімпійскіх гульняў па антычным узоры.

**У Рэчы Паспалітай ён быў жывым класікам, меў прызнанне калег і спецыялістаў. Здаецца, жыццё ўдалося па ўсіх параметрах. Але ні 42-гадовы скульптар, ні хтосьці яшчэ не ведалі, якім кароткім будзе гэтае ўдалае жыццё**

Малы Клюкоўскі адразу дэманстраваў схільнасць да мастацтваў і марыў пайсці вучыцца на мастака. Аднак якая вучоба, калі вайна? У 1917-м ён адправіўся ў Польскі корпус арміі Расійскай імперыі, служыў добра і нават атрымаў Крыж Храбрых — узнагароду для жаўнераў, якія праявілі мужнасць і адвагу непасрэдна на полі бою. Гэта адбылося ўжо пасля рэвалюцыі, калі кіраўніцтва корпуса адмовілася падпарадкоўвацца ўладам РСФСР і з баямі адвяло войскі ў Бабруйскую крэпасць. Палякі занялі яе ў студзені 1918 года — на 24-годдзе Юзафа. Пэўны час немцы не прадпрымалі супраць корпуса ніякіх дзеянняў, але ўвесну 1919-га адабралі ў жаўнераў зброю і накіравалі іх у Варшаву.

Юзаф быў толькі рады — там ён паступіў у Акадэмію мастацтваў. Аднак хутка зноў прыйшоў загад «на вайну» — на гэты раз савецка-польскую. Клюкоўскі стаў камандзірам 5 дывізіёна коннай артылерыі. Толькі пасля Рыжскага міру ён нарэшце здолеў давучыцца — у Кракаўскай акадэміі мастацтваў. Самы крэатыўны яго перыяд у жыцці здарыўся акурат пасля гэтага.

## Золата і срэбра

Новы мір — новыя падзеі. Гэта мы ўжо ведаем, што 20-я гады мінулага стагоддзя — перыяд міжваенны. Яго жыхары спадзяваліся на мір, даўжэйшы за 21 год. Яны зноў сталі цікавіцца мастацтвам, літаратурай, спортам, ездзіць «на воды» і класці грошы ў банкі.

Юзаф Клюкоўскі актыўна працаваў і як мастак, і як графік, і як скульптар, і як дэкаратар. Ён стаў адным з выбітных прадстаўнікоў польскага мадэрнізму і імпрэсіянізму, шмат выстаўляўся. Ён быў «у трэндзе», як сказалі б зараз. І трэнд гэты настолькі моцны, што на піку ён нават пераехаў у сталіцу тагачаснага сусветнага мастацтва — Парыж, — дзе жыў з 1928-га па 1931-ы, вучыўся ў школе Латэ і працаваў. Там ён стварыў не толькі канцэпты, але і даволі простыя рэчы: маскі, медалі, аксэсуары, рэчы, якія можна выкарыстоўваць у паўсядзённым побыце.

А ў 1932-м ураджэнец Гродзеншчыны выправіўся ў Лас-Анджэлес на Алімпійскія гульні ў якасці... удзельніка! Паколькі барон де Кубертэн хацеў стварыць падзею, як мага блізкую да антычнасці, не мог ён прайсці і міма культурнай праграмы. З 1912-га па 1948-ы на Гульнях спаборнічалі не толькі спартсмены, але і архітэктары, пісьменнікі і паэты, музыкі, скульптары, кампазітары.

Клюкоўскі выставіў на конкурс скульптуру з арыгінальнай назвай «Wienczenie zawodnika» («Узнагарода спартсмена»). Але ў праграме яна была прадстаўлена як «Спартыўная скульптура II». Журы прысудзіла прадстаўніку Рэчы Паспалітай залаты медаль. Юзаф у барацьбе за яго апярэдзіў амерыканца Фрэдэрыка Ульяма Макмоніса і канадца Роберта Тэйта Макензі. Скульптура Клюкоўскага спадабалася камісіі настолькі, што камісія выбрала яго перад дэлегатамі гаспадароў і іх бліжэйшых суседзяў. У Варшаву Юзаф прыехаў пераможцам.



Але на гэтым яго «спартыўная» кар'ера не скончылася. Праз чатыры гады Клюкоўскі зноў паехаў на Гульні — на гэты раз у Берлін. Галоўны спартыўны старт чатырохгоддзя аддалі нямецкай сталіцы яшчэ да прыходу нацыстаў да ўлады.

Юзаф зноў спрабаваў узяць медаль — на гэты раз з работай «Футбалісты». У спаборніцтве рэльефаў ён саступіў прадстаўніку гаспадароў Эмілю Зутару і яго твору «Бар'ерысты». Наўрад ці немца магчыма было перайграць на самых палітызаваных Гульнях XX стагоддзя. Таму другое месца Клюкоўскага не цяжка назваць вялікім поспехам. Так у хлопца з Гродзенскай губерніі стала ўжо два алімпійскія медалі.

У Рэчы Паспалітай ён быў жывым класікам, меў прызнанне калег і спецыялістаў. Здаецца, жыццё ўдалося па ўсіх параметрах. Але ні 42-гадовы скульптар, ні хтосьці яшчэ не ведалі, якім кароткім будзе гэтае ўдалае жыццё.

## Заксенхаўзен і Берген-Бельзен

Другая сусветная вайна — бадай, першая ў жыцці Юзафа Клюкоўскага, у якой ён непасрэдна не ўдзельнічаў у якасці жаўнера. Падчас нямецкай інтэрвенцыі ў Польшчу ў верасні 1939-га яму было 45 гадоў — і ў армію яго не прызывалі.

У гады вайны ён жыў у Судуле і Нагловіцы з польскімі Радзівіламі. Але ад лёсу не ўцячэш у вёску. Клюкоўскі вярнуўся ў Варшаву, дзе на той час жыццё было кепскім. Немцы ўсё больш закручвалі гайкі.

Жыхары вырашылі арганізаваць паўстанне. Рашэнне далося цяжка, было многа хістанняў, аднак у «Гадзіну-W» (ад слова «выбух») — 17.00 31 ліпеня 1944 года — паўстанне пачалося. Магчыма, гэта было памылкай: напасці было варта на золку. Але шчыльнымі радамі варшаўцы выйшлі ўвечары.

Немцы не выключалі магчымасці польскага паўстання, аднак прадказаць яго моц не здолелі. Атакуючыя адразу атрымалі некалькі міні-перамог, захапілі нямецкі арсенал і электрастанцыю. Але дварцовая плошча, паліцэйская штаб-кватэра і аэрапорт засталіся ў нямецкіх руках. У цэнтры горада і ў старым горадзе паўстанцы пасляхова біліся. У іншых раёнах атрымалі балючыя паразы з вялікімі стратамі. Горш за ўсё тое, што паўстанцы з розных паўстанчых груп не здолелі аб'яднацца.

Насельніцтва будавала барыкады, пачаліся зацяжныя баі на вуліцах. 4 жніўня вялікая частка горада была ў польскіх руках.

Адной з надзей паўстанцаў быў хуткі надыход савецкіх войскаў. Але тыя рухаліся дужа павольна, і варшавянам даводзілася біцца выключна сваімі сіламі. Немцам спатрэбіўся час, каб перагрупавацца і пачаць сапраўдную бойню. Па загадзе Гімлера пачалі забіваць усіх грамадзянскіх. Паводле розных падлікаў, толькі ў раёнах Воля і Ахота было страчана да 10 тысяч жыхароў! Гэтая тактыка павінна была прымусіць паўстанцаў скласці зброю. Воля была адбіта немцамі, але палякі працягвалі барацьбу. Немцы выкарыстоўвалі грамадзянскае насельніцтва як жывыя шчыты.

Паўстанцы змагаліся за горад больш за два месяцы. Толькі сілы і ўзбраенне былі непараўнальнымі, і 3 кастрычніка 1944-га генерал Тадэвуш Бур-Камароўскі падпісаў капітуляцыю...

Юзаф Клюкоўскі трапіў у самы кацёл паўстання. Значная частка грамадзянскага насельніцтва аказалася ў нямецкім палоне і адправілася ў канцэнтрацыйныя лагеры. У гэты вір трапіў і 50-гадовы на той момант скульптар.

Найперш яго этапавалі ў Заксенхаўзен, што ў 35 кіламетрах на поўнач ад Берліна. Там сляды двухразовага алімпійскага прызёра напалову губляюцца. Вядома толькі, што пакут ён не вынес. І тыя трыста кіламетраў да іншага канцлагера — Берген-Бельзена ў Ніжняй Саксоніі — сталі апошнім этапаваннем у жыцці Юзафа Клюкоўскага. Недзе паміж двума лагерамі ён і загінуў. Дзе — невядома. Невядома і калі дакладна гэта здарылася. Паводле адных звестак — у 1944-м, паводле іншых — ужо ў 1945-м.

Падчас вайны загінула і шмат работ Клюкоўскага. Да нас дайшлі толькі некаторыя. Партрэты Келбаса і Міхала Радзівіла, нацюрморты з цыбуляй і чырвоным перцам, пейзаж — шэдэўры захаваліся ў Народным музеі ў Кельцы.

Доўгі час не маглі знайсці і твор, які прынёс Юзафу золата лас-анджэлескай Алімпіяды. Пасля вайны яго ніхто не бачыў, і «Спартыўная скульптура II» афіцыйна лічылася страчанай. Але ж у 2000 годзе яна была знойдзена ў калекцыі ўзнагарод знакамітага польскага лыжніка, дваброрца і прыгуна з трампліна Станіслава Марусажа. Атлет памёр у 1993-м, а калі праз сем год пасля таго сталі разбіраць яго шматлікія трафеі (толькі чэмпіёнам Польшчы ён быў 15 разоў), алімпійскі твор Клюкоўскага раптоўна апынуўся сярод калекцыі.

Гіпотэза навукоўцаў: прыз Марусажу ўручылі напрыканцы 1939-га, калі ён быў прызнаны найлепшым спартсменам краіны. Магчыма, гэта і выратавала скульптуру.

Самога Клюкоўскага выратаваць не было каму. Але былых алімпійскіх чэмпіёнаў не бывае.

# Што адбываецца з калабарантамі дыктатуры: досвед Францыі

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

**Запалохванне і гвалт — звычайныя практыкі любой дыктатуры. Але грамадства не павінна забываць, што ўсе дыктатуры паступова слабеюць і развальваюцца, а ў будучыні як дыктатара, так і калабарантаў чакае зусім не казачнае жыццё.**

Досвед краху многіх дыктатураў сведчыць пра адваротны гвалт і самасуды стомленага ад узурпатара народа. Так, цьмяная гісторыя французскай дыктатуры рэжыму Петэна (1940–1944) да 2016 года заставалася не да канца вядомай і напісанай. Бо толькі ў 2016 годзе канчаткова былі адкрытыя публіцы паліцэйскія і судовыя архівы той эпохі. Але дакладна вядома, што адразу пасля звяржэння дыктатуры ў выніку перамогі антыфашысцкіх сіл пачаліся суды і самасуды над калабарантамі дыктатуры.

Праўда, яшчэ падчас існавання рэжыму Вішы макі, ці макізары — французскія партызаны, — паспяхова запалохвалі і вынішчалі некаторых калабарантаў. Пра гэта пісалася ў прэсе, пра гэта пазней распавядалі гісторыкі і пісьменнікі — Луі Арагон, напрыклад, у сваім слынным зборніку навел «Калабарацыяніст». Тысячы калабарантаў былі вынішчаныя яшчэ за Петэнам, то-бок дыктатура не магла абараніць усіх сваіх «герояў». Паводле афіцыйных даных, у першыя дні пераходу Францыі да дэмакратыі самавольна і без судоў — шляхам самасудаў, арганізаваных абуранымі грамадзянамі, былі забітыя каля 9000 калабарантаў. Дэмакратычныя ўлады былі вымушаныя ўводзіць жорсткія меры, каб спыніць гэта. Аднак самасуды і цкаванне калабарантаў працягваліся. Так, міністр унутраных спраў Анры Тыксье ў 1945 годзе заяўляў Шарлю дэ Голю, што з 1944 па 1945 гады мелі месца 105 000 забойстваў ці спроб забойстваў калабарантаў. І гэта толькі лічбы, якія ахоплівалі самасуды.

Да гэтага варта дадаць лічбы афіцыйных судоў: праўная чыстка ахапіла больш за 300000 спраў. З іх па 127000 былі вынесеныя абвінаваўчыя прысуды. З 127000 спраў па 97000 былі прызначаныя сур'ёзныя пакаранні: ад зняволення і пазбаўлення ўсіх правоў да смяротнага прысуду. Пасля ўрад тройчы — у 1947, 1951 і 1953 гадах — прагаласаваў за амністыю дзеля зняцця сацыяльнага напружання ў краіне. Сучасныя даследаванні французскага Інстытута гісторыі найноўшага часу сцвярджаюць, што афіцыйна былі вырачаныя на смяротнае пакаранне каля 11000 калабарантаў.

У некаторых краінах, дзе адсутнічала смяротнае пакаранне — у Нідэрландах, Нарвегіі і Даніі, — у якасці выключэння яно было вернутае на пэўны час, каб сумысля пакараць калабарантаў. Цікавы іншы досвед Нідэрландаў, на які не адважылася Францыя: пазбаўленне грамадзянства асоб, задзейнічаных у калабарацыі. Так, вядома, што 60000 нідэрландцаў былі пазбаўленыя грамадзянства за тое, што супрацоўнічалі з акупантамі і мясцовым дыктатарскім урадам.




Чысткі супраць калабарантаў ахапілі ўсе сферы французскага грамадства. Так, маршал Ф. Петэн быў пазбаўлены ўсіх публічных правоў і пажыццёва зняволены. Смяротнага пакарання ён пазбег толькі праз свой сталы век. Пакаранні закранулі рэлігійнікаў: сотні святароў былі пазбаўленыя сану і выгнаныя, дзясяткі епіскапаў былі пазбаўленыя звання і зведзеныя да простых святароў. Праўда, Папа Рымскі Пій XII абараніў большую частку каталіцкіх дыгнітарыяў, не дазволіўшы правесці цывільным уладам поўнамаштабныя працэсы супраць рэлігійнікаў-калабарантаў.

У эканамічным сектары пацярпелі і былі нацыяналізаваныя шматлікія будаўнічыя, а таксама машынабудаўнічыя заводы — напрыклад, завод «Рэно». Так, Луі Рэно, заснавальнік аўтагіганта «Рэно», гоннік і паспяховы прадпрымальнік, праз калабарацыю і вытворчасць вайсковай тэхнікі для нацысцкай Германіі быў арыштаваны і памёр у турме. Завод «Рэно» стаў дзяржаўным прадпрыемствам.

Каля 28000 чыноўнікаў-калабарантаў былі пазбаўленыя публічных правоў, дзяржаўных пенсій і права працаваць. Вышэйшыя ваенныя чыны, абвінавачаныя ў калабарацыі і гвалце, былі вырачаныя на смяротнае пакаранне ці пажыццёвае зняволенне. Каля 3000 афіцэраў былі пазбаўленыя званняў, пенсій і звольненыя з войска.

Сотні артыстаў, пісьменнікаў і кінематаграфістаў былі выключаныя з прафесійных хаўрусаў, прыцягнутыя да адказнасці, а іх творы часта не публікаваліся. Так, папулярныя французскія пісьменнікі, заплямленыя калабарацыяй, бясслаўна, а часам гвалтоўна завяршылі свае жыццё: Марыс Сакс, Анры дэ Мантэрлян, П'ер Дрыё ля Рашэль, Луі-Фердынанд Селін ды іншыя. А многія імёны дасюль публічна не прыгадваюцца — яны асуджаныя на бясслаўе і замоўчванне.



**Сёння справы больш за 200 000 французскіх калабарантаў знаходзяцца ў вольным доступе — і кожны грамадзянін можа азнаёміцца з імі**

Акрамя ўсяго, у межах самасудаў стала вядомая гендарна скрыўленая і відавочна жанчынаненавісніцкая практыка стрыжкі дагала жанчын, якіх падазравалі ў калабарацыі ці ў сексуальных зносінах з калабарантамі ці акупантамі. Толькі ў рэдкіх выключэннях дагала астрыгалі мужчын па гэтай самай прычыне. Вельмі часта ашалелы натоўп астрыгаў невінаватых жанчын, якія, напрыклад, былі вымушаныя працаваць кухаркамі ці прачкамі ў дамах акупантаў.

Сёння справы больш за 200000 французскіх калабарантаў знаходзяцца ў вольным доступе — і кожны грамадзянін можа азнаёміцца з імі. У французскіх гістарычных, а таксама краязнаўчых музеях сабраны багаты матэрыял з эпохі калабарацыі, а таксама з дэмакратычных часоў пакарання калабарантаў. Так, у Брэтонскім музеі ў Рэне мяне асабліва ўразіў адзін экспанат — маленькая труна, у якой ляжыць лялька-галыш з вяроўкай на шыі. Яе даслаў невядомы француз ці францужанка калабаранту ў знак запалохвання.

І, падаецца, французская дэмакратыя зрабіла высновы з таго дыктатарскага досведу. Шмат у чым французскаму грамадству дапамагла не паўтарыць памылкі вялікая праца па апублічванні фактаў калабарацыі і арганізацыя соцень тысяч судовых працэсаў супраць калабарантаў. Французская дэмакратыя зразумела, што толькі радыкальным шляхам можна абараніць дэмакратыю ў будучыні: пазбаўленнем публічных правоў, дзяржаўных пенсій, званняў, пажыццёвымі зняволеннямі і публічным, сімвалічным забыццём усіх імёнаў, спрычыненых да гвалту, катаванняў і калабарацыі з тымі, хто стварыў машыну пад назвай «дыктатура».






## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРКМЕНІСТАН. Як вырашыць дэмаграфічнае пытанне?

У Туркменістане нядаўна былі агучаны шакуючыя лічбы. Ёсць меркаванне, што туркменаў далёка не 7 мільёнаў, як сцвярджае афіцыёз.

Непасрэдна задзейнічаныя ў падрыхтоўцы да перапісу насельніцтва Туркменістана ў 2022 годзе сцвярджаюць, што, паводле папярэдніх даных, на сёння ў Туркменістане пражывае 2,7 — 2,8 мільёна чалавек.

Улады адрэагавалі на інфармацыю і заклапаціліся тым, каб туркмен у краіне было больш. Для гэтага выдадзены цыркуляр, згодна з якім работнікам бюджэтнай сферы не будуць выдаваць замежныя пашпарты, а тым, у каго яны ёсць, загадана іх здаць. Акрамя таго, кіраўнікі дзяржустаноў папярэдзілі, што грамадзян, якія маюць замежныя пашпарты, надалей на працу прымаць не будуць. Нарэшце, ёсць распараджэнне абмежаваць выдаванне замежных пашпартоў.

Такім чынам дэмаграфію вырашылі выправіць праз забарону выезду за мяжу. Застаецца дачакацца вынікаў.

**Паводле туркменскай прэсы**

### ЗША. Пісталет або цацка?

Амерыканская кампанія Culper Precision пачала вытворчасць пісталетаў, які вонкава выглядаюць так, як быццам зробленыя з блокаў папулярнага канструктара Lego. Такі незвычайны дызайн вытворцы растлумачылі тым, што гэта павінна падкрэсліць «чыстае задавальненне ад стральбы».

Аднак працаўнікі вольнага продажу зброі так не думаюць. Яны разгарнулі шырокую кампанію за тое, каб Block19 (так называецца мадэль пісталета) знялі з канвееру. На іх думку, на самай справе такі незвычайны дызайн быў прыдуманы, каб прыцягнуць да набыцця агнястрэльнай зброі яшчэ і моладзь.

Дзеля спынення Culper Precision, актывісты звярнуліся ў галоўны офіс Lego, які знаходзіцца ў Даніі. Lego паабяцала дапамогу.

Застаецца дадаць, што тэма дзяцей і зброі вельмі важная для амерыканцаў. У ЗША стала павялічваецца колькасць няшчасных выпадкаў з удзелам дзяцей і агнястрэльнай зброі. Летась у такіх здарэннях загінулі больш за 140 чалавек.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Бомба для мусульман

Вядомы амерыканскі рэжысёр Олівер Стоўн прадставіў публіцы фільм «Казах: гісторыя залатога чалавека», які ён зняў пра першага прэзідэнта Казахстана Нурсултана Назарбаева.

У ім былы прэзідэнт распавёў пра гісторыю з ядзернай зброяй, якая знаходзілася ў Казахстане пасля расколу СССР. Гэты — дарэчы, чацвёрты па маштабах на планеце — арсенал ядзернай зброі выклікаў вялікую цікавасць у ісламскім свеце. Фактычна, у мусульман паўстала магчымасць атрымаць атамную бомбу.

Эмісары розных мусульманскіх краін прасілі Назарбаева не выводзіць зброю ў Расію. Так, палесцінскі лідар Ясір Арафат ад імя кіраўніка Лівіі Муамара Кадафі абяцаў Казахстану 20$ мільярдаў за тое, каб краіна пакінула ў сябе тую зброю. Былі прапановы і ад іншых краін. Аднак у выніку Назарбаеў вырашыў пазбавіцца ад ядзернага фугаса, паколькі сварыцца з Лонданам, Вашынгтонам і Масквой не рызыкнуў.

Зрэшты, у размове са Стоўнам Елбасы даў зразумець, што калі б сапраўды Кадафі выклаў 20 мільярдаў, то ён бы, напэўна, задумаўся.

**Паводле казахскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Агонія злотага

Як паведамляе Gazeta Wyborcza са спасылкай на апытанне праекту «Еўрабарометр», больш за палову палякаў падтрымліваюць ідэю пераходу на еўра. Паводле вынікаў апытання, прыкладна 56 працэнтаў насельніцтва мяркуюць, што прыняцце еўра мела б станоўчы ўплыў на эканоміку краіны. З іншага боку, 42 працэнты рэспандэнтаў лічаць, што прыняцце адзінай валюты мела б дрэнны эканамічны эфект.

Такая арыфметыка — у чымсьці сенсацыя. Раней за Бугам большасць аддавала перавагу нацыянальнай валюце. Цікава, што, выступаючы за адмову ад злотага, большасць апытаных дапускаюць: магчымы пераход на еўра справакуе рост коштаў, але гэта іх не палохае.

Праўда, пакуль ніякай канкрэтыкі наконт пераходу на еўра ў Польшчы не гучыць. Як мінімум для гэтага трэба, каб да ўлады прыйшлі больш праеўрапейскія палітычныя сілы. Цяперашні кансерватыўны ўрад увесь час канфліктуе з еўрапейскімі інстытутамі.

**Паводле польскай прэсы**




# Дыялог без дыялогу

Алег НОВІКАЎ

**Венесуэльская апазіцыя дамаглася афіцыйнага абяцання ўладаў пачаць з ёй дыялог. Аднак далей за абяцанні справа можа і не прасунуцца.**

Сапраўдная інфармацыйная бомба выбухнула прыкладна два тыдні таму. Тады дыпламаты ЗША, Канады і Еўрапейскага саюза заявілі, што іх краіны будуць гатовыя пераглядзець свае санкцыі ў дачыненні да ўраду Мадура.

Гэтыя санкцыі, нагадаем, былі ўведзеныя ў 2019 годзе. Тады краіну ахапілі пратэсты супраць інаўгурацыі Нікаласа Мадура на другі прэзідэнцкі тэрмін. На іх фоне спікер Нацыянальнай асамблеі Хуан Гуайдо абвясціў сябе выконваючым абавязкі прэзідэнта. Пры гэтым шмат краінаў пагадзіліся прызнаць яго дыпламатычна. Мадура, у сваю чаргу, заявіў, што застанецца на пасадзе да заканчэння свайго другога тэрміну ў 2025 годзе.

У канфлікт імгненна ўключыліся знешнія гульцы. Злучаныя Штаты і ЕС увялі пакет санкцый, відавочна, у чаканні нейкай хуткай трансфармацыі, якую можна правесці з дапамогай Гуайдо. Аднак з-за лаяльнасці арміі і дзякуючы падтрымкі Кітая і Расіі той план так і не матэрыялізаваўся.

Наадварот, ініцыятыву перахапіў Мадура. Праз байкот апазіцыяй наступных парламенцкіх выбараў новы склад Нацыянальнай Асамблеі аказаўся цалкам прапрэзідэнцкім. У выніку ў студзені гэтага года Еўрапейскі саюз нават адмовіўся юрыдычна прызнаваць лідара венесуэльскай апазіцыі Хуана Гуайдо законным кіраўніком Венесуэлы, паколькі той страціў пасаду кіраўніка парламента.

Нягледзячы на крызіс праекта Гуайдо, стабілізаваць сітуацыю, перш за ўсё ў сацыяльна-эканамічнай галіне, чавістам не ўдаецца. Таму пэўныя кансультацыі з Захадам ніколі не спыняліся. У рамках іх Каракасу і зрабілі згаданую вышэй суперпрывабную прапанову пра змякчэнне санкцый. У адказ Мадура павінен быў пагадзіцца на дыялог з апазіцыяй.

У выніку Каракас саступіў. На мінулым тыдні стала вядома, што прадстаўнікі ўрада Венесуэлы і апазіцыі збіраюцца сустрэцца ў Мексіцы ў пачатку жніўня для запуску новага раўнду перамоваў. Іх канчатковая мэта — спыненне зацяжнога глыбокага палітычнага крызісу ў паўднёваамерыканскай краіне.

Па словах крыніц, дыялог будзе адбывацца пры пасярэдніцтве міжнародных бакоў пад непасрэдным наглядам Нарвегіі, якая выступала ў якасці пасярэдніка ў мінулай спробе перамоваў у 2019 годзе. Менавіта Нарвегія ў цяперашні час падтрымлівае кантакты з абодвума бакамі для вызначэння парадку дня.

Пры гэтым аптымізму заходнім дыпламатам не займаць. Яны дапускаюць, што працэс грамадзянскага прымірэння стартуе ўжо ў лістападзе, калі ў краіне запланаваныя мясцовыя выбары. Калі выбарчая кампанія пройдзе сумленна і з абавязковым удзелам апазіцыі, можна будзе казаць пра вяртанне Венесуэлы да нормаў дэмакратыі.

Аднак пакуль такі сцэнар падобны да фантастыкі. Дыялог яшчэ не пачаўся, а візаві вылучылі адзін аднаму практычна невыканальныя ўмовы. Гуайдо заявіў, што яго дэлегацыя на перамовах будзе дамагацца выключна абмеркавання ўмоў для свабодных і справядлівых прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў.

У сваю чаргу, Мадура сказаў, што гатовы весці перамовы з Гуайдо, але толькі пра адмену санкцый. Акрамя таго, ён патрабуе, каб палітычныя апаненты спачатку прызналі «канстытуцыйнасць і законнасць улады», а ўсе сектары апазіцыі «адмовіліся ад планаў гвалтоўных дзеянняў» па дэстабілізацыі ўрада. Нарэшце, патрабуецца ўключэнне ў дыялог усіх палітычных суб'ектаў, якія хочуць у ім удзельнічаць. Відавочна, што Мадура імкнецца да прысутнасці на перамовах сваёй кішэннай апазіцыі, якая будзе намагацца аспрэчыць у Гуайдо статус лідара апазіцыйных сіл.

Гэта яшчэ без уліку таго, што ў абодвух лагерах ёсць радыкальныя фракцыі. Так, 17 ліпеня Хорхе Радрыгес, спікер парламенту, заклікаў да арышту чальцоў апазіцыйнай палітычнай партыі «Народная воля», і дадаў: «Мы не збіраемся садзіцца за стол перамоваў, калі па іншы бок за ім сядзяць злачынцы, забойцы і тэрарысты».

Гэтыя пасажы выклікалі ў Вашынгтоне нават думку пра тое, ці дарэчны ўвогуле дыялог. Кевін О'Рэйлі, намеснік памочніка сакратара ЗША, заявіў, што арышты і пераследы ў Венесуэле «выклікаюць сумневы наконт сур'ёзнасці Мадура ў арганізацыі свабодных і справядлівых выбараў».

З іншага боку, апазіцыя адразу падзялілася наконт таго, удзельнічаць у лістападаўскіх выбарах ці байкатаваць іх. Некаторыя лічаць неэтычным удзел у выбарчай кампаніі без папярэдняй шырокай палітычнай амністыі. «Мы патрабуем спынення рэпрэсій і пераследаў, неадкладнай свабоды ўсіх грамадзянскіх і ваенных палітычных зняволеных, а таксама поўных і безумоўных гарантый вяртання выгнаннікаў», — заявіў спікер адной з такіх партый. Каментуючы гэтую заяву, адзін з венесуэльскіх палітолагаў піша пра наяўнасць у адміністрацыі прэзідэнта стратэгіі па дэзарганізацыі і расколе апазіцыі напярэдадні выбараў.

З улікам усяго апісанага, нават пачатак перамоваў можна будзе лічыць прарывам. Зрэшты, нельга выключаць, што бакі проста ўздымаюць стаўкі. Дыялог у фармаце «апазіцыя-ўлада» — вельмі складаны працэс, дзе гульня ідзе па сваіх правілах. Так што будземназіраць і вучыцца.

# Не гуляйце з мігрантамі!

Алег НОВІКАЎ

**Калі назіраеш за падзеямі на беларуска-літоўскай мяжы, міжволі ўспамінаецца аналагічны канфлікт з-за мігрантаў паміж ФРГ і ГДР, які здарыўся 35 гадоў таму.**



Прыкладна з сярэдзіны 1980-х гадоў іміграцыя замежнікаў у Заходнюю Германію стала адыгрываць заўважную ролю ў палітычнай барацьбе паміж ГДР і ФРГ. Справа ў тым, што ўлады ГДР пачалі правозіць на Захад усё больш і больш тых, хто прасіў прытулку, з краін «трэцяга свету» праз аэрапорт Шэнефельд ва Усходнім Берліне.

Знешне, дарэчы, усё было законна, паколькі Берлін меў адмысловы прававы статус, які юрыдычна дазваляў усім ахвочым з Усходняга сектара горада трапляць у Заходні. Гэта, праўда, на практыцы не тычылася ўсходніх немцаў, якім было трэба атрымаць ад адпаведных органаў дазвол на выезд.

А атрымаць яго было няпроста. У дадатак любая спроба перасекчы мяжу нелегальна магла мець фатальныя наступствы. Памежнікі атрымалі загад страляць па парушальніках мяжы ГДР з Усходу. Паводле гісторыкаў, за час існавання мяжы больш за тысячу чалавек загінулі пры спробе пераадолець «жалезную заслону». Цікава, што сярод забітых за спробу збегчы на Захад былі і савецкія жаўнеры, не кажучы пра два дзясяткі нямецкіх падлеткаў.

Ахвярамі мяжы сталі і некалькі ўсходнегерманскіх памежнікаў, прычым частка з іх была памылкова забітая сваімі ж салдатамі: іх прынялі за ўцекачоў, якія спрабавалі перайсці мяжу на Захад. А вось мігрантам з краін перыферыі лёс трапіць пад стрэлы памежнікаў не пагражаў. Улады ГДР далі ім права вольна пераходзіць мяжу.

Першымі праз Шэнефельд у Заходні Берлін прыкладна ў 1983 годзе масава заехалі ўцекачы са Шры-Ланкі. Калі верыць сучасным публіцыстам, гэта адбылося трошкі хаатычна. Толькі тады кіраўніцтва ГДР даўмелася, што на гэтай тэме можна рабіць бізнес.

Мігрантам з «трэцяга свету» прапаноўвалася за пэўную суму адпаведная паслуга па пераправе на Захад. Пакет паслуг уключаў нават прамы аўтобусны трансфер з Шэнефельда на станцыю Фрыдрыхштрасэ, адкуль мігранты маглі лёгка дабрацца па чыгунцы да Заходняга Берліна. Паколькі «трэці свет» заўжды быў багаты на этнічныя канфлікты і грамадзянскія войны, у жадаючых трапіць на Захад дэфіцыту не назіралася.

Неўзабаве ўлады ФРГ зразумелі, што сутыкнуліся з сур'ёзнай праблемай. Колькасць просьбаў прытулку ў краіне павялічылася з 19 737 да 35 278 у перыяд з 1983 па 1984 год. І больш за 60 працэнтаў тых, хто прасіў прытулку, заехалі праз Усходні Берлін — пры ветлівай падтрымцы ўладаў ГДР. Хадзілі чуткі, што на гэтым усходненямецкія камуністы зарабілі 32 мільёны нямецкіх марак.

Аднак у Заходнім Берліне ніхто не ведаў, як закрыць «дзірку» на станцыі Фрыдрыхштрасэ. Любыя змены парадку памежнага кантролю патрабавалі згоды краін-пераможцаў у Другой сусветнай вайне. Пры гэтым было зразумела, што знайсці паміж імі кансенсус практычна нерэальна. У дадатак, як тады высветлілася, Канстытуцыя ГДР дзіўным чынам надавала грамадзяніну любой краіны права на вольны транзіт праз яе тэрыторыю.

Акрамя таго, у дэмакратычнай традыцыі ФРГ права любога чалавека на палітычную міграцыю нават не абмяркоўвалася. Менавіта з колаў палітычных мігрантаў-антыфашыстаў пасля 1945 года фарміравалася палітычная эліта новай дэмакратычнай Германіі. А Вілі Брант, які ў часы нацызму хаваўся ад рэпрэсій у Скандынавіі, нават стаў канцлерам. Таму крытыкаваць міграцыю з ГДР доўгі час лічылася палітычна некарэктным.

Між тым, набліжаліся федэральныя выбары 1987-га, на якіх праблема міграцыі з Усходу хвалявала 75 працэнтаў выбаршчыкаў. Менавіта на гэтай тэме кансерватараў вырашылі абысці эсдэкі. У выпадку абрання іх кандыдата на пасаду канцлера, яны выказалі намер прызнаць пашпарты ГДР як дакументы нямецкіх грамадзян.

Рэалізацыя такога рашэння была б гістарычнай і прававой перамогай стваральнікаў праекту ГДР. У такім выпадку Федэратыўная Рэспубліка Германія павінна была адмовіцца ад многіх пастулатаў сваёй Канстытуцыі. Напрыклад, прызнаць ГДР у прававым плане роўнай сабе нямецкай дзяржавай. Сама ж схема аб'яднання Германіі павінна была выглядаць інакш.

Занепакоіліся пытаннем перамоваў эсдэкаў і ўсходніх камуністаў і хрысціянскія дэмакраты. Прызнанне пашпартоў ГДР для іх выбаршчыкаў было непрымальным. А вось фінансавую і тэхналагічную дапамогу на адрас ГДР у якасці кампенсацыі за блакаду трафіку мігрантаў Бон дапускаў.

Не дзіўна, што рэакцыя Усходняга Берліна на прапанову эсдэкаў і абяцанні кансерватараў была неадкладнай. Адразу ж абвясцілі, што ў будучыні толькі тыя мігранты, якія маюць візу ў Федэратыўную Рэспубліку, могуць выкарыстоўваць транзіт праз Шэнефельд.

Усё гэта адразу ж адбілася на статыстыцы: у 1987 годзе колькасць тых, хто прасіў прытулку ў ФРГ, значна ўпала. Аднак джокер пад назвай «міграцыя» дапамог ГДР толькі ў сярэднетэрміновай перспектыве.

І справа нават не ў тым, што эсдэкі прайгралі федэральныя выбары ў 1987 годзе. Аказалася, што гульня ў міграцыю кепска паўплывала на градус лаяльнасці ўнутры ГДР. Санкцыянаваны ўладамі вольны выезд для мігрантаў на Захад выклікаў крыўду сярод усходніх немцаў, якім такія падарожжы былі недаступныя. Масавы нелегальны выезд з ГДР на Захад стаў галоўным каталізатарам пратэстнага руху.

З часам патрабаванне права на наведванне ФРГ стала адным з чыннікаў рэвалюцыі 1989-га, якая і пахавала «першую нямецкую дзяржаву рабочых і сялян». Прычым людзі, якія зламалі Берлінскі мур, па заканадаўстве ФРГ, як ні дзіўна, таксама былі нелегаламі. Аднак гэтым разам усе віталі такіх «нелегалаў». Ноч з 9 на 10 лістапада 1989-га, калі быў разбураны Берлінскі мур, таксама называюць «ноччу сустрэчаў».

Інструменталізацыя мігрантаў у палітычных мэтах — справа вельмі рызыкоўная.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Славі Трыфанаў



Балгарскі шоумэн, які пайшоў у вялікую палітыку, яшчэ раз засведчыў адметную палітычную культуру грамадзян Усходняй Еўропы: яго партыя на мінулых выходных выйграла парламенцкія выбары. «Ёсць такі народ» (так называецца структура Трыфанава) атрымала больш за 20 працэнтаў галасоў выбаршчыкаў. Бліжэйшы канкурэнт — Партыя за еўрапейскае развіццё Балгары — нават не перакрочыла бар'ер у 15 працэнтаў.

Адметнасць сітуацыі і ў тым, што назва партыі-пераможцы паходзіць ад назвы папулярнага шоу на тэлебачанні, якое вядзе Трыфанаў, і якое так і называецца: «Ёсць такі народ». Не выклікалі ў выбаршчыка кагнітыўнага дысанансу і экстравагантныя пункты выбарчай праграмы. Так, у выпадку перамогі на выбарах Славі Трыфанаў абяцаў запусціць у космас аж двух балгарскіх касманаўтаў.

З іншага боку, матывы выбару электарату можна зразумець. Галасаванне за партыю артыста — хіба не лепшы спосаб паказаць дулю карумпаванаму картэлю старых партый. Пры гэтым назіраецца дзіўная з'ява: партыі, якія пазіцыянуюць сябе як партыі барацьбітоў з карупцыяй, балгарам не цікавыя. А вядучая з такіх партый ледзь набрала на апошніх выбарах 5 працэнтаў.

### Ашраф Гані



Прэзідэнт Афганістана блізкі да таго, каб страціць уладу. Пасля таго, як амерыканцы пачалі эвакуацыю з краіны, талібам хапіла літаральна некалькіх тыдняў, каб узяць пад кантроль большую частку краіны. Жаўнеры афганскай арміі масава дэзерціруюць, што ў тым ліку выклікае пытанне: чаму кіраўніцтва NATO доўгі час хлусіла пра баяздольнасць створанай ім афганскай арміі? І яшчэ атрымлівала на тую падрыхтоўку велізарныя сродкі.

Парадаксальна, аднак на цяперашні дзень галоўнай надзеяй Ашрафа Гані з'яўляюцца... атрады жанчын, якія стыхійна фармуюцца на месцах. Матывы для абароны дэмакратыі ў жанчын вельмі простыя і зразумелыя. На захопленых тэрыторыях тэрарысты ўводзяць новыя законы, заснаваныя на радыкальным тлумачэнні ісламскіх нормаў. Паводле правілаў талібаў, жанчыны пазбаўляюцца большасці правоў: напрыклад, забараняецца паказвацца на вуліцы з адкрытым тварам і без суправаджэння мужчыны. Жанчыны пазбаўляюцца права на свецкую адукацыю (у тым ліку навучанне грамаце і матэматыцы) і могуць быць выдадзеныя замуж прымусова. За парушэнне любых правілаў і законаў прадугледжаны суровыя пакаранні, пераважна — цялесныя: ад публічнай лупцоўкі да пабівання камянямі.

Увядзенне такіх жорсткіх правілаў прывяло да таго, што многія афганскія жанчыны ствараюць атрады самаабароны і гатовыя сур'ёзна змагацца. Як піша прэса, у сувязі з тым, што ва ўрада Афганістана амаль не засталося верных вайсковых частак, улады плануюць выкарыстоўваць жанчын у якасці апошняга рэзерву.

### Аляксей Арастовіч



Пазаштатны дарадца кіраўніка Офіса прэзідэнта Украіны шакаваў палітыкум заявамі пра тое, што Украіна можа ў самы бліжэйшы час здзейсніць геапалітычны разварот у бок Усходу, у прыватнасці, Кітая, Турцыі і Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў. Такі ход ён аргументуе тым, што ў Еўрасаюзе і ЗША пачалі ўзмацняцца «прарасійскія настроі» ў кантэксце глабальнага супрацьстаяння Захаду з Кітаем.

«І заходняя эліта, і ваенна-палітычнае кіраўніцтва Захаду раскалоліся. Нават у Злучаных Штатах у атачэнні прэзідэнта Байдэна ёсць людзі, якія хацелі б, як яны кажуць, нармалізацыі адносінаў з Расіяй. Страх некаторых асобаў на Захадзе перад Кітаем настолькі вялікі, што яны хочуць перацягнуць Расійскую Федэрацыю на бок Захаду, нават коштам навязвання Украіне расійскага варыянту вырашэння расійска-ўкраінскага канфлікту», — кажа Арастовіч, асцярожна намякаючы на падтрымку гэтай версіі Зяленскім.

Сапраўды, пасля таго, як Меркель адмовілася кампенсаваць Украіне наступствы рэалізацыі праекта «Паўночны паток-2», Зяленскі дэманстратыўна патэлефанаваў Сі Цзіньпіну. Адначасова адзін з дэпутатаў партыі прэзідэнта заклікаў аднапартыйцаў арыентавацца на вопыт кітайскай Кампартыі.

Зрэшты, пакуль большасць палітолагаў сумняваюцца ў тым, што Зяленскі можа сысці «пад Кітай». Зрабіць такі геапалітычны паварот будзе няпроста ў краіне, чыя эліта трымае грошы на Захадзе, а людзям доўгі час даводзілі, што іх будучыня — інтэграцыя ў Еўропу.

# Выгнаныя з краю:

Павел БУЛАТЫ

**Пакінуць сваю краіну, каб ратаваць жыццё, — не новая з'ява ў нашай гісторыі. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай вялікія хвалі палітычнай эміграцыі ўздымаліся пасля кожнай буйной акцыі супраціву імперы. Удзельнік паўстання і эмігрант Ігнат Дамейка ў сваіх успамінах адкрывае асаблівасці жыцця выгнанцаў 1830-х гадоў.**

Пасля падаўлення Лістападаўскага паўстання лёс яго ўдзельнікаў склаўся па-рознаму: адных чакала смяротнае пакаранне альбо доўгае зняволенне і катарга, другіх — вымушанае выгнанне за межы краіны. Вялікае злучэнне паўстанцаў на чале з генераламі Гелгудам і Хлапоўскім, якое пацярпела паразу пад Вільня ўлетку 1831 года, аказалася адрэзаным ад асноўных сіл супраціву. Правадыры вырашылі ісці ў Прусію, да мяжы якой аказаліся прыцiснуты войскам Расійскай імперыі. У гэтых шэрагах аказаўся і Ігнат Дамейка, які на свае вочы пабачыў пачатак выгнання і жыццё палітычных эмігрантаў у Еўропе. Усё гэта ён праз гады апіша ў мемуарах.

## «Ганебны пераход у прусы»

Чаму ганебны? Прусія і яе ўрад лічыліся варожымі да былой Рэчы Паспалітай: бо гэта краіна мела дачыненне да падзелаў РП і ліквідацыі яе з палітычнай карты Еўропы некалькі дзесяцігоддзяў таму. Дарэчы, паўстанцы ратаваліся не толькі ў Прусіі: тыя злучэнні, якія змагаліся на поўдні, пераходзілі ў Аўстрыю, што таксама была варожая да Рэчы Паспалітай.

Самым драматычным момантам пераходу было само перасячэнне мяжы і раззбройванне паўстанцаў. «Жорсткі боль працяў мяне, калі ўбачыў, як атрад нашых жаўнераў заходзіць на крыжацкую зямлю», — пісаў Дамейка. Паўстанцаў, якія перайшлі мяжу, ужо чакалі прускія жаўнеры краёвай абароны, каб раззброіць. Уланы злазілі з коней, адшпільвалі палашы, кідалі іх у кучу, а на іх — свае белыя і чырвоныя харугвачкі. Прускія жаўнеры ўсіх паўстанцаў суправадзілі на шырокі луг, дзе тыя, пад наглядам, сталі вялікім табарам.

Правадыры паўстання спадзяваліся на маніфест прускага караля, які гарантаваў праход паўстанцаў і расійскіх войскаў па сваёй тэрыторыі. Толькі была адна акалічнасць: рускім было дазволена вяртацца з Прусіі са зброяй, паўстанцам жа — толькі раззброенымі. Асабістую зброю і коней прусы пакідалі толькі афіцэрам, у салдат зброю і коней забіралі, каб потым перадаць рэквізаванае расійскаму боку. Гэты пераход у прусы фактычна азначаў ліквідацыю паўстанцкага войска. Усё, што адбывалася з пераходам мяжы, Дамейка справядліва назваў капітуляцыяй без бою.



Эмігранты ў Еўропе

## Два месяцы карантыну

Паўстанцы-эмігранты, што перайшлі мяжу з Прусіяй, сутыкнуліся з істотнай праблемай — эпідэміяй халеры, якая лютавала на памежжы і ў глыбіні краю. З нагоды абвастрэння гэтай хваробы прускі ўрад абвясціў уздоўж усёй сваёй мяжы карантын. Паўстанцы трапілі ў ізаляцыю тэрмінам на 2 месяцы. Іх усіх адвялі ад мяжы ў мясціну, якая называлася Ашэкен (недалёка ад Клайпеды), дзе, спаслаўшыся на карантын, трымалі пад пільнай вайсковай вартай.

Раззброеную армію прусакі змясцілі ў невялікім былым фальварку, дзе стаяў дамок (яго прыстасавалі пад шпіталь, бо ў табары паўстанцаў было яшчэ шмат параненых) і два гумны, дзе на саломе спалі ўпокат паўстанцы. У такіх умовах былых жаўнераў апанавала нуда і жарсць да розных забавак.

Каля месца карантыну адразу ж з'явіўся гандляр з Клайпеды, які наладзіў гандаль віном і рознымі гатункамі пітва, хлебам і мясам. У атмасферы нудоты і нявызначанага чакання сярод жаўнераў пачыналіся кпіны, ад кпінаў пераходзілі да абразаў, сярод афіцэраў даходзіла да паядынкаў на палашах. Неўзабаве, як піша Дамейка, з'явілася іншае зло: цэлымі днямі гралі ў карты, грошы, якіх і так было няшмат, пераходзілі з рук у рукі і прападалі ў гандляра гарэлкай. З Клайпеды да паўстанцаў прыязджалі розныя купчыкі з бытавымі дробязямі, прыбывалі фурманкі з жанчынамі ніздобрай славы. Так і цягнуліся, па словах Дамейкі, тыя нязносныя дні карантыну.



Паўстанец-эмігрант

## Прускія інтрыгі

Сітуацыя з паўстанцамі змянілася ў верасні 1831 года, калі расійскія войскі штурмам узялі Варшаву. Раптоўна прускія жаўнеры сталі больш лагоднымі — дазвалялі карантынным наведваць Клайпеду, карыстацца фурманкамі... Але тое залагоджванне не ўзнікла на роўным месцы, за ім хаваліся палітычныя інтрыгі Прусіі.

Літаральна праз некалькі дзён пасля падзення Варшавы ў лагеры паўстанцаў з'явіўся прускі ваенны камендант і павэдаміў: тых паўстанцаў, хто дасць пісьмовую заруку, што не будзе браць удзел ва ўзброеным супраціве, вызваляць з-пад варты. Як паведамляе Дамейка, «ніхто не падпісаў такой паперы, нават чуць пра дамову не захацеў».

Пасля ўсеагульнай адмовы падпісаць заруку, прускі ўрад пайшоў на іншую хітрасць. Амаль адразу ўсіх паўстанцаў морам пераправілі ў іншую мясцовасць у невялікае мястэчка на Балтыйскім узбярэжжы. Там паўстанцаў запрасіў на прыём пасланец мясцовай улады. Калі палякі і літвіны прыйшлі туды, іх сустрэў прускі чыноўнік высокага рангу, які сядзеў за вялікім сталом. На тым стале стаяла два мяхі з грашыма, папера, пяро і атрамант. Дамейка згадвае, што «саноўны прусак ветліва звярнуўся да нас, нагадаў, як блізка да сэрца прымае кароль наш лёс ды тэрмінова ахвяруе нам матэрыяльную дапамогу». Канешне, грамадзе паўстанцаў такі крок спадабаўся, усе ахвотна пасунуліся да стала. Прускі чыноўнік пачаў ужо было плаціць дапамогу і няўзнак сказаў, што трэба, каб на паперы, напісанай па-нямецку, паўстанцы паставілі свае подпісы. Гэты крок нікога спачатку не засмучаў, меркавалі, што гаворка ідзе аб распісцы за атрыманыя грошы. Але знайшоўся паўстанец, які ведаў нямецкую мову, і выкрыў хцівы план прусакоў. У той паперы было дэкляраванне, што паўстанец, які яе падпісаў, пасля вяртання не ўздыме зброі супраць непрыяцеля. Саноўнік пераконваў ваяроў, што гэты подпіс не заплямiць іх гонар, але ўрэшце разгневаўся і ўцёк з грашыма. Паўстанцы паднялі яго на смех.

Літаральна праз некалькі гадзін з'явіліся прускія жаўнеры — і паўстанцаў заключылі ў крэпасць Пілаў (сучасны горад Балтыйск), спасылаючыся на тое, што для іх нібыта не былі падрыхтаваныя месцы побыту. У замку паўстанцаў пратрымалі два тыдні, а затым — разбілі на невялікія групы па пяць-дзесяць чалавек і рассялілі па прускіх мястэчках. Там выгнанцы пражылі да канца снежня 1831 года. Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што мясцовыя жыхары досыць ветліва ставіліся да паўстанцаў: гасцінна запрашалі на абеды і вечарыны, а краёвы ўрад плаціў кожнаму па 30 талераў дапамогі на месяц.

# лёс эміграцыі 1830-х



Эмігранты ў Еўропе

## Выбар паўстанца: амністыя ці выгнанне

Першы дзень новага 1832 года прынёс перамены ў становішчы і побыце выгнаных у Прусію паўстанцаў. З Берліна прыйшоў загад, каб тых эмігрантаў-афіцэраў, якія не хочуць прасіць амністыі ды вяртацца на радзіму, як мага хутчэй высылалі ў Францыю. Тых жа, хто просіць амністыю, можна было пакінуць у Прусіі, а кароль абавязваецца заступіцца за іх перад расійскім імператарам. Паўстанцы мала давяралі абяцанням караля, да таго ж ва ўрадавых распараджэннях гаворка вялася толькі аб афіцэрах, пра салдат там не было ні слова. У колах паўстанцаў баяліся, што простых жаўнераў Прусія проста выдасць на літасць Расіі (у выніку праз некалькі гадоў пасля зняволення і цяжкіх працаў прускі ўрад выслаў жаўнераў на караблях у Амерыку і Алжыр).

Прускі ўрад асабіста кожнаму паўстанцу даслаў запыт з пытаннем і патрабаваў рашэнне: падпісаць просьбу пра амністыю альбо выправіцца ў эміграцыю. Дамейка піша, што ў гэтай сітуацыі шмат хто аказаўся ў цяжкім становішчы. З аднаго боку стаялі сваякі, якія клікалі паўстанцаў на радзіму і давяралі абяцанай амністыі. З другога — паўстанцаў стрымлівалі калегі, вера ў слушнасць справы, надзея на вайну — некаторыя верылі, што еўрапейскія краіны вось-вось абвесцяць вайну Расіі. Таксама Дамейка задаваўся пытаннем: ці не з'яўляецца ганьбай для афіцэраў кінуць жаўнераў, з якімі яны прайшлі ўсю кампанію?

Нарэшце 1 студзеня 1832 года прускі ўрад пачаў дзейнічаць. Усіх, хто не хацеў падпісваць просьбу аб амністыі, пачалі фурманкамі па 20–30 чалавек выпраўляць падалей ад мяжы — у Франкфурт-на-Одэры, Страсбург... Тым, хто хацеў ехаць за свой кошт, прусы давалі пашпарты ў Францыю і аказвалі грашовую дапамогу. Сам жа Дамейка выправіўся ў Дрэздэн, дзе сустрэў свайго сябра Адама Міцкевіча і іншых ранейшых выгнанцаў з радзімы.

У Дрэздэне эмігранты добра абжыліся, Дамейка з прыяцелямі-выгнанцамі там без клопату, бавячы час у вандроўках і знаёмстве са спадчынай Саксоніі, пражылі зіму-вясну 1832 года. Але палітычныя гульні і інтрыгі Расійскай імперыі перашкодзілі побыту ў саксонскай сталіцы. Як адзначае Дамейка, расійскі консул моцна налягаў на саксонкі ўрад. Ён патрабаваў прымусіць паўстанцаў падпісаць просьбу аб амністыі альбо выгнаць іх з краіны. Кароль і міністры не маглі супрацьстаяць патрабаванням Расіі — і напрыканцы чэрвеня саксонская паліцыя пачала непакоіць усіх эмігрантаў, якія не хацелі прасіць амністыі, хоць тыя і не патрабавалі падтрымкі ўрада, бо мелі ўласныя сродкі для асабістага забеспячэння. І вось, у першых лічбах ліпеня з Дрэздэна загадалі выехаць 11 эмігрантам, сярод якіх былі Дамейка і Міцкевіч. Так, праз Страсбург, пакручастым і прыгодніцкім шляхам у жніўні 1832 года яны трапілі ў Парыж.



Vente de charité, au profit des Polonais indigents, organisée à l'hôtel Lambert par la princesse Czartoriska.

Супольнасць эміграцкіх колаў арганізацыі «Гатэль Ламберт»

## Парыж — сталіца эміграцкай Рэчы Паспалітай

У 1832 годзе Парыж, радзіма Вялікай Французскай рэвалюцыі, быў галоўным прытулкам для выгнанцаў з падзеленай Рэчы Паспалітай ужо не адно дзесяцігоддзе. Першая справа, якую зрабіў выхаванец Віленскага ўніверсітэта Дамейка, калі трапіў сюды, — агледзеў галоўныя гістарычныя і культурныя славутасці, а ўжо затым — далучыўся да эміграцкіх колаў. Дзякуючы пратэкцыі старэйшых эмігрантаў ён атрымаў дазвол на побыт, а разам з ім грашовую дапамогу ў 60–70 франкаў штомесяц.

Эмігранты з былых земляў Рэчы Паспалітай у Парыжы жылі і дзейнічалі яшчэ з часоў падзелаў, але на моцнай хвалі выгнання пасля лістападаўскага паўстання ў французскай сталіцы нават сфарміравалася некалькі арганізацый. Сярод іх — «Гатэль Ламберт» на чале з князем Адамам Чартарыйскім, Польскае дэмакратычнае таварыства, «Маладая Польшча», якую ўзначальваў прафесар Віленскага ўніверсітэта Іаахім Лялевель, і «Грамады польскага народа» (кіраўнік Станіслаў Ворцель). Галоўная мэта ўсіх эміграцкіх аб'яднанняў была адна — адраджэнне незалежнай Рэчы Паспалітай, а вось бачанне шляхоў яе дасягнення было ва ўсіх рознае. На гэтай глебе цягам дзесяцігоддзя паміж супольнасцямі адбываліся вострыя канфлікты, узаемныя знявагі і жорсткая крытыка, выкрыцці і абвінавачванні ў здрадзе... Некаторыя, як адзначае Дамейка, прычынай канфліктаў і непаразуменняў ва ўнутраных эміграцкіх колах бачылі «маскоўскія грошы, якія ўчынілі падзел і сеялі нянавісць».

Галоўным апекуном і пратэктарам ідэй эміграцыі быў знакаміты французскі палітык і рэвалюцыянер Жыльбер Лафает. Хоць грамадскаму дзеячу было ўжо за семдзясят, аднак ён актыўна прасоўваў ва ўрадзе інтарэсы эміграцыі і акцэнтаваў увагу грамадскасці на праблемах паўстання на землях былой Рэчы Паспалітай. Лафает часта збіраў на сваёй кватэры прадстаўнікоў эміграцыі, даваў прыёмы ў гонар герояў паўстання. Па-сутнасці, эмігранты трымаліся і іх было чуваць у грамадскім полі, пакуль быў жывы Лафает. Пасля яго смерці ў 1834 годзе становішча выгнанцаў кардынальна змянілася. Дамейка адзначае, што дзень смерці Лафаета «быў жалобны дзень для нашых бадзягаў, хавалі апошняга нашага прыяцеля, шчырага нашага абаронцу ў Францыі».

Самі выгнанцы канчаткова расчараваліся ў дапамозе краін Заходняй Еўропы: вайну Расіі ніхто абвяшчаць не збіраўся, істотна скарацілася матэрыяльная дапамога выгнанцам, чыноўнікі ставіліся з большай прахалодай да праблем паўстанцаў... Замоўклі і газеты, тэма паўстання і паўстанцаў іх ужо не цікавіла. Большасць эмігрантаў самастойна працавала, зарабляла на жыццё. Эміграцкія ж арганізацыя яшчэ працягвалі ўзаемныя склокі і, як пісаў Дамейка, нібыта апіўшыся, уцягваліся ў розныя секты, клубы, змовы і сакрэтныя інтрыгі. Хоць мэты і мары былі ва ўсіх аднолькавыя: вярнуцца на радзіму.



### Эміграцкі пастскрыптум

*Сам Дамейка пасля заканчэння Горнай школы пакінуў Парыж і выехаў у Паўднёвую Амерыку. Так і большасць эмігрантаў заняліся мірнымі справамі, адзінкі працягвалі палітычную барацьбу за межамі сваёй краіны. Праз 50 гадоў Дамейка зноў прыехаў у Парыж і наведаў эміграцкае кола, якое там яшчэ заставалася. Ён пайшоў на імшу ў касцёл, дзе збіраліся выгнанцы, і ўбачыў там «з пяцьдзясят лысых, ссівелых, сагнутых старых і ўдвая менш жанчын рознага ўзросту. Гэта былі рэшткі нашай эміграцыі, хоць з 1832 года яна яшчэ абнаўлялася ўдзельнікамі іншых паўстанняў».*

***

*Ігнат Дамейка (1802–1889) — сябар таемнага таварыства філаматаў, адзін з самых знакамітых выпускнікоў Віленскага ўніверсітэта, удзельнік Лістападаўскага паўстання 1830–1831 гадоў, навуковец-геолаг. Большую частку жыцця правёў у Чылі, дзе заслужыў высокую пашану: яго імем названая малая планета і горны хрыбет, мінерал дамейкіт і малюск, гатункі кветак і кактуса, невялікі горад у Чылі і з дзясятак вуліц па ўсім свеце. Пра сваё доўгае жыццё Дамейка пакінуў мемуары.*

# ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Павіншуйце палітвязняў паштоўкай ці тэлеграмай або адпраўце грашовы перавод да свята. А яшчэ ў вас ёсць магчымасць даслаць віншаванне ў рэдакцыю, а мы яго надрукуем. Знаёмім вас з тымі, у каго дзень народзінаў напрыканцы ліпеня — у пачатку жніўня.**

## 27 ліпеня

40-годдзе за кратамі адзначыць **Максім Аляксандравіч Вінярскі** — актывіст грамадскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь». З'яўляецца прынцыповым і даўнім апанентам існуючага ў краіне палітычнага рэжыму. За сваю выключна мірную апазіцыйную, публічную палітычную дзейнасць ён неаднаразова падвяргаўся рэпрэсіям з боку дзеючай улады: штрафам, адміністрацыйным арыштам, збіццю, запалохванням і ціску.

22 студзеня быў затрыманы супрацоўнікамі ГУБАЗіК МУС. 25 траўня ў Магілёўскім абласным судзе абвясцілі прысуд па крымінальнай справе супраць сямі палітвязняў: сустаршыні аргкамітэта па стварэнні партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя **Паўла Севярынца**, блогера **Змітра Казлова**, грамадскай актывісткі **Ірыны Шчаснай**, актывістаў «Еўрапейская Беларусь» **Яўгена Афнагеля**, **Паўла Юхневіча, Максіма Вінярскага** і **Андрэя Войніча**. Суддзя **Ірына Ланчава** асудзіла палітвязняў Паўла Севярынца, Яўгена Афнагеля і Андрэя Войніча да 7 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму, Паўла Юхневіча, Дзмітрыя Казлова і Максіма Вінярскага — да 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму, Ірыну Шчасную — да 4 гадоў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.

## 28 ліпеня

38 гадоў споўніцца **Кірылу Аляксандравічу Казею** — жыхару Мінска. Да затрымання працаваў у кампаніі, якая прадае кампутарную тэхніку. Жанаты, ёсць дзеці 7 і 10 гадоў.

*«Дзеці вельмі сумуюць, таму што так шчыра і з поўнай аддачай гуляць у даганялкі,*



*хованкі, ладзіць квэсты і ўсякія розыгрышы — я, шчыра кажучы, не ўмею. Атрымлівацца, што ўсе ўспаміны пра тату ў дзяцей — гэта суцэльнае свята! Мы — спартыўная сям'я. Летам — ровары, узімку — горныя лыжы. Кірыл яшчэ і аматар бегу. Чатыры апошнія гады ўдзельнічаў у Мінскім паўмарафоне на дыстанцыі 21 км. А яшчэ мы не можам жыць без паездак і падарожжаў. Думалі ў гэтым (2021) годзе, улічваючы, што межы закрытыя, актыўна паездзіць па Беларусі, паказаць дзецям родную гісторыю. Шкада, планы былі жорстка парушаныя…»* — распавядае пра Кірыла яго жонка.

Казея абвінавацілі па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса: падрыхтоўка да здзяйснення асабліва злоснага хуліганства (ч. 1 арт. 13, ч. 3 арт. 339 КК), падрыхтоўка да наўмыснага знішчэння альбо пашкоджання маёмасці (ч. 1 арт. 13, ч. 2 арт. 218 КК), незаконнае захоўванне боепрыпасаў (ч. 3 арт. 295 КК).

На судзе Кірыл Казей распавёў падрабязна пра затрыманне, пра гвалт, які чынілі амапаўцы, пра пагрозы і здзекі ў РУУС з боку міліцыянтаў.

31 сакавіка суддзя суда Заводскага раёна Анжэла Касцюкевіч агучыла прысуд: **7 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму**.

Адрас для лістоў: СІЗА –1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарская, 2.

## 29 ліпеня

**30-годдзе сустрэне за кратамі Сяргей Юр'евіч Богдан** — жыхар Баранавічаў, абвінавачаны паводле **ч. 1 арт. 14, арт. 309 КК** (Наўмыснае



прывядзенне ў нягоднасць шляхоў зносін і замах на гэта злачынства).

Абвінавачаныя — Сяргей Богдан, Уладзімір Ланкевіч і Віктар Іванцоў — нібыта праводзілі спробы заблакаваць рух чыгуначнага транспарту. У двух выпадках блакаванне спрацавала: у выніку быў парушаны рух цягнікоў.

Богдан асуджаны да **трох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.**

Адрас для лістоў: ПК №15. 213105, г. Магілёў, п/а Вейна, Слаўгарадская шаша 183.

## 30 ліпеня

23-годдзе за кратамі сустрэне **Ілля Анатольевіч Мігно** — студэнт Брэсцкага політэхнічнага ўніверсітэта. 18 жніўня быў затрыманы на працы ў Мастаатрадзе па падазрэнні ў масавых беспарадках. Пра затрыманне Іллі бацькі даведаліся ад адваката. У доме, дзе жыве Ілля, быў праведзеныператрус. 10 сакавіка ў судзе Маскоўскага раёна Брэста Іллі і яшчэ 8 іншым фігурантам гэтай крымінальнай справы вынеслі прысуды. Ілля Мігно атрымаў **чатыры з паловай гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

Адрас для лістоў: ПК №15. 213105, г. Магілёў, п/а Вейна, Слаўгарадская шаша 183.

30-годдзе адзначыць **Максім Ігаравіч Ялканаў** — жыхар Рэчыцы. Быў затрыманы на працы 9 сакавіка.



Яго папрасілі праехаць для гутаркі да следчага, але на волю ён так і не выйшаў. Удачыненні да яго завялі крымінальную справу аб арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак і спалучаныя з адкрытым непадпарадкаваннем прадстаўнікам улады.

Тое, што палічылі арганізацыяй нейкіх парушэнняў парадку, — гэта некалькі тэлефанаванняў **Максіма Ялканава** сваім даўнім сябрам, роднаму і стрыечнаму братам з прапановай прайсціся ў цэнтр Рэчыцы. Максім прапанаваў пасля працы сустрэцца на альтанцы на вуліцы Сняжкова ў Рэчыцы і адтуль прайсці на плошчу ў цэнтры горада. Хлопцы хацелі пабачыць, ці сапраўды ў гарадах Беларусі адбываюцца гэткія жорсткія сутыкненні паміж насельніцтвам і ўрадавымі структурамі. Ужо на плошчы, дзе не адбывалася нічога, што можна было б лічыць парушэннем парадку, хлопцы вырашылі з'ездзіць у Гомель і пабачыць, як праходзяць пратэсты ў другім па велічыні горадзе краіны. У Гомелі хлопцы паспелі толькі выйсці з прыпаркаванай машыны і прайсці некалькі соцень метраў, як былі затрыманыя сілавікамі. Яны нават не бачылі аніякіх пратэставых падзеяў.

18 чэрвеня суддзя Сяргей Салоўскі, які разглядаў справу, вынес Максіму Ялканаву прысуд у выглядзе **аднаго года і шасці месяцаў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў калоніі агульнага рэжыму.**

У тэрмін адбыцця пакарання залічваецца час знаходжання палітвязня пад вартай з 9 сакавіка 2021 года з разліку адзін дзень утрымання пад вартай за адзін дзень адбыцця пакарання.

Адрас для лістоў: СІЗА–3. 246003, г. Гомель, вул. Кніжная, 1А.

50-годдзе сустрэне за кратамі **Аляксандр Аляксандравіч Кабанаў** — брэсцкі блогер, аўтар youtube-канала «Народны рэпарцёр», прэс-сакратар ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай.



Быў затрыманы 15 чэрвеня, калі пайшоў па выкліку ў паліклініку для кантролю па адбыцці каранціну, і дастаўлены ў ІЧУ Ленінскага раёна Брэста. Суд пакараў блогера арыштам у 15 сутак. Аднак 20 чэрвеня блогер знік з ІЧУ. Яго лёс стаў вядомы праваабаронцам толькі 25 чэрвеня, калі ў бацькоў Аляксандра Кабанава адбыўся ператрус, а сам блогер быў пераведзены ў Мінскае СІЗА1-.

Кастрычніцкі суд Магілёва 14 красавіка вынес прысуд па крымінальнай справе супраць палітзняволеных брэсцкіх блогераў Сяргея Пятрухіна і Аляксандра Кабанава. Суддзя Вольга Краўчанка прызнала іх вінаватымі ў арганізацыі групавых дзеянняў, якія груба парушылі грамадскі парадак (арт. 342 Крымінальнага кодэксу) і знявазе прадстаўніка ўлады ў сувязі з выкананнем ім службовых абавязкаў (арт. 369 КК). Пятрухін таксама прызнаны вінаватым у абразе суддзі Брэсцкага абласнога суда Андрэя Лешчанкі (артыкул 391 КК). **Абодва блогеры пакараныя трыма гадамі зняволення ў калоніі агульнага рэжыму.**

Адрас для лістоў: ПК №1. 211440, г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8.

## 31 ліпеня

28-годдзе адзначыць **Віктар Панцялееў** з Брэста. Яго затрымалі 18 жніўня, змясцілі ў брэсцкую ІЧУ, а праз некалькі дзён перавялі ў СІЗА № 7. Хлопца абвінавачваюць паводле ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса («Удзел у масавых беспарадках,



якія выявіўся ў гвалце над асобай, пагромах, падпалах, знішчэнні маёмасці, узброеным супраціве прадстаўнікам уладаў»), што пагражае пакараннем ад 3 да 8 гадоў пазбаўлення волі. Пад беспарадкамі маюцца на ўвазе падзеі ў цэнтры Брэста 10 жніўня, калі ў горадзе адбываліся сутыкненні пратэстоўцаў з сілавікамі. Фігурантам па гэтай справе праходзяць каля 70 чалавек, якіх пачалі судзіць у Брэсце 15 лютага.

21 траўня Віктар Панцялееў атрымаў **4 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

Адрас для лістоў: СІЗА–6. 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.

## 1 жніўня

46-ты дзень народзінаў сустрэне за кратамі **Віталь Андрэевіч Пракапчук.** Быў затрыманы ў Брэсце 19 жніўня разам з сынам Ягорам.

Абвінавачаны ў межах справы паводле ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса — «Удзел



у масавых беспарадках». 10 сакавіка ў судзе Маскоўскага раёна Брэста Віталю і яшчэ 8 іншым фігурантам гэтай крымінальнай справы вынеслі прысуды. Віталь Пракапчук атрымаў **4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

Адрас для лістоў: ПК №3. 211322, Віцебская вобласць, г.п. Віцьба.

37-годдзе адзначыць **Раман Анатольевіч Багнавец**. Ён



быў затрыманы ў Пінску ў межах крымінальнай справы па масавых беспарадках.

Прад'яўлена абвінавачанне паводле ч. 2 арт. 293 КК. Суд Маскоўскага раёна Брэста 30 красавіка вынес прысуд 14 пінскім палітвязням, якіх абвінавацілі ва ўдзеле ў масавых беспарадках у ноч з 9 на 10 жніўня ў Пінску. Рамана Багнаўца асудзілі **да 6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

Адрас для лістоў: СІЗА.6-225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1233

Падпісана да друку 22.06.2021. 8.00. Наклад 5500 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.